Калі ўжо сам танкіст, то ўсе астатнія для яго, бач ты, пяхота. Гэта мы яшчэ паглядзім. Можа мяне і зусім на флот возьмуць служыць. Ці ў лётчыкі. Ды і мог бы не ляпаць у шыбу, бо калёсы так тарахцелі, што толькі глухі не здагадаецца, хто сядзіць на іх і паганяе каня. Танкіст, канешне ж! Ён танк не інакш пераблытаў з калёсамі.

Пакуль ехалі, Кастусь мумкаў пад нос франтавыя песні і хваліўся, як падбіў варожы танк, а каб не быў кантужаны, то было б тое самае і з іншымі танкамі, што траплялiся б на яго баявым шляху. Вось так. Ні больш ні менш.

— Я механік-вадзіцель, Колька! Гэта табе не абы-хто, а другі чалавек у экіпажы, пасля камандзіра.

Забыў папытаць я ў яго, колькі чалавек усяго ў тым танку экіпаж, мо тры, то няхітра другім быць, і я б змог. Хацеў зрабіць гэта пазней, калі будзем вяртацца назад з дрывамі, аднак тое, што адбылося, перавярнула ўсё ўверх дагары нагамі, і, падалося, на ўсё балота ўпала неба... знянацку і раптоўна абрынулася, я адзічэла крычаў, бегаў вакол Кастуся і не ведаў, што мне рабіць. Ён неяк дзіўна глядзеў на мяне, быў увесь у крыві, твар і адзенне пасечаны асколкамі, глядзеў і не тое скрывіўся ад болю, не тое ад таго, што не мог і сам зразумець, што з ім адбылося. І быццам пытаўся ў мяне: Колька, дык што гэта? А з жыватаываліся ўсе вантробы і, як гэта я раней не ўбачыў, ляжаць у яго на каленях, і пара з іх ідзе... як дым. Я ўтаптаў, не помню як, вантробы назад, дапамог нарэшце беднаму танкісту ўзабрацца на калёсы, легчы і так паганяў каня шпарка, з усіх капытоў, што той неўзабаве стаў мокры — бы ў лазні пабываў... Але паехаў я не ў вёску, а ў мястэчка — у бальніцу. І як дадумаўся да такога, і сам не магу зразумець. Потым дзядзька Хвядос пахваліў мяне:

— Малайчына, што здагадаўся... Калі б яшчэ колькі хвілін, казаў доктар, магчыма, і не было б Кастуся. Добра, што ты не дамоў яго, а адразу ў бальніцу... Кемлівы, аднак. Хвалю. Ну а цяпер раскажы ўсё, як было.

А што тут расказваць? Сякануў Кастусь па кусце сякерай з усяго размаху — і грымнуў выбух, скалануў наваколле...

— Значыць, міна... — здагадаўся дзядзька Хвядос. — Наша ці нямецкая — цяпер ужо ўсё роўна, аднак танкіста шкада: на

вайне ўцалеў, а дома, у мірны час, не ўбярогся. Лёс такі, значыць, у чалавека. Скалечыла хлапца міна. Пальцы паадрывала. Твар знявечыла. Жывот распарола. Але жыць будзе.

Не помню, колькі часу мінула, калі мы з танкістам на балота па дровы ездзілі, аднак Раіса сказала, што ўчора хадзіла да Кастуся і ён перадае мне прывітанне. Выкарабкаўся, адкараскаўся ад смерці. Жывучы Кастусь, нічога не скажаш, бо, як успомню, які быў адразу пасля выбуху, мне і сёння робіцца жудасна, і застаецца толькі здзіўляцца, што дактары змаглі выратаваць яго. А калі ён такі жывучы, то і добра: будзе і ў нашай Гуце свой гарманіст, не горшы за ісканскага Аркашку. Абяцаў жа граць на Грышкавай прызбе. «Вось толькі Сцёпка падрасце!» Можа, і мне збегаць да яго? З Петрыкам? Танкісту весялей будзе. Лекі лекамі, але і мы нешта значым. Дзядзька Хвядос даведаўся, што мы пойдзем праведаць Кастуся, і таксама ўвязаўся за намі. Яшчэ і напомніў:

— Не забудзьцеся ж, жэўжыкі, мяне.

— Не забудзем, — паабяцаў я, а самому радасна зрабілася: яшчэ больш абрадуецца, канешне ж, танкіст, калі ўсіх нас ён убачыць.

Дзед Грышка пашкадаваў, што не даклыпае да бальніцы, аднак прывітанне перадаў.

Без дзеда Грышкі ў нашай Гуце, здаецца, нічога не бывае.

Доктар дазволіў прайсці ў палату. Кастусь, як толькі ўбачыў нас, пастараўся ўсміхнуцца:

— Прывітанне, пяхота...

Каб ён не нагадаў нам пра пяхоту, я б ні за што не паверыў, што пад бялюткай коўдрай ляжыць танксіт. Уся галава забінтавана, толькі вочы ды рот...

Не адразу адказаў на прывітанне яму і дзядзька Хвядос — таксама, відаць, думаў: Кастусь гэта ці хто?

Праклятая міна!

А мне яшчэ падумалася, толькі я пра гэта нікому не сказаў: за такога Кастуся, які ляжаў на бальнічным ложку, Раіса ніколі б замуж не пайшла.

Ад гэтага мне яшчэ больш зрабілася яго шкада.

І не толькі, відаць, мне...

## 10. ДВА ТРАФЕІ

Дзед Грышка касіў у канцы агарода траву, і ў той самы час каля нашай хаты з'явіўся ягоны сын Пятро. У такой жа форме, у якой прыйшоў тады з вайны дзядзька Хвядос, у адной руцэ ён трымаў туга набіты рэчавы мяшок, а ў другой пісклявы зграбны скрутачак — нёс дзіця. Дзед Грышка яшчэ даўно хваліўся: «Мой Пецька без трафея дамоў не вернецца. Ён такі. Разумець трэба». Вось мы з Петрыкам і разумеем: маленькая і худзенькая жанчына, што ідзе побач з Пятром і раз-пораз заглядвае, не прыпыняючы хады, у той скрутачак, нешта папраўляе там і гаворыць немаўляці, — гэта асноўны трафей. А што ў скрутку пісклявае — другі. Так што дзед Грышка пралічыўся — не з адным трафеем вяртаецца з вайны сын, а з двума. І мы, толькі ўбачыўшы Пятра і ягоныя трафеі, шуганулі напрасткі праз агароды, каб паведаміць старому, што нарэшце ён дачакаўся. Дзед Грышка выслухаў нас, а тады спакойна, нібыта кожны дзень такое бывае ў яго, сказаў, уторкнуўшы з усяго размаху кассё у дол:

— І дакасіць не дадуць, чэрці!..

А сам, забыўшыся пра нас, похапкам пачыкільгаў на свой двор, забег у хату і пачаў расстаўляць табурэткі, хоць тыя стаялі, а не ляжалі, змахнуў хлебныя крошкі са стала ў шурпатую жменю і адразу ж пракаўтнуў іх, а тады паглядзеў на нас і гыркнуў:

— А вы чаго раты паразяўлялі і не дапамагаеце? Варушыцеся, маць вашу!..

А што яму дапамагаць — не кажа: зусім прапалі словы ў старога. Анямеў ад навіны. Ды і позна дапамагаць: Пятро з трафеямі ўжо на двары, праплыў перад акном. Дзед Грышка выпраміўся перад сынам, не дыхае і вокам не міргне. А Пятро грымнуў на ўсю хату:

— Бацька-а!

Паклаў скрутачак на ложак і зграб дзеда Грышку, заціснуў у абдымках, і на вачах абодвух мы бачым слёзы. Наглядзеліся мы слёз, гэтым нас не здзівіш.

— Вярнуўся, бацька...

— Касіў я... каса там... хлапцы, прынясіце... ага... — шаптаў дзед Грышка і шморгаў носам. — Трава лезе на агарод, каб яе пранцы... Ну дык што ж мы стаім? Знаём з Зінкай.

Можна падумаць, што мы адразу ж і кінуліся за касой. Каму яна трэба сёння, каса тая? Не кожны дзень з вайны прыходзяць землякі, і нам карціць паглядзець на ордэны і медалі, што трэнькаюць на грудзях Пятра. Не менш — і на Зінку, пра якую дзед Грышка вушы ўсім пратрубіў. Дробненькая, нібы дзяўчо. Надзейка і тое вышэйшая . Але больш за ўсё нам хочацца зазірнуць у той скрутачак, які ў хаце супакоіўся, маўчыць і толькі зрэдчас варушыцца.

— Не маглі раней прыехаць, — тлумачыць Пятро і глядзіць на скрутачак. — Зінка дачку нарадзіла. Таму ў горадзе пажылі крыху, у яе маці. Так што не крыўдуй за затрымку — такая сітуацыя, што не атрымлівалася. І раджаць трэба, і ехаць да цябе — у адзін час усё... супала так.

— Ты думаеш , я тут прапаў бы, — дзед Грышка казырыцца, паказаў вачыма на нас. — Хлапцы вось, калі трэба, і вады прынясуць, і торфам забяспечылі. І так пасядзяць у хаце са мной. Пра жыццё пагамонім. А як жа. Іншы раз папрашу, каб і пісьмо ад цябе прачыталі. Прачытаюць. Па першым закліку.

Я спалохаўся: а калі ён успомніць яшчэ пра запалкі? Во будзе сараматы перад салдатам — на ўвесь белы свет. Але добра, што дзед Грышка прамаўчаў. Ці ў яго памяці няма, ці не пажадаў нас выдаваць. Хоць, калі разабрацца, мы ж для яго стараліся. Адным словам, малайчына.

Пятро ж пахваліў нас, а тады пачаставаў цукеркамі і даў па камяку цукру. Цукеркі мы з’елі адразу , а цукар рашылі аднесці дамоў — будзе цяпер з чым чай піць. Калі патроху адкусваць — надоўга хопіць.

І яшчэ Пятро даў нам вялікую бліскучую капейку, на якую, сказаў, што хочаце, тое і бярыце ў краме.

Неўзабаве ў хату набілася багата людзей. Лізавета, канешне ж, першая прыбегла, за ёй Варка, а тады прыйшлі і мужчыны, сярод іх быў Тамаш. Ён абняў Пятра і заплакаў. Нічога не сказаў. А Лізавета

прыгадала бабку Антосю і пашкадавала, што тая не дажыла да гэтага шчаслівага дня. Во рада была б. Мы гэта і самі ведаем. Але гаворыць і няхай гаворыць. Нешта ж трэба, мусіць, ім і гаварыць, цёткам ды дзядзькам. Не ўвесь жа час плакаць. Хопіць, наплакаліся.

Увечар на Грышкавай прызбе зноў граў гармонік, а нас не выганіш з хаты. На прызбе нам не было сёння чаго рабіць: мы важна сядзелі за сталом нароўні з дарослымі, нават бліжэй, чым хто, да дзеда Грышкі і Пятра, і слухалі розныя байкі пра вайну. Я толькі разы два паказаўся на танцульках — няхай бачаць, дзе мы з Петрыкам. І заслужана. Як торф заносіць у хлеў дзеда Грышкі ахвотнікаў не было, то няхай цяпер хоць паглядзяць, што з гэтага атрымалася. Надзейка таксама дапамагала, аднак яна не пойдзе ў хату. Сарамлівая. Яе справа. А на мяне ўсё ж паглядае. Крадком. А потым адразу хавае вочы. Зайздросціць, каму тут не зразумела. Мне і Петрыку сёння ўсе зайздросцяць. І чакаюць, калі мы нарэшце назусім, а не будзем шмыгаць туды-сюды, выйдзем на прызбу, бо без нас і танцы не танцы. Цяпер, калі паехаў у Ленінград Саныч, паступілі вучыцца на гарадскія прафесіі некаторыя нашы хлопцы, то мы тут галоўныя танцоры.

Танцулькі пачакаюць. Трэба пасядзець за сталом і паслухаць, што будзе ў нашай Гуце заўтра і паслязаўтра, калі вернецца дзядзька Мікіта і прывязуць на кані Кастуся з бальніцы. За Кастусём мы таксама паедзем. Абавязкова. Не прапусціць бы. Заадно і ў сталоўцы падсілкуемся. Ніколі не елі мы ў гарадской сталоўцы, а там, кажуць, смачна падаюць. Каша — пальчыкі абліжаш. Нават катлеты і смажаныя кілбаскі ёсць. Папытайце, калі не верыце, у дзеда Грышкі. Ён, калі быў маладзейшым, часта бегаў у мястэчка — баба Антося думала, што ён знайшоў для сябе там новую цётку, а дзед — нырк у сталоўку. Сам расказваў. Праўда, браў і куфаль піва. Піва нам не трэба. Ну яго. Нам добра будзе каша, а калі хопіць той капейкі, то катлеты і кілбаскі таксама не зашкодзяць.

А цяпер дарослыя спрачаюцца, хто б мог выдаць Мікіту, і чамусьці ўсе падтрымліваюць Тамаша, што гэта нашкодзіў Лізавецін прымак, і калі раней цётка абараняла яго, то цяпер маўчыць. Як вады

ў рот набрала. Нехта паказваў і ўбок Гіршы Моцкіна. Маўляў, той нездарма абжыў кузню — ён гэтага толькі і дабіваўся, каб прагнаць з яе каваля. Вось і наплявузгаў.

Дзядзька Хвядос заступіўся за Гіршу Моцкіна, сказаў, што трэба пачакаць крыху, а там стане ўсё на сваё месца: высветліцца...

Пачакаем і мы. Нам няма куды спяшацца. Асабліва калі ў школу толькі.

У школу мы любім хадзіць. Там можна не толькі нешта цікавае даведацца, а спадцішка тузануць за касу і Надзейку...

## 11. ЭПІЛОГ

Дзядзька Хвядос гладзіў печ рукой пяшчотна і з замілаваннем і гаварыў ёй, як жывы жывому:

— Ты, печ, жанчына. І табе, бачу, сумна адной. Пагаварыць няма з кім, языкамі памянціць — ну а як жа: жыццё ёсць жыццё, тут ні ўбавіць, ні прыбавіць. Заўтра я табе жанчыну прывяду, Моцяй зваць. Будзеце разам і варыць, і на чарэні грэць нас, мужчын. Мужчын таксама прыбавіцца. Ты помніш Петрыка добра. Як жа. Свой чалавек Петрык. Так што, печ, з заўтрашняга дня табе весялей будзе. І нам усім, заўваж. Раніцай запражом каня, і прывязём гаспадыню з усім яе няхітрым скарбам у нашу хату. Адабраеш мяне, печ? За разуменне дзякуй табе. Дзякуй.

Мне пачулася, нібы печ адказала дзядзьку Хвядосу...

Назаўтра мы з Петрыкам перавезлі ўсе яго рэчы, а цётка Матруна прыйшла сама. Топчацца па хаце, праўда, без ручніка на плячы, бадзяецца з кутка ў кут, быццам месца сабе не знаходзіць, і ці тое ад радасці, ці тое ад чаго — плача. Плачаш, дык плач: дзядзьку Хвядосу няма калі яе супакойваць, на ім увесь калгас, ды трэба і новага дырэктара адвесці ў Петрыкаву хату — ён будзе жыць там. Петрыку пашанцавала, нічога не скажаш: іншы раз ён можа і забегчы ў сваю хату, быццам нешта забыўся там, а заадно і новаму дырэктару лішні раз паказацца на вочы, таму можа нават выбіцца і ў выдатнікі.

Заўтра трэба ехаць за Кастусём у мястэчка, а ў нас бяда стрэслася: Лізавецін сабака Шарык праглынуў, забаўляючыся, нашу вялікую капейку, за якую мы збіраліся паабедаць у сталоўцы, і мы прывязалі Шарыка на сваім двары. Ці паявіцца на свет божы капейка да раніцы? Не вытрасеш жа яе з Шарыка. Сабака спярша скуголіў, рваўся да брамы, аднак супакоіўся — змірыўся са сваім лёсам. Так яму і трэба. Не будзе глытаць чужыя капейкі. Пакуль не вернеш нам Пятроў падарунак, сядзі на ланцугу. Можа, паразумнееш. Не хапала яшчэ, каб згубіў дзе-небудзь нашу капейку пасярод вуліцы ці ў лесе. Усюды ж шастае.

Сядзець, Шарык. І не чырыкаць.

Мы таксама сядзім на двары і чакаем. А то наляціць якая сарока на бліскучае, і пішы тады прапала.

А нам вельмі хацелася гарадской кашы.

З акрайцам белага хлеба.

# ВЯТРАК — ПТУШКА ВОЛЬНАЯ

## 1. ШТО ЦЁТКА НЕМЦАМ ПАКАЗАЛА

Прапаў у цёткі Аксінні певень. І куды падзеўся, небарака? Толькі ж швэндаў па двары сярод курэй, і — няма.

— Пеця, Пеця! — нібы нейкага хлапчука, клікала курынага кавалера старая. — Ну дзе ты, голуб мой? Хадзем дамоў, калі жыць хочаш, дурань ты непрыкаяны! Ці чуеш? Пачуеш, ды позна будзе. Адны костачкі застануцца. Вунь яны, бач — панаехалі! Злопаюць — і вокам не міргнеш! Як ніколі іх не кармілі. Бы з галоднага краю. Ага! Ну дзе ж ён? Цы-ы-п-цып-цып!..

Старая і на гародчык зазірнула, і пад паветку: няма, як скрозь зямлю праваліўся курыны кавалер. Тады Аксіння шпарка, нібы падганяў яе хто дубцом, выбегла на вуліцу, сустрэла там суседскага хлапчука Юраську, і, хаўкаючы ротам, шмарганула за рукаў:

— Юр! Га, Юр! Ты пеўня майго не бачыў?

Адкуль яму, Юраську, бачыць таго пеўня? Хіба ж да птушкі цяпер, калі немцы ў вёсцы. Самыя сапраўдныя — пра якіх гаварылі па «талерцы» каля канторы калгаса, што напалі на наш Саюз. І нядаўна, здаецца, напалі, а ўжо ў Хатоўні аб’явіліся, ні ў каго не папытаўшы. Шустрыя, аднак. І адкуль бяруцца такія нахабнікі? Юраська паназіраў трохі за няпрошанымі гасцямі з-за плота, ды адразу ж і да хаты — бяжком, не азіраючыся: ну іх, немцаў тых! Расхаджваюць, гергочуць, пагражаюць. Што да чаго! «Можа, і певень цёткі Аксінні цяпер недзе ў іх? Бач, пазакасвалі рукавы... валасатыя рукі, нічога не скажаш: такія і цапнуць могуць што хочаш, за імі вока ды вока трэба». Але ж цётцы Аксінні адказаў, асабліва не разважаючы — тут не да філасофіі:

— Не бачыў. Трэба мне ён...

А потым паглядзеў на старую, і яму чамусьці зрабілася шкада яе, параіў хаваць курэй падалей ад немцаў, бо тыя, кажуць, дужа іх любяць — і смажаных, і ў чарапках з бульбай.

— Толькі падавай, — Юраська ажно прыцмокнуў языком, бо так, палічыў хлопчык, больш пераканае Аксінню, дакажа нарэшце ёй, хто такія немцы. — А таму хавай астатніх курэй, цётка. З’ядуць.

— Ды з’ядуць, каб яны лопнулі! — пагадзілася Аксіння, хоць і сама не горш за хлапчука ўсё ведала. — Ды сажруць, каб ім затлуміла! Во ўжо ненасытныя! Во ўжо не напруцца!.. І не падавяцца ж!..

А Юраська прыгадаў, бы капнуў газы ў полымя:

— Без разбору, цётка Аксіння. У дзеда Нупрэя ўсіх падскрэблі, бы венікам падмялі. Адным махам. Мне сам дзед казаў. Можа, певень на пярэпалах-лямант курэй пабег, заступацца? Усё ж мужчына. Мог пабегчы, як думаеш, га?

Цётка Аксіння зусім, здаецца, разгубілася. Яна не ведала, куды ёй ісці — ці вяртацца дамоў, ці бегчы шукаць пеўня, ад якога, мусіць, толькі пер’е і засталося. На ўсялякі выпадак старая паказала рукой у той бок, дзе таўкліся немцы і адкуль чулася чужая незразумелася ёй гаворка:

— Певень, думаеш, туды шуганўў?

— Усё можа быць.

— Не аддам! — нарэшце цётка Аксіння тупнула нагой, рашуча і смела. — Дудкі ім! Смалы! Во ім, а не пеўня! — І паказала кукіш.

Яна закруцілася на адным месцы, быццам трапіла ў віхор, лаяла немцаў, паказвала ў іх бок дулі, абяцала «смалы з дзёгцем», а тады знерухомела... і заплакала. Па-сапраўднаму. «Няўжо можна па пеўні так перажываць? — не надта разумеў цётку Аксінню Юраська. — Дзівачка яна ці што? Дзед Нупрэй і слова не сказаў, калі лавілі ягоных курэй. Толькі плюнуў сабе пад ногі... А калі немцы на каленях поўзалі, цаляючы ў курэй, дык і ўсміхнуўся, а мне шапнуў: “Мае куры, бач, на калені немчуру паставілі, а прыйдзе час, то мы іх і на лапаткі пакладзём. Няхай пацешацца...”»

Юраська ўжо пераступаў парог сваёй хаты, а цётка Аксіння ўсё яшчэ сыпала праклёны немцам:

— Смалы вам! Дзёгцю, калі калгас дасць! Во вам, во!..

У той жа дзень немцы разбрыліся па ўсёй вёсцы, нарабілі ляманту, тлуму, і паўсюль чулася іхняе гергетанне, да якога не маглі прызвычаіцца жыхары Хатоўні: рэжа слых, хоць ты што рабі. Курэй сваіх навучаная ўжо горкім вопытам Аксіння пахавала, што выклікала, зразумела ж, падазронасць у варожага салдата, які нагой піхнуў дзверы ў хату і выскаліў на старую белыя зубы:

— Кур, яйка! Дзе твой цып-цып? — салдат пачаў шныраць па хаце, разглядваў краем вока карткі на сцяне, глянуў на прыбраны ложак, на якім стаяла адна, але вялікая і пузатая, бы стог сена на лузе, падушка. — Так, швайн баба! Кур, яйка!

— Няма... няма, — лыпала вачыма і разводзіла рукамі Аксіння. — Забралі ж. Разам з пеўнем. Ага. — А трохі цішэй, каб не надта чуў няпрошаны госць, прыгаворвала: — Каб ты струпянеў са сваімі яйкамі! Каб ты загавеў раней бацькі свайго! Цьфу!..

Неўзабаве старая выкацілася на двор, услед за ёй паказаўся і немец. Юраська якраз быў на сваім агародзе, і ўсё гэта добра бачыў. Старая, мусіць жа, таму і пасмялела, што побач сусед, таму адразу ж перайшла ў наступ:

— Шукай! Знаходзь! Калі не верыш! Распуснікі!...

Салдат мармытаў нешта на сваёй мове Аксінні, але гэта было што гарохам аб сценку — адна карысць: не прыставалі да яе тыя словы, больш здагадвалася, чаго хоча немец па выразе ягонага твару і жэстах.

Юраська ўважліва сачыў за ўсім, што адбывалася на двары цёткі Аксінні. «Ого, так і аддасць яна табе сваіх курэй. Трымай рот шырэй. Аўтаматам не запалохаеш. Не палахлівая яна». І хоць Аксіння жмінда вялікая, іншай такой у Хатоўні і знайсці цяжка, хлапчук вельмі радаваўся за суседку. «Так яму, так... Не аддавай! Не паказвай, дзе куры! Ага, схапіў, атрымай! Гэта дуля па-нашаму. Смачная? У Аксінніным агародзе яны ўсе такія растуць. Яна табе яшчэ і аўтамат, калі хочаш, адбярэ. Вось так, вось добра!... Не паказвай, ага-а-а!» Юраська ажно дырыжыраваў рукамі, не стаялі на адным месцы і ногі — то адной, то другой хлопчык быццам

дапамагаў Аксінні ў яе абароне і наступленні. Немец жа махаў перад тварам цёткі і аўтаматам, і кулаком, але тая трымалася надзвычай мужна. Урэшце Аксіння нават ухітрылася адвесці ў бок ад сябе варожы кулак ды паказаць сваю фігурку з трох пальцаў, крутануць ёю перад доўгім фрыцавым носам. Немец патупаў-пахадзіў яшчэ трохі па двары, пафыркаў, а пасля са злосцю бацнуў аўтаматам па аконнай раме, і калі дзынкнула шкло, пасыпаліся на зямлю асколкі, ён зарагатаў. Гучна, шырока разявіўшы рот. А што яму больш заставалася рабіць? Такое было ўражанне, што смяяўся ён сам з сябе. А Юраська ж нездарма і падумаў: дык хто гэта з іх перамог — суседка ці фрыц? Пэўна, усё ж цётка Аксіння. Бач, як смела яна з ім расправілася. Адным махам. Вось табе і Аксіння. Вось табе і скнара.

Калі на двары засталася адна Аксіння, а немец, аблізаўшыся, бы шкодны кот, павалюхаў далей, так і не дамогшыся нічога, Юраська шмыгнуў да цёткі.

— Не аддалі? — з нейкай асаблівай радасцю глядзеў ён на Аксінню.

— Хопіць з іх пеўня, — нават, падалося, абыякава, аднак жа і не хаваючы гонару за сябе, махнула рукой суседка. — Ён яшчэ не тое ў мяне атрымае, немец! А то курэй давай. Чаго захацеў. Вомігай вылезе табе курынае мяса.

Немцу — немцава. Толькі ж і хлапчуку карцела ведаць: дзе ж сапраўды тыя нясушкі, якіх раней на гэтым двары было — не злічыш, не знойдзеш нават мясцінкі, дзе б можна было стаць нагой. Юраська набраўся смеласці, пацікавіўся, хоць і ведаў, што таямніцы свае Аксіння звычайна нікому не выдае:

— А куды ж ты і сапраўды, цётка, курэй схавала?

Аксіння хітравата прыплюшчыла вочы:

— І хаваць не хавала. Але хадзем, пакажу, так і быць, калі дужа дапытлівы, — і павяла яго ў хату.

У хаце было ціха і сумна. Праз пабітае акно кралася з двара свежае і чыстае паветра. Старая паўздыхала трохі, пабедавала, а шыбу паабяцала заткнуць немцавым задам, ад чаго, уявіўшы такое, хлопчык пырснуў смехам, затым, цяжка сапучы, апусцілася

на калені перад печчу, прасунула руку ў падпечак, а сама глядзела на хлопчыка: ты за мяне, суседзе, не хвалюйся, усё будзе добра. А тады зморшчылася, пацягнула носам паветра:

— Фу-у, і насмуродзілі ж!..

А то і Юраська не чуе. Фу-у, канешне. Але ж мала таго, што няма чым дыхаць, дык яна, старая, просіць яго, каб скокнуў у падпечча, павымаў курэй.

— Скокні, мілок, а то яшчэ, не дай Божа, задыхнуцца.

Давялося лезці. Аксінні не адмовіш. Суседка як ніяк. Ды іншы раз і цукерку раздабудзе якую-небудзь пазалеташнюю, сухую, бы трэска, але ўсё роўна смачную, і пачастуе. А то яшчэ які прысмак прэзентуе. Не, з ёй псаваць адносіны нельга, хлопчык гэта разумее, і, набраўшы паветра ў грудзі, нібы збіраўся нырнуць у вірок, палез...

— Уго, колькі іх тут! — дзівіўся хлопчык, падаючы курэй. — Каб не я, то яны б ачмурэлі... Усе да адной. Нават не варушацца. А як, цікава, ты, бабця, здагадалася іх сюды схаваць?

— Я, браток, жыццё, мяркуй, пражыла, многаму навучаная. А ім, супастатам, бачыў, што паказала?..

Нарэшце Юраська выпаўз з падпечча з апошняй чубаткай у руцэ, шмыгнуў носам:

— Усе. Фу-у! Там дыхнуць няма чым.

— Дурныя куры. З перапалоху нарабілі... А таго, бедалагі, не ведаюць, што за Аксінняй яны, як за каменнай сцяной. Як у крэпасці. Бач, уратавала. Дык не, нагадзілі... Калі ж усім, відаць, тых немцаў страшна? Не толькі, мусіць, нам, людзям?

— Не ведаю... — няпэўна павёў плечуком хлопчык. — Мне дык... я іх бы...

— Ну-ну, не яршыся! Певень мой вунь таксама спрытна па двары бегаў — толькі хвост трубой трымаў... А насмуродзілі!..

Юраська дапамог суседцы паразвязваць курэй, у якіх матузкамі былі пераціснуты крылы і дзюбы.

— І не шкада было звязваць так?.. — паглядзеў на старую хлопчык.

— Затое цэлыя.

Нечакана для Юраські Аксіння падсунула бліжэй да яго дзвюх чубатак.

— Матцы аддай, — сказала яна, крадком змахнуўшы слязу з твару рукавом. — Мо яечка з'ясцё. Толькі пасля такога палону ці будуць яны несціся? Хаця — праз тыдзень ачомаюцца. Бяры, нясі. З мяне хопіць. Каб жа хоць гэтых зберагчы. Але ж макацёр навошта ў мяне? Што-небудзь прыдумаю. Пачакай, дык пеўня і ў вас не засталося? Немцы што, і яго да рук прыбралі?

Юраська кіўнуў:

— Першы ж выскачыў...

Старая супакоіла:

—То і бяды тае. Пражывуць куры без пеўня. Мы ж, бабы, жывём без мужчын — і нічога. Нясі, нясі дамоў чубатак.

Хлопчык схапіў курэй і пабег дахаты — хутка, нібы баяўся, што цётка передумае і забярэ іх назад. Бег ён радасны і шчаслівы. Тым часам, паехалі з Хатоўні немцы, і на вуліцы, як і раней, шугала вясковая дзятва, не давала ўпыну нагам і спакою сваім звонкім галасам. Вызіралі з хат і дарослыя. Пасмялелі людзі, адчулі сябе зноў гаспадарамі ў сваім жытле. Толькі ці надоўга?

Юраська прынёс дамоў чубатак і падумаў пра суседку Аксінню: «А не такая яна ўжо і жмінда. Калі па-добраму з ёй. Ласку ўсе любяць».

## 2. «У НАС ІМ ГОРШ НЕ БУДЗЕ...»

Юраська жыў з мамай і сястрычкай Лідай. Яна паспела скончыць на гэтае лета чатыры класы, ён жа — на два больш. Шэсць, значыць. Вучоны, калі параўнаць з дзедам ці з той жа цёткай Аксінняй. Але ростам Юраська не ўдаўся — малы, хударлявы, вочы схаваліся глыбока ў твары, моцна сядзяць каля пераносся, як прытаіліся, гатовыя ў самы патрэбны час выскачыць і ўсё, што важна, убачыць, згледзець. А на тое, што ён малы, мама неяк сказала, асабліва не бядуючы: «Будзе як дзед Трафім: ад зямлі на тры вяршкі. Аднак і добра, калі так: вёрткім,

спрытным дзед быў. Залаты характар меў, праўда ж... золата, а не характар. Каб Юрка па ім удаўся, я б дужа радая была».

Юраська, вядома ж, і сам — ну калі маці так хочацца! — хацеў быць падобным да дзеда. Хоць трошкі. А калі і не трошкі, дык што, кепска? Нібы вавёрка тая гойсаў ён звычайна па самых высокіх дрэвах, што раслі ў вёсцы і за вёскай — усюды: пакажыце, на якое ён не ўзлазіў! А ў Харытонаў вірок — хто яшчэ смялей за яго мог скокнуць з берага? Нават у паветры перакуліцца, як той акрабат. Малеча толькі ўздыхне ад зайздрасці: эх, самім бы так!

Аднак жа цяпер дрэвы і Харытонаў вірок адышлі неяк самі па сабе, забыліся, бо насунулася наперад, нібы бяльмо на вока, гэтая варожая саранча, што прынесла з сабою вайну і гора, а таму маці нават не абрадавалася курам, якіх прынёс Юраська.

— Сынку мой... — уздыхнула яна, паглядзела на яго так пакутліва, працята, што хлопчык не вытрымаў, адвярнуўся. — Што ж рабіць будзем? Як жыць?

Юраська падышоў да маці, прытуліўся.

— Не бядуй, мама. Тата ў крыўду нас не дасць. Бачыла, колькі мужчын на вайну пайшло?

— Бачыла.

— З адной нашай Хатоўні толькі...

- Але ж хіба татка наш зможа забіць каго? Ён жа птушачку не пакрыўдзіў ніколі, не тое каб чалавека...

— Немцы — ворагі, не птушачкі. Зможа.

— Калі толькі...

— А з іншых вёсак, гарадоў? Збяры ўсіх салдат разам... Уго-о, атрымаецца!.. А ты што, мама, думаеш, гадаў гэтых, ну фашыстаў, багата? Не. Паглядзі, я табе зараз пакажу... Сама ўбачыш...

Юраська нырнуў пад ложак, пакорпаўся ў драўлянай скрыні — туды ён хаваў падручнікі і сшыткі, усе свае небагатыя школьныя прылады — і неўзабаве паказаўся з акрайчыкам нейкай паперы. Сказаў маці:

— Карта.

— Карта?

— Паглядзі, — хлопчык разгарнуў карту, паднёс бліжэй да маці. — Ну, дзівіся. Вось яна, Германія. Што, вялікая, скажаш? То-та ж. А вось гэта наша зямля. Хапае вачэй?

— Хапае.

— Ажно да акіяна. І вось тут, дзе жоўценька, — наша... і тут... і тут.. Куды ёй, Германіі... У кароткіх штанцах, х-хі!

Маці быццам і сапраўды крыху супакоілася, твар палагаднеў, яна перастала прамакаць раз-пораз хусткай слёзы ў вачах, пагладзіла сына па віхрастай галаве. І сказала:

— Няхай бы так, як кажаш, і было, — толькі цяпер, здаецца, яна ўбачыла курэй, што ляжалі на падлозе. — Аксіння, кажаш, дала. З чаго б яна так падабрэла? Мо што ў лесе здохла?

Юраська прамаўчаў.

— Але добра, што яна так зрабіла, — працягвала маці, — па-суседску трэба выручаць адно аднаго... А ты, сынок, будзь асцярожны, беражы сябе. Каб мне не думалася трасцы рознай. Больш хаты трымайся.

— Ты за мяне не хвалюйся. Я ўжо дарослы.

— А за каго ж, за каго мне хваляцца?

— Паглядзі, што вакол робіцца... Вайна ж.

— Глядзі ў мяне, ваяка! — маці прыгразіла пальцам. — А то папругай вучыць буду. Ды і што я бацьку скажу, калі з табой што здарыцца? Як у вочы гляну, калі вернецца з вайны? Дай божа, каб вярнуўся...

Юраська больш нічога не сказаў маці, развязаў курэй і аднёс іх у хляўчук — каб прывыкалі да новага месца. А сам падумаў: «У нас ім будзе не горш, чым у цёткі!»

## 3. ДЗЕД НУПРЭЙ — НЕ ХЛУС...

Дзед Нупрэй сядзеў на вымуленым валуне, які здавён ляжыць непадалёку ад ветранога млына — ветрака — і майстраваў непаслухмянымі пальцамі самакрутку, а яго ж абступілі такія ж дзяды, як і сам ён, і дзяліліся навінамі, як і тым жа тытунём.

— ...А яшчэ Змітра з Рагачэва дабіраўся, дык бачыў, па дарозе — то тут, то там — грузавік разбіты papaдзецца, конь трапіцца скалечаны, а то і чалавек... — гаварыў, чухаючы патыліцу, Лявон Кончык. — І бамбуюць, і страляцюць...

— Каб ім затлуміла, ірадам!

— Залессе дык падпалілі. Высока шугала полымя. Тры хаты, кажуць, толькі і засталося. І чые, вы б думалі? Яснае дзела: тых, хто ў паліцыю запісаўся.

— Прыслужваць пайшоў, — паправіў таго ж Лявона Кончыка дзед Нупрэй. — Вынось правільна рэзалюцыю.

— Не, сілком, кажуць, запісвалі. Мая рэзалюцыя правільная.

— Сілком? Га, сілком? Не дуры, Лявон. Не плявузгай. Ты майсцер вочы затуманьваць народу. Вітух залескі апрануў чорны мундзір? Ты вось адкажы: апрануў?

— Во етага не ведаю, — адмахнуўся Лявон Кончык.

— А што ты ведаеш! А што ты ведаеш! Вайна пачалася, а ты, як і раней — гэтага не ведаеш, таго, панімаш!.. Развярніся вакол сваёй восі, Лявон!

— Не балбачы, Нупрэй. Пры дзецях...

Нупрэй не здаваў пазіцыі, трымаў курс цвёрда:

— То я знаю, калі ты не ведаеш. Думаеш, калі ў мяне вочы заўсёды мукой пазаляпаныя, дык я ўжо нічога і не бачу вакол сябе? Дудкі! Бачу. Шчэ і як бачу. Ён жа ў мяне, Вітух той, грыб азызлы, малоў надоечы. Кулацкая мянтузіна, га! Бацька ж яго, Хведар, свой млын спаліў...

— Гэта я помню, — кіўнуў Лявон Кончык.

— Каб дзяржаве не аддаць. Пры раскулачванні. У той палітыцы мы не дужа тады разбіраліся, людзі мы цёмныя, але хвакт застаецца хвактам. Робім уціск на хвакты. Дык Вітух і жаліўся: пагарачыўся бацька, паспяшаўся, а то і ў нашым калгасе млынаром мог бы стаць. І на мяне пальцам торкае — як вось ты, дзед... Дык не — пусціў чырвонага пеўня пад свой млын... не пашкадаваў запалак. Дурань. А ты кажаш, забралі яго ў паліцыю. Сам. Як піць даць — сам пайшоў. Самахоць. Будзе цяпер, суччын сын, немчуры гэтае самае месца, —

і дзед пад дружны смех паказаў, — лізаць. Не кожны пёс-Барбос адважыцца. За фунт мяса нат.

— На фронт яму позвы не хапіла ці што? — Лявон Кончык працягнуў руку да Нупрэя, папрасіў, каб той падзяліўся з ім самакруткай. — Дай смактану...

— На, смактані.

— А то нешта смачна ў цябе, гляджу, атрымліваецца. Бы мёд ясі.

Млынар моцна зацягнуўся, запыхкаў, бы з коміна:

— Слабаватая мая табака сёлета. Не ўдалася. А што на фронт Вітуха не ўзялі — дык калі ж аднавокі... што рыбіна камбала... можа, наўмысна і пашкодзіў вока, каб не ісці на вайну? Такія людзі на ўсё што хочаш здольныя.

Аднак Лявон прапусціў міма вушэй Нупрэевы словы пра табаку, перахапіў самакруткуі зноў папракнуў Вітуха:

— Каб яму і другім вокам свету белага не бачыць!

Тут жа сярод хатаўнянскіх дзядоў таўкліся і хлапчукі. Амаль усе сабраліся — бы вераб'і ўвесну на сонейка. Цяпер, калі пачалася вайна, яны кожным надвячоркам ляцелі да ветрака, нібы ім тут цукеркі альбо смачныя пернікі меліся раздаваць: цікава ж, аб чым дарослыя баяць!

— Таго Вітуха я ведаю, сам бачыў, — шапнуў на вуха Юраську Паўлік Макуха з рыжай, як сланечнік, галавой, і было відаць, што ён нават ганарыўся гэтым: быццам бачыў не каго-небудзь, а славутага пілота Чкалава, не менш. Ці яшчэ большага героя.

Юраська нічога не адказаў Паўліку, а толькі тузануў за рукаў: маўчы ты. А сам, хітрунчык, слых навастрыў: бач, пра якую сур'ёзную рэч дзед Нупрэй гамонку вядзе. А стары, пагладзіўшы шырокую, нібы кудзеля ў матчынай самапрадцы, бараду, працягваў:

— Тады я звярнуў з дарогі, у хмызняк. Затаіўся там. А кулі побач, што восы — ціўк ды ціўк... Уджаліць, думаю, і канец Нупрэю. Капец. Як тады млын без мяне будзе? На каго вецер яго паверне? Во як, браткі: глядзіш быццам смерці ў вочы, а млын бачыш... Як бабу сваю, як дзяцей, як вось і вас... Таму што і млын — хочаце вы таго ці не — жывы... Ага, далей. Вось дык трапіў я тады ў пастку, ёлкі-маталкі. Добра, што мая кабылка не з палахлівых: страляюць — няхай сабе

страляюць. Скубе траўку, лісце з дрэў абшчыпвае. І толькі — фыр ды фыр. Спякотна, горача, а розная лясная драбяза так і меціць сесці кабылцы на морду, за бакі кусае. Хвошчацца, бедалажка, ад заедзі, аднак цярпіць. Я ж, канечне, на калёсах не сяджу: мулка на калёсах. Спачатку да зямлі прыгнуўся — каб можна было б, то і засунуў бы галаву пад дзёран. А страляніна ідзе! Перапалка нарастае. Што рабіць? Як быць? Галінка над галавой толькі шчоўк — і боўтаецца, ледзь на кары ліпіць. Куля пастаралася. «Не, — пасмялеў траха і я, хоць, прызнаюся, даўно пораху не нюхаў, аднак пах яго мне знаёмы, і тады загадваю сам сабе: пара, пара, Нупрэй, нешта рабіць, а не сядзець пад кустом, бы заяц у дождж, які ад кожнай кроплі, што на лісток трапляе, уздрыгвае. Куля, калі яна захоча, і тут цябе знойдзе. Было не было! Дзе наша не дымілася!» І я бліжэй на стрэлы падаўся. Паўзком... Амаль адразу ж на палянцы людзей прыкмеціў. Гляджу: нашы. А ядры вашу маць! Нашы! Пасмялеў, устаў, абтрос калені... Здрасце, кажу! Дзівяцца на мяне і маўчаць. «Ваша работа, пытаюся, хлопцы?» Адзін з іх на мяне стрэльбу наставіў. Усутыч. Вока ствала — на маё вока. Адвёў я стрэльбу ўбок, кажу: «Свой, ці аслеп? Ці ж я да немца падобны, хлопцы, га?» «Дзед Нупрэй! — пазнаў мяне, хто б вы думалі? — райкамаўскі работнік Аляксей Касцючэнка, той, што да вайны незадоўга з Марусінай Веркай шлюбам пабраўся. — Адкуль вы тут узяліся?» На «вы» мяне называе. Адукаваны ж чалавек, не абы-хто. Распавёў. Шчыра, як на споведзі, расказаў. Без хлусні, усё як мае быць. Усё па парадачку. Ды і што мне там было расказваць? Ехаў з мястэчка, з Журавіч, а тут і страляніна якраз захапіла. Не перціся ж мне на кані проста пад кулі! Звярнуў, рашыў перачакаць. Зноў пытаюся: «Ваша работа?» Хоць можна было і не пытацца — а то чыя ж! І так жа відаць — іхняя. Аднак ён мне, зяць Марусін, і далажыў — бы вышэйшаму па рангу: так і так, маўляў, дзед Нупрэй, два грузавікі з немцамі знішчылі. Занадта, кажа, смела па нашай зямлі ездзяць. Трэба ім патроху хвасты падкручваць, перцу падсыпаць. Каб жыццё мёдам не здавалася. Дзёгцю, дзёгцю ім! Я, праўда, не стаў дапытвацца, але і сам скумекаў: ёсць у лесе партызаны, заступнікі нашы. Так што — жыць будзем. Трохі там ударыць, трохі тут... А глядзіш, і кулак атрымаецца! Наце вам, няпрошаныя! Аляксей

Касцючэнка, во яшчэ ўспомніў, распытваў тады ў мяне, як у Хатоўні справы. Ведаў, у каго пытацца. Не ўмею хлусіць. Ці часта немцы наведваюцца, як настрой у людзей. У людзей? Я, даруйце, раённаму начальніку прама і сказаў: «Усе нашы людзі на фронце — там, дзе і трэба быць!» А ён: «Што ж вы, дзед Нупрэй, сябе ўжо і чалавекам не лічыце? Дарма, дарма... А жанчын, мацярок?» Пра дзятву, магу засведчыць, ні словам ні паўсловам, — стары паглядзеў на хлапчукоў, хехекнуў. — Так што, хлопцы, пакуль вас парадаваць не мушу... Няма чым. Ага, далей, значыць. Тады я ўжо хітрэй яму, бо адчуў, што не лічыць пакуль зломкам і мяне Марусін зяць: «Яно калі б мо стрэльба на плячы боўталася якая, як вось у цябе, то, мажа, і палічыў бы сябе чалавекам. А так — пшык... Голымі рукамі любы мажа ўзяць». Ён — што б вы думалі? — шчыра, хоць і змерыўшы мяне ўважлівым позіркам, ацаніўшы як след, і кажа: «Пачакай крыху, дзед. Не адразу і Масква будавалася. Разбяромся мы ў сваіх шарэнгах, паглядзім, ацэнім, на што самі вартыя. Калі не справімся, маладзейшыя, то і вас свіснем». Пачакай, кажа, трохі. Во як!

— Так і сказаў — свіснем?— не паверыў Лявон Кончык.

— Ну, мажа, і не так. Але сутнасць у гэтым, і не дуры мне галавы, Лявон! — дзед Нупрэй тузануўся на валуне, падкурчыў ногі, а тады спадылба паглядзеў на Лявона Кончыка і сказаў цішэй. — Але ўсё, мушу адзначыць, усё цюцелька ў цюцельку. Існая праўда!

Сядзеў каля млына і яшчэ адзін хатаўнянскі дзед — Платон Кулеш, ён увесь час маўчаў і толькі слухаў. Зрэдку хехекаў і шкрабаў сагнутым у кручок пальцам патыліцу, прыўзнімаючы для гэтай працэдуры картуз на лысай галаве. Адзін усяго раз пачулі Платона:

— Біць трэба гадаў! Вось так!

Калі Платон трасянуў у паветры сваёй кашчавай рукой, усе засмяяліся. Стары зніякавеў, аднак яго падслепаватыя вочы ўсё ж заслязіліся радасцю, ажылі надзеяй...

Пазней, калі размова каля ветрака патрохі пачала чахнуць, дзед Нупрэй асцярожна паглядзеў па баках, пакратаў свой зашмальцаваны картуз на галаве і шырокую бараду — так ён рабіў заўсёды, калі збіраўся сказаць нешта важнае і адказнае — а потым, нібы і сапраўды адганяючы ад сябе курэй, памахаў на хлапчукоў:

— Кыш, малеча! Чаго пасталі? Ці не вам кажуць? Вядзі, Юрка, сваю гвардзію адсюль. Кыш! Вушы паразвесілі тутака, як бабы гарлачы на паркане!..

Толькі хлапчукі бы ў зямлю ўраслі. І не збіраліся адыходзіць.

Канешне ж, нешта цікавае, надзвычай сакрэтнае будзе казаць цяпер дзед Нупрэй, тут і дурню зразумела. А ім — прэч! Не, трэба стаяць да канца. Не здавацца. Шмат ужо наслухаліся — чаго нельга і што можна было, а як да самага галоўнага дайшло, дык няможна, атрымліваецца. Ці не крыўдна? Адно слухай, іншае — не. Калі ўжо слухаць, дык усё. У камплекце... І Юраська рашыў таксама цвёрда стаяць на сваім, не адступаць, паабяцаў:

— Мы, дзеду, нікому не скажам. Так, хлопцы? — і ён абвёў позіркам сваіх сяброў.

— Так! А як жа! Мы што, не разумеем? — загаманіла малеча.

Ды так гучна, што дзед Нупрэй перапалохана-здзіўлена ажно прыклаў палец да вуснаў: цішэй вы, чэрці галапупыя! А сам, вядома ж, зразумеў, што ад хлопцаў гэтых цяпер не адаб’ешся, трэба прымаць у сваю брыгаду, так і быць. Аднак усё ж глянуў на Лявона Кончыка, на астатніх мужчын — не ведаў, як быць яму: пры малечы дакладваць тыя апошнія словы Аляксея Касцючэнкі, ці трэба ўсё ж для большай канспірацыі застацца адным — без дзятвы.

— Ну што рабіць будзем, сівыя вашы галовы? Рашайце. Як скажаце, так і будзе.

— Ды гавары ўжо, чаго там! — махнуў рукой Лявон Кончык. — Ці яны не нашыя дзеці і ўнукі? Свае ж! У грамадзянскую, хіба не помніш, хто побач з табой быў? Давярай, Нупрэй Язэпавіч, давярай нашым хлопцам.

Вочы Юраські, Сяргейкі і Паўліка свяціліся, бы каля начнога вогнішча ў лузе. Дзякуй Лявону Кончыку. Выручыў. Але дзед Нупрэй усё ж прыгразіў жоўтым ад тытунёвага дыму пальцам: каб жа ціха было, падшыванцы! Потым ён паказаў на свой бяззубы рот і даў зразумець, што гэтае месца ў кожнага з іх павінна быць на вялікім замку — яшчэ, мабыць, і большым, чым на калгасным свіране. Вось як, арлы! І толькі тады стары палічыў патрэбным сказаць:

— Тут вам не якія-небудзь дзіцячыя гульні-забавы. Тут усё сур'ёзна — як на вайне... «Зямляк, — сказаў мне Касцючэнка тады ў лесе, — рыхтуйся...» Трымай, адным словам, вятрак у поўнай баявой гатоўнасці. Людзям хлеб есці трэба незалежна ад таго, хто бадзяецца ў яго пад носам... Голад — не цётка... Так што мой вятрак як быццам мабілізаваны цяпер, і жыць будзе новым жыццём, на яго ўскладваюцца вялікія надзеі... А гэта, заўважу, вам не хухры-мухры!

Хлапчукі запляскалі ў ладкі і атрымалі апошняе папярэджанне ад дзеда Нупрэя:

— Без міцінгаў!..

А Лявон Кончык, скарыстаўшы момант, папрасіў у млынара закурыць:

— З такой нагоды і самакрутку сапсаваць не зашкодзіць. Даставай, даставай свой самасад, Нупрэй. Дужа добрая ў цябе табака. Не шкадуй, трасца б яе пабрала!..

Нупрэй расшчодрыўся, даў закурыць Лявону Кончыку, у якога заўсёды бяда з тым самасадам: быццам і растуць кожны год лопухі за хлявом, а як курыць — дык няма, дык дай. Нібы есці ён свой тытунь з ранку да вечара, адно што і робіць, дык вялікай сваёй жменяй у рот піхае — таму і не хапае.

Дзед Нупрэй адсыпаў тытуню Лявону Кончыку, а сам усё глядзеў і глядзеў на вятрак, які, бы стомлены чалавек, адпачываў, высока і горда трымаючы над вёскай свае крылы-ветразі.

## 4. ПАКУЛЬ ЖЫТА СПЕЕ...

Над Хатоўняй ужо вісеў цёплы летні вечар. Праз густы шэры змрок былі добра відаць зоркі на небе. Ціха наўкола. Толькі дзе-нідзе рыпнуць веснічкі, затоена, нясмела. Бы з-пад палкі адгукнецца кароткім брэхам сабака — то ў адным канцы вёскі, то ў другім, то зусім побач, непадалёк ад ветрака. Па чарзе. Але рэдка. Дзед Нупрэй даўно заўважыў: калі маўчаць сабакі, не заходзяцца, як шалёныя, брэхам, значыць, нічога кепскага заўтрашні дзень не абяцае, будзе ціха.

— Во як пачнуць скавытаць, ажно са скуры вылузвацца, — тлумачыць ён хлапчукам, — то тады трымай вуха вастрэй: нешта чуюць. Сабакі ды каты па сваёй сістэме жывуць, а ў тае сістэмы сакрэт адзін неразгаданы ёсць: адкуль нюх на бяду маюць? За дзень-другі да няшчасця і не сядзіцца ім, і не ляжыцца. Толькі — гаў-гаў ды вы-ву-у-у-у... Сам прыкмеціў. Перад пажарам мой Шарык месца сабе не знаходзіў, усё за мной ды за мной, трэцца аб нагу, жаліцца. А сказаць не можа. Уся закалюка ў тым, што якраз і не можа... А сёння, бачыце, хлопцы, нібыта языкі ў сабак папрымярзалі. Хоць і не зіма. Так што спі, малеча, спакойна. Давайце, хлопчыкі, па хатах. Мне таксама час...

Дзед Нупрэй патушыў ліхтар — пузаты і яркі, і яны ўпоцемках, трымаючыся за парэнчы, вобмацкам, асцярожна спускаюцца па прыступках на зямлю, адчуваюць лёгкасць і ўпэўненасць ад дотыку ног да яе. Потым дапамагаюць дзеду пачапіць на дзверы млына замок, упэўніваюцца, што ўсё ў парадку і крочаць уздоўж вуліцы.

— Заўтра няма ўжо чаго малоць, — скардзіцца, бы між іншым, стары. — Гуляць будзе мой вятрак. А калі паспее жыта, тады завозна будзе. Каласы яшчэ з малачком, але зярняты абяцаюць быць буйныя. Хадзіў надоечы ў поле, спраўляўся. Пажаць бы толькі...

— Пажнём, — абяцае дзеду Нупрэю тонкі, бы лазовы пруцік, Сяргейка, і можна падумаць, што лёс збажыны залежыць і ад яго таксама.

Пэўны час ідуць моўчкі.

— Што пажнеш, што не, — заклапочана кажа дзед Нупрэй. — Хоць бы збольшага ўхапіць. Ды і тое не ведаеш, хто той хлеб есці будзе, у чый рот трапіць. Хто ж яго ведае, які ў немчуры апетыт: возьме, ды і загадае, каб увесь ураджай у Германію фуганулі. Га?

— Увесь? — разявіў рот Юраська, і перад яго вачамі зноў з'явілася тая карта з падручніка, якую паказваў сваёй маці. — Быць не можа, каб увесь! Колькі ж яны таго хлеба злопаць могуць? Германія ж — маленькая.

Дзед Нупрэй не пагаджаецца:

— Маленькая яна маленькая, а рот у яе шырокі, да самых вушэй. Для чаго ж ты думаеш, Юрка, германец на нас напаў? Каб на машынах

ды манцыклетах катацца па нашых дарогах? Не такі ён, фашыст, дурань. Рабаваць будзе. Я так разумею. Ды і хіба я адзін так лічу? А вы што, не так думаеце? Тады вучыцеся думаць, вучыцеся, хлопцы!

Што ён, дзед, гаворыць: калі тут вучыцца! Не да навукі — немцы, куды ні глянь, натапырылі хвасты, яршацца, ходзяць з двара ў двор, бы да сябе ці да цешчы на бліны. Вось ім трэба на хвасты солі як хутчэй насыпаць, каб не надта нос задзіралі!.. А з думаннем тваім, дзед Нупрэй, паспеем!

Як толькі развіталіся каля хаты млынара, Юраська шапнуў сябрам:

— У мяне ёсць ідэя, хлопцы! Пакуль жыта спее, нам на ветраку няма чаго рабіць. Слухайце сюды...

Назаўтра ранічкай, як толькі першыя промні сонца ярка пырснулі з-за лесу на вясковыя прысады, хлапчукі падаліся ў лес — туды, дзе быў першы бой партызан з немцамі. Эх, каб жа знаццё, то заселі б там і паназіралі, як іх калашмацілі нашы і тады б расказалі самі каля ветрака, што бачылі. А то дзед Нупрэй і ўпрыгожыць усё можа, ён багата не возьме. Ды нічога, яшчэ паслухаюць іх і Нупрэі, і Лявоны Кончыкі, і Платоны! Рыхтуйцеся. У хатаўнянскіх хлопцаў пачынаецца сапраўднае жыццё. А пакуль яны тэпаюць убок Жавінніка і ўяўляюць, як убачаць шмат разбітай варожай тэхнікі і, канешне, узброяцца. Не можа быць, каб немцы, уцякаючы, не пакідалі свае вінтоўкі і аўтаматы. А мо і гранаты? Ды так і павінна быць: якія яны ваякі, Юраська бачыў, калі цётка Аксіння смачна круціла перад немцавым носам дулі, а той і не ведаў, што яму рабіць. Так што нешта можам і мы. Не зломкі.

Пачакайце, але што гэта? Быццам равуць грузавікі? Сапраўды так: яны. Хлапчукі, нібы па камандзе, спыніліся, пераглянуліся, а потым драпанулі з дарогі-сыпанкі ў лес. Са схованкі ім добра было бачна, як варожая калона з некалькіх аўтамашын пацягнулася ў той бок, адкуль яны ішлі, — у Хатоўню. Настрой адразу сапсаваўся, аднак рашылі не вяртацца: за двума зайцамі пагонішся, дык ніводнага не зловіш. Карцела, вядома ж, паглядзець, што немцы будуць рабіць на гэты раз у вёсцы, але і самім жа бяздзейнічаць больш нельга,

а каб не бяздзейнічаць, трэба мецць зброю. Ні больш ні менш. Таму і пабеглі яны да месца бою. А можа, усё гэта і прыдумаў дзед Нупрэй? Вось будзе фокус... І раптам Сяргейка, які вырваўся наперад, гукнуў:

— Ёсць! Бачу!

Што ён бачыў, тое ўбачылі і ўсе. Не сляпыя. На баку ляжаў спалены варожы грузавік, глядзеў на хлопцаў рэбрамі кузава і чорнай ашчэранай пашчай матора. А больш нічога і не відаць. Знайшлі каля яго хлопцы толькі гільзы — дык якая з іх карысць? Ні вінтовак, ні аўтаматаў. Спазніліся, мабыць. Але ж хіба яны адны такія шустрыя, можа, з іншых вёсак хлопцы тут даўно ўсё падабралі. Там ёсць хваты. Панскі сад у Чырвоным Аратым абтрасуць, а людзі на сваіх думаюць. Але ж добра, што недарэмна тэпалі: упэўніліся на свае вочы, што бой сапраўды быў і што не менш важна — не схлусіў і млынар. А з дзедам Нупрэем у іх павінны быць давер і лад, бо вятрак — гэта вятрак, а не абы-што. Ён яшчэ пра сябе заявіць. Дайце яму толькі распрастаць крылы. А пакуль тое ды сёе, Паўлік прывалок з кустоўя каску.

— Там іх багата, — сказаў ён. — Ідзіце бярыце.

Сяргейка, як заўсёды, насупіўся:

— Яшчэ не хапала, каб я нямецкую каску на сваю галаву адзеў! Трэба мне!..

— А я вазьму, — стаяў на сваім Паўлік. — А ты, Юраська?

І Юраська ўзяў адну каску. Сяргейку нічога не заставалася, як таксама падняць з зямлі цяжкі варожы шалом, а ў сваё апраўданне, што не стрымаў слова, сказаў:

— Матцы аднясу — каб парсюка карміла з яе, а то карыта ў нас дзіравае...

Дахаты хлапчукі вярталіся ўжо росным надвячоркам. З трафейных касак выторкваліся брылястыя абабкі і баравікі. Большанькія і прыгажэйшыя яны наўмысна паклалі на лісце зверху — каб радавалі вока. Пракідваліся і салодкія сыраежкі. Нашвэндаліся за дзень так, што хацелася есці. Смактала ў кожнага пад лыжачкай. Таму не-не ды і адшчыквалі яны ад сыраежак маленькія кавалачкі, піхалі ў рот. Эх, да гэтых сыраежак яшчэ б лустачку хлеба!

Вярталіся хлапчукі ў вёску і неслі не толькі каскі з грыбамі, але і затоеную, шчымлівую трывогу...

Чаго ж наведваліся немцы ў Хатоўню?

Не сядзіцца ім.

## 5. УХ, ПАЧАКАЙ, ПАЛІЦАЙ ВІТУХ!

Дзед Нупрэй — адзін, мусіць, чалавек з усяе вёскі, ад якога нічога не ўтоіш, любая навіна пачынаецца з яго што раўчук з крыніцы: усё ўцікуе-упільнуе, а потым вылучыць зручны момант, уставіць сваё слова пра тое ці іншае. Акуратна, у меру, але кожны раз — у патрэбны момант. І што цікава, бывае, і зачэпіць-ушчыпне каго-небудзь, але на яго не крыўдуюць землякі: то ж Нупрэй сказаў, а Нупрэй абы-што не ляпне. У цяжкую хвіліну — падтрымае, дасць рэцэпт, як жыць далей, што рабіць.

Бачыў ён і, як хлапчукі ўзялі кірунак у бок Жавінніка. Дзед адразу змікіціў, куды і навошта яны рушылі. Прыгадаў ён учарашнюю гамонку каля ветрака, і паход той неспадзяванкай для яго не быў. Нупрэй ажно падкруціў, бы кнот у газоўцы, свой тонкі вус, хітравата прыплюснуў вочы і падумаў: «Ці ж я не глядзеў наперад? Глядзеў, нават ў два вокі. Так яно і ёсць — патэпалі, жэўжыкі, у лес, патэпалі. Падбітыя машыны, канешне ж, ім ноччу спаць не далі. Але ж няхай сабе і палюбуюцца, нікому не забаронена, а малечы — тым болей...» І ўжо ўслых, нібы яго хто і сапраўды чуў, сказаў:

— Толькі, хлопцы, асцярожней будзьце. А то вушы надзяру, як сваім дзецям некалі! Каб не думалі!..

Калі пачуўся гул грузавікоў, стары стаяў якраз на падворку і глядзеў у той бок, дзе зніклі хлапчукі і адкуль насоўваліся на сяло плюскатыя машыны. Яны раўлі і чмыхалі, нібы ў іх былі насы і туды трапіў незнарок моцны Нупрэеў самасад. А-а-апч-хі-і! «Зноў прыпёрліся!» Стары схаваўся ў хаце — глядзець на немчуру ў яго не было асаблівай ахвоты, хоць пазней закарцела: што на гэты раз яны, нехрысці, прыдумаюць? Куры ж так хутка не растуць, як яны зачасцілі.

— Ці сходзіць? — нясмела глянуў на старую Нупрэй.

— Сходзі, а потым і мне раскажаш...

Грузавікі спыніліся перад старэнькім драўляным домам, да вайны ў ім была калгасная кантора. Салдаты, нібы гарбузы з вялікага каша, пасыпаліся на зямлю. Сярод іх Нупрэй адразу пазнаў паліцая Вітуха — ад усіх ён адрозніваўся чорнай формай і павязкай на рукаве. Немцы былі ў шэрай, няйначай суконнай, адзежы: рукавы закасаны, а ў руках аўтаматы і на баку рабрыстыя жалезныя біклажкі. Паліцай адразу ўбачыў старога, ускінуў руку: бач ты, вітаецца, нягоднік, сябра знайшоў. А тады і доўга не прымусіў ён чакаць сябе — тут як тут, дыхае у твар Нупрэю перагарам і цыбуляй:

— Рыхтуй, дзед, вятрак. Бачыш, колькі людзей карміць трэба.

— Дык а яны што, без хлеба прыехалі?

— Не тваё саплівае дзела! Іспалняць будзеш!..

— А то б той, хто іх паслаў сюды, укінуў бы кавалак у торбу кожнаму — як жа ён так адправіў, не снабдзіўшы. Я сена касіць еду ў луг, то Пелагея мая і накорміць, і на дарогу пакладзе. Дарога ж няблізкая.

— Пагавары мне!..

Вітух махнуў на дзеда рукой, маўляў, з табой, старэча, мы потым разбяромся, пра хлеб гаварыць яшчэ рана. Сёння трэба абсталяваць жыллё для нямецкага камандзіра — тут, у Хатоўні, будзе стаяць нямецкі гарнізон, і ў былой калгаснай канторы нехта вырашыў размясціць штаб. Калі дзед Нупрэй даведаўся пра гэта, ён са злосцю плюнуў і сказаў гучна:

— Цяпер вырадкі гэтыя жыцця не дадуць, ліха іх матары!

Стары млынар агледзеўся па баках. Нямецкія салдаты маленькімі кучкамі — па тры-чатыры чалавекі — сядзелі на траве, падкурчыўшы ногі, паабапал сваіх грузавікоў. Курылі, гергеталі. Між іх важна мераў шырокімі крокамі зямлю Вітух. Бобік нервова і фарсіста раз-праз выцягваў з кішэні круглы, з алтын, гадзіннік, падносіў яго да вока, наўмысна трымаючы блішчастую рэч на далоні — каб бачылі, — і зноў паглядаў ва ўсе бакі, падкрэсліваючы важнасць моманту. Людзі не надта спяшаліся на сход, хоць і была

каманда. Толькі дзеці ляцелі, галовы задраўшы. Ім, дзецям, што: ці на артыстаў цырка глядзець, ці на варожых салдат, — абы нешта зацікавіла. А немцы ж, бач, на гармоніку пілікаюць...

— Калі так будуць новую ўладу слухацца, то я ім пакажу, дзе ракі зімуюць! — натапырыў твар Вітух і зноў паглядзеў на гадзіннік. — Прывыклі, каб з хат выцягвалі. Дык запомніце: я — не брыгадзір...

А пакуль тое ды сёе, некаторыя немцы зашасталі па вёсцы. Што ім яшчэ трэба? Курэй падгрэблі раней, парсюкоў, у каго былі тыя і хто не паспеў іх схаваць, таксама. Яшчэ, чаго добрага, кароў паядуць. Будзе тады бяды.

У натоўпе Нупрэй убачыў Лявона Кончыка, і яму трохі стала весялей: усё ж не адзін перад гэтай воўчай зграяй ён будзе.

— Здароў, кум, — павітаўся з ім Нупрэй.

— Паклон, Язэпавіч, — працягнуў руку Лявон, хоць яны рэдка калі раней абменьваліся рукапацісканнем. — Вывалаклі?

— Можна сказаць, што і так.

Ёсць такія людзі, з якімі нічога не страшна, і немцы — таксама. Для Нупрэя такім чалавекам заўсёды быў Лявон Кончык. З ім і цяпер вось стаяць перад немцамі вальней можна, не трэба выцягвацца ў струнку.

— Вунь і Платон шкандыбае, — паказаў вачыма Нупрэй. — Сядзеў бы на печы. Дык не, паўзе.

Лявон кіўнуў: бачу, і з печчу згодны.

Платон, валюхаючыся з боку на бок, нібы сытая качка, падыходзіў да іх. Ступаў ён цяжка, апіраўся на кавеньку-крывульку, пільна глядзеў перад сабой у адну кропку, не адрываў вачэй ад сцежкі, нібыта баючыся, што варта збочыць з яе хоць на крок-другі — і паляціш некуды ўніз, не інакш, як на той свет...

— Сваё адпоўзаў, — уздыхнуў Платон і адразу ж прадзёрся да Нупрэя і Лявона Кончыка. — З вамі весялей.

Ён паклаў сухія і жоўтыя, бы леташнія трэскі, рукі на крук кавенькі, толькі тады ўзняў выцвілыя, аднак неабыякавыя да жыцця, вочы. І зноў загаварыў:

— Занядужыў я. У грудзях сціснула немаведама як. Не прадыхнуць. Кхе-кхе...

— Паляжаць трэба, — паспачуваў Лявон Кончык.

— Дадуць, чакай, — Платон паказаў вачыма на паліцая. — Прыпёрся і гоніць. Шнуруй, кажа, дзед, як можаш. Хоць паўзі, а каб у гурце быў. Для масавасці.

Бобік Вітух яшчэ раз задаволена і важна паглядзеў на свой гадзіннік, потым ускінуў уверх руку — папрасіў цішыні. Гэтая каманда падзейнічала і на нямецкіх салдат. Тыя падхапіліся, выпрасталіся, абцягнулі форму. На што Лявон Кончык заўважыў:

— Глядзі ты, ужо і немцы перад ім выструньваюцца. Далёка пойдзе. Калі не спыніць своечасова.

Нупрэй плюнуў:

— Свалата якая, га! І жыў жа пад бокам у нас. Куды, папытаць бы ў саміх сябе, глядзелі? Вось якая гадасць, аказваецца!

— Ён што, важная шышка? — шапнуў нехта ў натоўпе.

— Не-е... Таксама скажаш. Бытта яловая: вісіць высока ды ляціць затое доўга, вобзем чмякаецца, ажно далёка чуваць, — патлумачыў яму Нупрэй.

Паліцай тым часам ускараскаўся на грузавік, пачакаў, пакуль суцішацца людзі, угамоняцца, а пасля загаварыў, зрываючыся на крык:

— Грамада! З вамі гаворыць прадстаўнік новай улады, узаконены вялікім фюрарам. Паказваць дакумент не буду, вось ён я — каму трэба, глядзіце. А цяпер — слухайце сюды! Калі вы будзеце мяне ўважліва, як на ўроку ў школе, слухаць і я не буду паўтарацца, тады, думаю, я доўга вас не затрымаю. Такі ўгавор стаўлю.

— Супчык шчэ нам угаворы ставіць, морда, — буркнуў Нупрэй. — Ну, ну, давай мянці, паслухаем, калі ўжо сабраліся. Балаболь.

— І так-с, — працягваў Вітух, — пераходзім да канкрэтнай і важнай справы, для чаго я вас і сабраў. Новая ўлада даводзіць да вашага ведама, што ў Хатоўні будзе стаяць наш гарнізон.

— Чый гэта — наш? — не зразумеў Платон і павярнуў вуха прама на Вітуха.

— Хіба ты, Платон, не бачыш, пад чыю дудку ён скача? — шапнуў Нупрэй.

Паліцай жа працягваў:

— А таму я вымушаны, грамада, заявіць: да высокага начальства павінны аднесціся мы чынна і разумна. Раю вітаць...

— Картуз мо загадаеш заламаць? — зноў пачуўся Нупрэеў голас.

— Масла ў каго там завядзецца, яйкі, свежае мяса — усё, напамінаю, будзе вашым лепшым падарункам высокаму начальству, — працягваў Вітух. — Напамінаю і пра дысцыпліну. Адно трэба: пад-па-рад-ка-ван-не! І, крый гасподзь, ніякага благога намеру. Без гэтага, значыць!.. Што гэта я далей хацеў сказаць? Ага! Лясныя бандыты, якія не жадаюць свайму народу лепшай долі, могуць агітаваць таго-сяго... хто, вядома, слабы душой і целам... для гіблых спраў. Не раю. Ад усяго зямляцкага сэрца кажу: не раю.

— Вяроўчыну б яму на шыю накінуць ды сцягнуць з грузавіка, хамло такое! — усё больш і больш распальвалася нянавісць да паліцая ў дзеда Нупрэя. — От жа ірад!

Лявон Кончык шапнуў на вуха млынару, каб не хваляваўся ён асабліва: шыя ёсць, а вяроўку знойдзем. І дзед, здаецца, крыху супакоіўся, стаяў моўчкі.

— Літасці не будзе, калі вы не так зразумееце мяне, а ў маёй асобе — новых гаспадароў.

— Асоба! — не стрымаўся ўсё ж дзед, хоць і пакляўся сам сабе маўчаць, не выторквацца, а потым глянуў на Лявона Кончыка, даў зразумець таму, што ўсё, больш ні слова, што хоча, тое няхай і мянташыць паліцай сваім брудным языком. Завязаў з крытыкай.

Паліцай папрасіў мужчын застацца, астатнім даў вольную. Натоўп варухнуўся, і раптам усе пачалі разыходзіцца — не паслухаліся яго мужчыны. Вы бачылі такое! Паліцай скамандаваў спыніцца.

— Нам трэба ахвотнікі. Ёсць такія ці не?

— Спярша кажы — навошта, што рабіць? — падставіў зноў вуха пад голас паліцая Платон.

Як высветлілася, трэба было рамантаваць кантору, прыстасоўваць яе пад штаб, і, паколькі ахвотнікаў не знаходзілася, Вітух пачаў тыкаць у натоўп пальцам:

— Ты! Ты! Ты!..

Дзеда Нупрэя ён абмінуў, на Платона нават не глянуў. Палец стрэліў у Лявона Кончыка.

— Каго назваў — застацца! Астатніх — каб і духу не было. Марш адсюль. Ды глядзіце ж мне! — і бобік, задаволены, відаць, самім сабой, апісаў кола на абцасах ботаў, запыленых і вялікіх, а потым загадаў разабрацца мужчынам у адну шарэнгу. Па росце.

Дзед Нупрэй, перш чым пакінуць Лявона сярод «даверaных і добрых спецыялістаў», вылучыў момант і паўшэптам сказаў яму:

— Я на ветраку буду...

— Добра, — кіўнуў Лявон Кончык і застаўся стаяць на тым жа месцы, дзе і стаяў. Далекавата ад паліцая. Той паманіў яго пальцам. І паставіў на правы фланг.

— Вучыць вас трэба! — гыркнуў Вітух.

Вярнуўшыся дамоў, Нупрэй коратка сказаў сваёй старой:

— Соль пaберажы. Надоўга, бачу, прыехалі...

Бабка Пелагея захлімкала і нічога не сказала. Нупрэй прытуліў яе да сябе, сказаў:

— Вось вестку атрымаем ад Шуры, весялей будзе. Пакуль тое ды сёе, і атрымаем... Не адразу, вядома ж. Пошта як цяпер ходзіць? Клыпае, можна сказаць. Як прусак. Ды мо і не да пісьмаў унуку: вайна — не вяселле. Пакуль аловак той знойдзеш, а папера, што, думаеш, з неба падае! — і стары торкнуў уверх сагнутым пальцам. — Во як! Галоўнае, каб ваяваў добра. А мы тут не падкачаем. Трымайся, Шура! Трымайся!..

Дзед Нупрэй патаптаўся яшчэ трохі на падлозе, задумлівы і маўклівы, а потым змахнуў з шаста рабочае адзенне — густа зацярушаныя мукой —здаецца ажно наскрозь! — порткі і кашулю, але, перш чым пераапрануцца, зноў паглядзеў на старую:

— Вайна не вайна, маладзіца, а без ветрака я, што ён — без ветру... Пайду на млын, пагляджу, можа, хто і прывязе мех-другі з мінулагодняга ўраджаю... Ага. Сёння вецер добры.

— Паеж хоць.

— Не да ежы.

— Ідзі тады. Толькі ж нос не сунь куды не трэба. А то я бачу, ты з хлапцамі звязаўся — каб яны цябе, галовы ж гарачыя, неразумныя, куды ў зман не звялі. Знайшоў з кім сябраваць.

— Вучыць мяне будзеш! — прабурчаў Нупрэй і сабраўся ўжо было ў двор, калі ў хату ўваліўся Вітух.

— Вось цяпер можна і пагаманіць. З вока на вока. Баба твая нам не зашкодзіць. Што глядзіш на мяне так, быццам я табе на хвост солі насыпаў? — Вітух сеў за стол і адразу даў зразумець, хто тут госць, а хто гаспадар. — Самагон давай. Ды не глядзі, не глядзі так на мяне. Хопіць, пакіравалі. Дайце і Вітуху. Пажылі пры той уладзе, а цяпер буду жыць я. Бацька мой дзе? На Салаўках? Ці ў Сібіры? Я яго туды не адпраўляў. А за тое, што замардавалі чалавека, хто адкажа?

— Мне пара, — Нупрэй памкнуўся выйсці з хаты.

— Кудый-та табе пара? Ці мне пачулася? — лыпнуў вокам Вітух. — А спытаўся ты перш, адпускаю я цябе ці не, га? То-та ж! Ці ты думаеш, стары небарака, перад табой той самы Вітух, што ўвосень прасіў-маліў цябе, каб хлеб наш змалоў? Забыўся? То я напамінаю. Акуратна і своечасова. Памыляешся, ох і памыляешся, дзед. Скажу: сядзі ноч і дзень — і будзеш сядзець як міленькі, нават за вугал, калі прыспічыць, не ўздумаеш выбегчы. Мяне, дзед, германец надзяліў вялікай уладай. Не самазванец я, не думай. Вось!

Вітух патрос перад носам старога нейкай паперкай, папярэдне вышмаргнуўшы яе з бакавой кішэні — спрытна, што той цыркач: відаць, ён усім яе паказвае, паперку, таму і трымае напагатове.

— От, старэча, бумажэнцыя! Ёй любому нос падцерці магу. І такому лапатніку, як ты. Падыходзь, га!

Нупрэй усміхнуўся:

— Ты ёй, гэтай, значыць, паперкай, толькі нос можаш падцерці ці яшчэ што?

Вітух нетаропка, нібы пра нешта думаючы, падняў бровы на старога, а потым з усяе сілы — млынар нават спалохаўся, што маснічыну праломіць — грукнуў узбоч сваёй нагі, абутай у новы бот, прыкладам карабіна, пасля тузануў Нупрэя за рукаў:

— Стаяць! Я б цябе, дзед, сам у расход пусціў вось гэтай штуковінай, — паліцай паказаў на карабін. — Маю, маю права. Не думай. А як жа! Бачыў дакумент? Там усё чорным па белым, як у газеце, напісана. Ды млын твой, дзед, трэба. Млын. Вятрак. Кажы яму дзякуй. Аднак папярэджваю: калі і там, на млыне, брыкацца

станеш, то я з табой буду размаўляць іншым метадам. Кеміш? Глядзі ў мяне!

Бабка Пелагея моўчкі паставіла на стол міску з капустай, унесла з сянец некалькі агуркоў і памідораў, а потым паставіла і бутэльку з мутным самагонам: хоць і апошняя, але ж паліцай не адвяжацца, сам пачне шукаць, вэрхал зробіць у хаце. Паставіла пляшку з самагонам, ціха сказала: «На, падавіся!»

— Ты што набычыўся так? — Вітух забулькаў з пляшкі ў карэц. — Новую ўладу ўпершыню бачыш? То прывыкай. Надоўга мы. І падцісні хвост. Хопіць гогалем хадзіць па вёсцы. Я тут цяпер не апошні...

Што ён не апошні, Вітух не адразу прыдумаў, таму ў паўзу, якая ўтварылася, Нупрэй уставіў сваё слова:

— Пацук.

Вітух папрасіў паўтарыць. Нупрэй сказаў, і, калі паліцай узнагародзіў старога сваім кухталём, дзед адчуў, што справы дрэнь: хоць на нагах і ўтрымаўся, але пад вокам нешта не так... Хлопцы, калі вярнуліся ў вёску з каскамі і грыбамі, пашкадавалі, што не было іх на сходзе каля канторы, а ўбачыўшы пад вокам у дзеда Нупрэя вялікі сіняк, паабяцалі адпомсціць Вітуху. Юраська так і сказаў:

— Ух, пачакай, паліцай Вітух!

## 6. ПРАЧУХАНЕЦ, АЛЬБО ТРЫ ГАЛАВЫ ДОБРА, А ЧАТЫРЫ — ЛЕПШ...

Але, перш чым адпомсціць паліцаю за дзеда Нупрэя, хлапчукам трэба было вытрымаць дома нападзенне мацярок, бо тыя, калі ім верыць, з ног збіліся, шукаючы іх. Як згаварыліся ўсё роўна. А што тут з ног збівацца? Усяго толькі ў лес збегалі — дык ці ж упершыню! Не выручылі і нямецкія каскі з грыбамі. Юраськава мама, доўга не раздумваючы, нават шпурлянула жалезны нямецкі шалом на агарод, грыбы разляцеліся па двары, скаціліся пад плот:

— Абы-што ў хату прэш! Рады вам не даць! Усе вочы прагледзелі, а яны жалеззе збіраюць у лесе. Дадумацца ж! А калі стрэліць?

— Не стрэліць, — патроху пачаў прыходзіць у сябе Юраська.

— А бацьку што ты гаварыў, калі на фронт ён ішоў? Не помніш?

— Помню...

— Дык чаму ж тады не слухаешся?

Шкада мамы, вядомая справа: вайна, немцы кругом, усё можа здарыцца, а ёй тады трымай адказ перад бацькам. Але ж не сядзець Юраську, склаўшы рукі, калі вайна. У сваёй хаце ўсе смелыя, а варта ступіць на вуліцу, паглядзець, як ходзяць па ёй немцы, і куды тая смеласць падзенецца. А яны, хлопцы, не такія. Ведаць трэба.

— Сядай, еж, — уздыхнула мама і наліла супу. — Чаго толькі ні перадумалася. Немцы ж... Ці мала што? Прыстрэляць і не папытаюць.

У вачах мамы паўнютка слёз. Сястра Ліда моўчкі сядзела за сталом з лыжкай напагатове і, калі маці паставіла місу з супам, пачала сёрбаць варыва. Побач з ёй сеў і Юраська.

— Еж, сынок, еж.

Было б што. Апетыт ў яго сёння — ого-го! Вала б з'еў. Аднак выгляду не падаваў. Нават крыху ленаваўся — пасля ўсяго, што нарабіў, няёмка паказваць, што вымерхаўся. Калі ў місе нічога не засталося, Юраська аблізаў лыжку, сказаў:

— Пад'еў.

І ён прыгадаў у такі момант тату: той заўсёды, падсілкаваўшыся, задаволена ляпаў раз-другі сабе па жываце — усё ў норме, парадак, цяпер можна і вылазіць з-за стала. Але не спяшаўся. Звычайна ён яшчэ трохі сядзеў так, абапёршыся локцямі на край стала, распачынаў гаворку, прыгадваў, што было сёння ў полі ці наогул у вёсцы, марыў сенакоснай парой, як ранічкай падкляпае касу ды на золку ўзаб'е соткі на падоле. А маці слухала, ківала. Як і яму, Юраську, калі той снедаў і вячэраў — усё за адзін прысест.

Вось так, як сёння ён, сядзеў якраз тата у той суботні вечар. Паглядзеў ён спярша на хлопчыка, а тады на маці, сказаў:

— Мы заўтра з Юркам у Журавічы на кірмаш паедзем. Запражом каня — і гайда. Што нам! Так, сынуля?

Юраська, зразумела, быў на сёмым небе. Ён ведаў, для чаго паедуць: купіць яму новыя порткі, бо ягоныя ўжо працерліся і дзе толькі можна — лапік на лапіку. Абяцаў порткі тата. Не забыўся.

— Заадно і цукру купім, селядцоў, — гаворыць далей тата, і можна было падумаць, нібы порткі і сапраўды былі галоўнай і самай важнай пакупкай, па якую яны збіраліся ў мястэчка. Не, канешне ж, але бацькава хітрасць Юраську падабалася. — Паглядзім і табе, Ліда, крамніны на сукенку. Можа, і на гатовую патрапім. Як пашэнціць.

Ліда таксама просіцца.

— Усім адразу нельга, — разважліва і строга казаў тата. — З кім жа маці мы пакінем? Хто ёй пасобіць па хаце? Тут хапае работы. А іншым разам, давай дамовімся, дачуша, я цябе вазьму з сабой. Не ўсё ж Юраську, а? Дамова?

Сястра не адразу пагаджаецца і назаўтра ранічкай праводзіць тату з братам за вёску: спярша едзе разам з імі на калёсах, звесіўшы ногі ў акенцы драбіны, а потым вяртаецца назад.

— А пра сукенку не забудзеце? — напамінае яна сумна і з надзеяй.

У Журавічы яны ўехалі якраз у тыя хвіліны, калі моцны і строгі мужчынскі голас паведамляў па талерцы, якая боўталася на слупе перад крамай, у якой прадаюць хлеб і цукар, што пачалася вайна. Тата пацягнуў лейцы на сябе, і конь спыніўся. А калі дыктар скончыў гаварыць пра вайну, бацька сцебануў пугай каня па ўзмакрэлай спіне, і калёсы загрукацелі што ёсць моцы.

— Вайна не вайна, а не сяціць жа задам! — шлёгаў і шлёгаў ён пугай па спіне каня, нібы той быў вінаваты, што пачалася, калі верыць таму строгаму мужчынскаму голасу, вайна. — Нэ-э, мац тваю пройбу!..

Кірмаш гуў. Юраська сядзеў на возе, а тата цёрся недзе сярод людзей, якія сноўдалі ўзад-уперад абыякава, бязладна. Раней ніколі не бачыў хлапчук тут такога гармідару. Ды і нідзе. Плакалі людзі, галасілі, але не ўсе. Спяшаліся, пачуўшы страшную вестку, да сваіх гнёздаў — лезлі напралом, з крыкам і гвалтам, да прылаўкаў. І ўсё да нечага прыцэньваліся, прымяраліся.

Доўга сядзеў тады Юраська на калёсах, ажно спіна забалела. Як у дзеда якога старога. Не справа гэта, каб так было з ягонай спінай, і ён выпрастаўся. Ого, ды так і зусім добранька! І людзей усіх бачыш.

Адно картузы ды чупрыны мільгаюць. Яшчэ і хусткі. Самыя розныя: белыя, чорныя, квацістыя... Убачыў Юраська і тату. Ён у выцягнутых руках нёс над галавой пакупкі, нібы пераходзіў глыбокую раку, дзе яму вады было пад самы падбародак. Ага! Порткі ёсць!

З Журавічаў вярталіся не так хутка, хоць конь дамоў заўсёды бяжыць ахвотней, больш шпарка: тата наўмысна прытрымліваў лейцы, не даваў яму разгону. Чаму так, ён потым адкрыў сакрэт:

— Мала ў нас часу, сын, застаецца. Вайна... Давай пагаворым. Ніхто не падслухае. Тут мы адзін на адзін. А пагаварыць трэба. Як мужчына з мужчынам. Не сёння-заўтра мяне прызавуць... гэта факт. Мабілізацыя, чуў, у мястэчку пачалася ўжо. Сур'ёзнае дзела, па ўсім відаць. Адзін мужчына цяпер у хаце. Разумееш, што гэта значыць?

Юраська не ведаў, што адказаць. Палічыў за лепшае прамаўчаць. Так і зрабіў.

Конь ціха мясіў капытамі пыл, лёгка цягнуліся калёсы: кру-кру — вялі колы на сухіх восях нудную мелодыю.

Хоць і збіраўся тата яму шмат чаго сказаць, а сказаў коратка і зразумела:

— Слухайся матку... Ты дарослы ў мяне. Паглядзі, якія вялікія порткі табе купілі. Крыху меншыя, чым на мяне. На чвэрць. — І тата расцягнуў штаны за калашыны і, здалося, захінуў імі перад хлапчуком увесь белы свет...

...Юраська ўсё яшчэ сядзеў за сталом, на татавым месцы, нават так, як ён, — паставіў на абрус вострыя локці, а пальцы моцна сашчапіў у кулак. Адно хібіла — маўчаў, нічога не гаварыў. А што яму было сказаць? Не будзеш жа хваліцца, дзе брындалі цэлы дзень, што бачылі! Хопіць, што грыбы на паркане вісяць, а каска нямецкая паляцела-пакацілася, бы гарбуз. Не бабская гэта наогул справа — слухаць пра ўсё гэта. І не мужчынская — расказваць...

Аднак Юраська ўсё ж не вытрымаў, папытаў:

— Немцы, кажуць, прыязджалі?

— Прыся, прыся ўжо да іх! — не спадабалася пытанне маці. — Калі-небудзь яны бяды наробяць. Сядзеў бы дома!

Дома сядзець справа няхітрая, аднак трэба неяк да дзеда Нупрэя збегаць. Жаданне вялікае ёсць. Але ж як скажаш пра гэта

маці? Адразу пачне зноў павучаць, як паводзіць сябе пры акупацыі, нібы ён сам малакасос які. Бацька і той сказаў: ты — дарослы... Шкада, што яна не чула. А калі б пачула, то гэта шмат што б значыла. Хлопчык на ўсялякі выпадак папрасіў маці раскатурхаць яго рана, сказаў ціха, але горда:

— Я касіць пайду!

Маці моўчкі кіўнула. Касіць — гэта добра. Гэта не перад немцамі шныраць. Ды і жыць трэба, якой карысці з той бегатні? Юраська патупаў да вышак, але спыніўся на двары. «Не, трэба на вятрак. Абавязкова. Як гэта пражыць дзень без дзеда Нупрэя?»

Вёска не спала. Было яшчэ рана, і яна толькі-толькі збіралася на спачын, да сну: то тут, то там патухалі цьмяныя агеньчыкі ў вокнах, бразгалі клямкі на веснічках. Вунь праплыла нечыя постаць у шэрым змроку, знікла з вачэй раптоўна, як і з'явілася. Скавыталі, надрываліся жабы ў копанцы.

Юраська ўпэўніўся, што маці з Лідай ляглі спаць, і патупаў да ветрака. Па кладцы, якая вісела над рэчкай вузкім паяском, гойдалася і спружыніла, ступаў крок у крок. А потым выбегла насустрач вузенькая лысая сцежка... і якраз у гэты момант ён пачуў патрабавальны і строгі голас Сяргейкавай маці: «Вярніся, сказала! Каму гавораць? Ты куды гэта, на ноч гледзячы? Я табе пакажу, свавольнік, як матку не слухацца!» Усё зразумела, як белы дзень: Сяргейку на вятрак не адпускаюць. Юраська ўявіў, як сябрук пераступае з нагі на нагу, шморгае носам, трэ кулаком вочы і ўвогуле робіць кіслы выгляд — мо хоць так яго пашкадуюць, адпусцяць. Яму робіцца шкада Сяргейкі, і Юраська дакарае сябе, што не падказаў, як можна было абхітрыць маму. А трэба было сказаць так, як адчаканіў ён: «Я касіць пайду!» Касцы заўсёды былі і будуць, пэўна ж, у пашане. А вось Паўлік — малайчына, ён падпільноўваў ужо Юраську.

— Чуў? — папытаў адразу.

— Чуў...

Эх, жыццё! Ну хіба ж яны, маткі, не могуць зразумець, што не дзеці ўжо хлопцы, а самыя што ні ёсць сапраўдныя партызаны. Так, так,

партызаны: ні сёння-заўтра яны збіраюцца падацца ў атрад. Вось толькі трэба пранюхаць да іх дарогу, і ўся справа будзе ў капелюшы. Для гэтага ж і на вятрак шыбуюць. Цікава, ці правецца Сяргейка? Аднак яго так і не дачакаліся.

— Ну што, пайшлі? — лыпнуў вачыма ў змроку Паўлік. — А то і дзеда праваронім, і Сяргея не дапільнуемся.

— Пайшлі...

Хлапчукі моўчкі падаліся да прыступак, крутых і рыпучых, што вялі да дзвярэй, з якіх цьмяна сачылася халоднае святло ад ліхтара, вылузвалася са шчылін — дошкі рассохліся, а самі дзверы скрывіліся, даўно не ведалі, што такое пазы, якія зрабіў для іх некалі цясляр. Стары ўжо вятрак, як і сам дзед Нупрэй.

Юраська нясмела паляпаў у дзверы. Прыслухаліся. Шэпт, які даплываў з будынка, раптам прыціх, а голас дзеда Нупрэя, глухі і стрыманы, падбадзёрыў хлапчукоў:

— Заходзьце, не грыміце. Адамкнёна.

Дзверы прарыпелі, і хлапчукі адразу ж апынуліся за нізенькім парогам, стаялі на дошках, некалі раз і назаўсёды пабеленых — як не наскрозь — пылам ад мукі, і пэўны час не маглі заўважыць млынара.

— Га-а, жэўжыкі! — выглянуў аднекуль з цемры дзед Нупрэй, падаўся насустрач сваім гасцям. — Чаго ж пасталі? Праходзьце, калі наважыліся да мяне. Праходзьце, праходзьце.

І дзед паказаў рукой, каб яны ішлі за ім. Там, у ледзь асветленай бакоўцы, — ліхтар, як заўсёды, стаяў пры ўваходзе — нехта кашлянуў. Кашаль падаўся знаёмым. Пазней ўбачылі: на табурэце, нібы пан, шырока разваліўшыся і ўзгрувасціўшы на столік вялікі кулак, сядзеў Лявон Кончык. Канешне, хто ж яшчэ тут будзе. І сядзеў ён так, быццам знерухомеў, закамянеў, а ягоны кулак быў прыбіты да вечка стала цвіком.

— М-да, — нарэшце варухнуўся Лявон, прыцмокнуў языком, крутнуў галавой. — М-да... дзялы дзялішкі.

— Сядайце, хлопчыкі, на мяшэчкі, — дзед Нупрэй ляпнуў па самым пузатым мяху, над ім ажно закурэў белы пыл. — От сюды. І ты, Паўлік, давай. Ці памагчы табе?

— Сам...

— Сам дык сам. Што цікавае скажаце? — дзед Нупрэй навастрыў слых, хітравата абвёў позіркам гасцей.

Сябрукі перасмыкнулі плячыма, але трохі павесялелі, бо адчулі, што стары рады іх з'яўленню. Толькі не ведалі, што сказаць яму. А сапраўды — што? З чым яны прытупалі? З якімі навінамі? Няма навін. Не будзеш жа расказваць дзеду Нупрэю пра тое, аб чым ён і сам ведае. Ну былі ў лесе, бачылі разбітыя грузавікі. Спытаць бы, чаго прыязджалі ў вёску немцы. А што ён, млынар, ведае? «Былі, былі немцы», — Юраська ўявіў, як гэта скажа, апярэдзіўшы іх, зараз дзед Нупрэй. Скупа, хітра. Ці сам негаваркі Лявон Кончык. Пара і яму нешта выцадзіць. Таму і сядзелі, маўчалі. Аднак, як пераканаліся пазней, не заўсёды карысна лапатаць, іншы раз чаканне і сапраўды золата. Дзед Нупрэй прысеў да стала насупраць Лявона Кончыка, паглядзеў на хлапчукоў:

— Наш дзень настаў, малеча. Толькі пра вас пагаманілі, а вы тут як тут. Што значыць — лёгкія на ўспамін. Скажы, кум?

Лявон Кончык уцягнуў у рот шмат паветра, кіўнуў: было.

— Гаманілі? Пра нас? — не паверыў Паўлік. — Жартуеце? Што пра нас можна гаманіць? У вас, мусіць, і без нас клопату багата.

— Таму і ўспомнілі, што клопату багата, — пагадзіўся млынар. — Адным нам яго не адужаць. Зваліўся гэты клопат на нашы з вамі галовы, забрыкай яго каза, што снег улетку. І думай цяпер, кумекай, як пазбавіцца ад яго. Справа, браткі, важная, адказная дужа яна... Не думайце, што давяраем вам яе не падумаўшы, наскокам. Не. Раіліся, і доўга. Помніце сваё «чэснае піянерскае»?

— Карацей гавары, Нупрэй! — нецярпліва папракнуў таго Лявон Кончык. — Не муку ж мелеш. То важная справа. Хлеб — таму што. А гаварыць можна і карацей...

Дзед Нупрэй пагадзіўся:

— Заўвагу прымаю. З Аляксеем Касцючэнкам у мяне дамова была. Калі што — паведамляць яму. Якім чынам, карціць ведаць? Не раблю тайны, бо цяпер вы не проста хлопцы басаногія і хатаўнянскія басурманы, а партызанскія сувязныя, і мы на вас ускладаем вялікія,

прама скажу, планы. Як на верных памагатых. Цяпер мы без вас — як вятрак мой без ветру... Слухайце сюды, хлопцы... За Жавіннікам, дзе бярэ пачатак дарога на Каменку, стаяць тры сасны. Старыя, касматыя, з траха голымі каранямі. Вядома, на ўзвышшы, вецер ліжа з усіх бакоў...

— Як стары костку, — падказаў Лявон Кончык і ўсміхнуўся сам сабе.

Відаць, успомніў пра вячэру.

— Бачылі? — папытаў пра сосны дзед Нупрэй.

— Паўз іх на луг ездзілі, — кіўнуў Юраська.

Паўлік таксама сказаў паўшэптам:

— Тыя сосны сёстрамі называюць.

— Ведаеце, значыць, — палагаднеў твар у старога. — Гэта ўжо добра. Аблягчаеце нашу задачу. Да чаго я пра сосны? З сённяшняга дня… ці вечара — так дакладней будзе — для вас існуе адна сасна, сярэдняя. Не забывайце. Сярэдняя. Па маёй дамове з партызанамі, менавіта яна будзе служыць схованкай. Тайнікомї. Ёсць у тым дрэве не надта глыбокае дупло, мая рука пальцамі па дне шкрабае. Ад зямлі дупло тое невысока, акурат па вашым росце, дацягнецеся. Сёння альбо заўтра раніцай трэба пакласці туды першае наша паведамленне. Пажадана, каб прыцемкам. Ноч ёсць ноч — яна схавае і прытуліць, што матка родная, — Нупрэй прыслухаўся. — Лічу, што трэба паведаміць нашым, што чакаецца ў Хатоўні раскватараванне варожага гарнізона. Не ведаю, багата ў тым гарнізоне будзе салдатаў ці не, але адчуваю, што напрэцца іх сюды, як рыбы ў нераст у нашу Гутлянку з поймы. Ведаць пра гэта партызанам трэба ў абавязковым парадку. Я так лічу. Лявон мяне падтрымлівае. Для чаго ж тады дупло выбіраў і вас чакаў, хлопцы, га?

— Канечне, трэба! — Юраська ажно зрабіў крок наперад да млынара, нібы збіраўся бегчы да сасны проста зараз.

Узрадаваўся першаму заданню і Паўлік:

— Абавязкова! Я панясу! У мяне кішэнь глыбокая, не згубіцца!

Юраська паказаў свае кішэні — вывернуў, і аказалася, што ў яго яшчэ глыбейшыя, асабліва на правай калашыне, дзе ён носіць,

калі косіць, брусок. А дзед Нупрэй не звяртаў на тыя кішэні ўвагі, меркаваў, што з сябе будзе ўяўляць той гарнізон.

— Што сёння для нас сакрэт, заўтра не будзе, — цвёрда казаў ён. — А мо і зусім перастрэнуць партызаны немчуру ды намуляць ёй бакі, патрасуць, як воўк авечку, дадуць у каршэнь. Каб знаццё, як той казаў, што ў кума піццё, — стары ўсміхнуўся куточкамі вуснаў, глянуў на Лявона Кончыка: той адказаў яму цёплай усмешкай, — дык пабег бы... Пажартаваў, хопіць. Бліжэй да справы. Сядай, хто з вас байчэйшы, на маё месца...

Млынар узняўся, нырнуў у цёмны кут, дзе ўзяў яшчэ адзін ліхтар «кажан», запаліў яго, а Юраську, які сядзеў ужо насупраць Лявона Кончыка, падаў аловак і маленькі квадрацік паперы.

— Трымай, браце. Прыбярог. У гаспадарцы, не дарэмна ж кажуць, усё калі-небудзь спатрэбіцца. І да Лявона: — Памагай, кум, падказвай, што пісаць. Тры галавы добра, а чатыры яшчэ лепш.

Лявон варухнуўся на табурэце, крэкнуў:

— Толькі надта многа не пішыце. І старайцеся так шкрабаць, каб супастат не адразу даўмеўся, што да чаго, калі і трапіць яму цыдулка.

— А як бы ты сам напісаў? — паглядзеў на кума Нупрэй.

— Я? Ды проста... Намячаецца размяшчэнне ў Хатоўні нямецкага гарнізона. І кропка. Ага, мабыць, трэба дадаць: надоўга, бо штаб робяць. Пакарацей. Менш слоў — больш справы. Што вы, хлопцы, думаеце на гэты конт?

Вытыркнуўся наперад Паўлік:

— А тое, што ворагу запіска ніколі не трапіць. Так мы і аддадзім яе!

— Адкуль ён можа пра нашу схованку даведацца? — здзівіўся Юраська.

Яшчэ трохі паспрачаліся, як і што пісаць, а потым Юраська вывеў на тым квадраціку паперы ўсяго некалькі слоў: «Неўзабаве намячаецца размяшчэнне ў Хатоўні варожага гарнізона. Па распараджэнні паліцая В. Х. Ката мужчыны рамантуюць кантору праўлення калгаса пад штаб. Чакаем указанняў».

— Было б добра, каб пад гэтым тэкстам нейкае слова паставіць, — паглядзеў на дарослых Паўлік.

— І мне так здаецца, — падтрымаў яго Юраська.

— Га, дзед Нупрэй? А вы, дзядзька Лявон, што скажаце?

— Гэта што яшчэ за подпіс такі? — не зразумеў намеру хлапчукоў млынар.

— Яны хочуць, Нупрэй, баявое імя сабе прыдумаць, — здагадаўся Лявон Кончык. — Ці не так, мальцы?

— Вядома! — засвяціўся твар у Паўліка.

— Ціха! — гыркнуў па Паўліка дзед Нупрэй. — Кажы больш зразумела. Тут табе не прахвесары. Што? Для чаго? А то прыдумаем які ляпсус, што людзей насмяшым. І сам чорт нічога не разбярэ...

— Вось і добра, — заступіўся за сябрука Юраська. — Няхай і не разбярэ. Няхай і немец галаву паломіць...

Аднак млынар не прыняў прапановы хлапчукоў паставіць нейкі подпіс унізе, патлумачыў:

— Прыдумаць — яно не бяда, можна. Толькі ўсё ж трэба рабіць нам так, каб не даваць немцу і маленькай зачэпкі. Няхай лепш і не чуе і не ведае. Тады і нам спакайней будзе. І прашу далей слухацца мяне і вось яго, Лявона... І без выбрыкаў, хлопцы! Думайце галовамі. Глядзіце ж мне, каб усё шыта-крыта было. Ну а калі ўжо так прыспічыла вам тое слова ўжыць... то як прыдумаеце — скажаце. А пакуль нічога не пішыце пад запіскай. Там, у лесе, ведаюць, што да чаго...

## 7. ГІЛЬЗА НЕ ТОЛЬКІ ДЛЯ ПОРАХУ

...Ноч выдалася зорнай, ціхай. Над лесам, бы зачапіўшыся рогам, вісеў маладзік. Недзе ў гушчары палахліва крыкнула сава. Потым другі раз.

Хлапчукі насцярожыліся. Аднак потым навакол зноў стала ціха. Юраська шапнуў Сяргейку, які ішоў крыху ззаду:

— Сава палюе...

— Ага, — адказаў той.

Паўлік крыху адстаў ад сяброў, таму не чуў, пра што яны гаварылі. Вятрак хлапчукі пакінулі адразу, як толькі дзед Нупрэй скруціў трубачкай запіску, запіхнуў яе ў гільзу і працягнуў Юраську:

— Трымай. Кішэні без дзірак? Глядзіце ж, не пасейце.

— Я ў руцэ панясу, — паабяцаў Юраська.

— Твая справа. Галоўнае, каб не згубіў. Ну шчаслівай дарогі, мальцы, — дзед моцна пацiснуў ім па чарзе рукі. Яшчэ мацней — Лявон Кончык.

Але, перш чым пайсці да соснаў-сясцёр, сябры выручылі ўсё ж з сямейнага палону Сяргейку. Той апраўдваўся, што ва ўсім вінавата маці, а не ён, аднак яго ніхто не слухаў: не было калі, трэба спяшацца, а то хутка пачне світаць. Ледзьве толькі сосны паказаліся ў паўзмроку, прыветна схіліўшы свае вялізныя шапкі ў бок хлапчукоў, над дрэвамі праляцеў ветрык, злёгку загойдаў голле, нібы напомніў сябрукам, што толькі адзін ён тут і гуляе-забаўляецца, нібы нават загадаў тым: ідзіце ж смялей, не бойцеся, чаго пасталі, хіба не разумееце, што я вам кажу!

— Я пайду адзін, — зірнуў на Паўліка з Сяргейкам Юраська. — А вы чакайце тут. Сяргей, ты можаш драчом скрыпець. Калі што — падай знак.

— Добра.

— Павел, глядзіце тут удвух...

Паўлік таксама кіўнуў. Юраська расшчапіў кулак, і яны ўтрох глянулі на гільзу.

— Давай, Юрась.

— Ціха. Чаго нам баяцца, праўда ж, хлопцы? Ну, я пайшоў...

Паўлік з Сяргейкам злёгку бачылі, як іх сябрук падыходзіў да соснаў, і, чым далей ён ішоў, тым больш губляўся ў змроку, а неўзабаве і зусім прапаў з вачэй. Толькі трывожна махалі шапкамі-аблавушынамі старыя камлістыя дрэвы ды гуляў у іх кронах ветрык. Здаецца, побач яны, сосны, аднак не, далекавата ўсё ж. Гэта таму, мусіць, што вялікія дрэвы, высозныя. Да іх жа клыпаць ды клыпаць.

— Можна было і нам бліжэй падабрацца, — пашкадаваў Сяргейка.

Але Юраську доўга чакаць не давялося. Неўпрыкмет вынырнуў ён перад самым носам у хлапчукоў з цемры, спыніўся і пераможна гукнуў:

— Парадак!

Паўліку з Сяргейкам хацелася крыкнуць «ура!», але яны ўспомнілі, дзе знаходзяцца, і толькі моўчкі ашчаперылі Юраську, паціскалі яго крыху: заслужыў!

— Цішэй вы, задушыце! — брыкаўся Юраська. — Адпусціце ж!

Шарэў на ўсходзе змрок, браўся ў нізінах густы туман, калі хлапчукі вярнуліся ў вёску з першага баявога задання.

— На вятрак!

Дзед Нупрэй падзякаваў хлапчукам і загадаў ісці спаць.

— Будзе дзень — будзе і ежа, — сказаў ён шматзначна і пазяхнуў.

Юраська, ужо калі пераступіў парог хаты, успомніў, што збіраўся ранічкай ісці касіць і прасіў, каб маці яго разбудзіла. А што, калі яна прачнулася раней, чым ён заявіўся? Зноў будзе прачуханец! Сам сабе Юраська паабяцаў калі-небудзь выдаткаваць час і шчыра расказаць ёй, каб не хвалявалася дарэмна, калі і будуць надарацца ў яго вось такія, як у гэтую зорную ноч, нечаканыя знікненні.

А яны, спадзяваўся хлапчук, будуць цяпер усё часцей і часцей.

## 8. ПОБАЧ З ДАРОСЛЫМІ

Дачакаўся нарэшце дзед Нупрэй, калі паспее жыта! Шапаткое, каласістае. Той лапік, што меўся на гародчыку, менш непакоіў дзеда. Сярпы стары настрыў загадзя, а рупных рук яму не займаць — удвух з Пелагеяй яны за які дзень дадуць ратунак любой збажыне, прыпуцяць да каласка. Тут трэба глядзець намнога шырэй, чым свой лапік, уціснуты вузенькай палоскай паміж яблынь ды груш. Жыта ўрадзіла і на калгасным полі. Як быць з ім? Не спаць жа ў шапку, не чакаць, калі колас асыпецца. Нешта трэба прыдумаць, каб і хлеб не прапаў, і ворагу не дастаўся. А тут і пасланне ад партызан у сасне якраз: «Вас зразумелі. Хвалім за ініцыятыву. Будзем дзейнічаць. Падпольны райкам партыі ставіць задачу перад усімі хлебаробамі калгаса “Новае жыццё” своечасова ўбраць збожжавыя культуры. Сабраны ўраджай часткова падзяліць на кожны двор (па колькасці чалавек), астатні закапаць да дадатковых указанняў. Фронту патрэбны хлеб...»

— Вось такія ёлкі-палкі! — дзед Нупрэй даслухаў да канца пасланне, якое прачытаў яму Юраська, аблізаў засмяглыя губы. — Што гэта — загад альбо проста парада? Мусіць, усё ж загад. Калі ж тут чорным па белым напісана: падпольны райкам партыі... Ну, канешне, райком, хто ж яшчэ! Зяць Марусін, Касцючэнка, — не абы-хто! Ён і кіруе. Гэта ў нас, у арцелі, безуладдзе. Трэба, значыць, прымаць пакуль кіраванне на сябе. А там відаць будзе. Юрась, га, Юрась, давай мне паперку ад партызан, а сам імчы да Паўліка з Сяргейкам, ды разам на адной назе вёску абскачыце: перадайце людзям, каб да майго ветрака тэпалі. Будзем жніво пачынаць. Ды скажыце, што не паліцай Вітух кліча на сход, не абы якое саплівае начальства... — Млынар прыціснуў падэшвай бота акурак, паскроб патыліцу, відаць, хацеў яшчэ сказаць нешта больш вартае, значнае, але ў яго не знайшлося тых патрэбных слоў, і тады ён проста загадаў: — Ну марш, марш!..

— Мы ўмомант, дзеду! — усхапіўся, бы віхор, Юраська, панёсся з ветрака. Быў — і няма.

Лявон Кончык майстраваў нешта на двары, пад паветкай, а калі ўбачыў Юраську, падняў на таго вочы.

— Дзядзька Лявон, дзед Нупрэй кліча!

— Няўжо? — адклаў у бок сякеру Лявон Кончык, увабраў галаву ў плечы, нібы тая навіна і сапраўды здзівіла яго. — Што гэта ён? Толькі ж бачыліся...

— Ён усю вёску збірае.

— Дзе?

— Ля ветрака.

— Перадай, буду, буду, а як жа.

— Ды не буду, — скрывіўся Юраська, — а зараз трэба ісці. Адразу. Бягом. Дзед яшчэ і папярэдзіў, каб вы параней былі. Яму параіцца з вамі трэба. Чулі? Параіцца.

— Тады іду, іду, Юрка, — твар у Лявона Кончыка зрабіўся адразу сур'ёзным, ён моцна ўвагнаў сякеру ў камлюкаватае паленца, што, мусіць, азначала: канец справе, раз Нупрэй чакае.

А Нупрэй, убачыўшы яшчэ здалёк Лявона Кончыка, выглянуў яму насустрач, сустрэў, моўчкі ўзяў пад локаць, нібыта памагаў таму крочыць па сцежцы да ветрака.

— Ну вось і першае распараджэнне з атрада, — глянуў на Лявона млынар: цікава, як той адрэагуе, як ацэніць навіну. Лявон маўчаў. Потым ціха спытаўся:

— Важнае што?

— Так, так. Здаецца, і мірнае заданне, але вялікай важнасці. З подпісам падпольнага райкама партыі.

— Нават так?

— А мы што тут, у хованкі гуляем, у жмуркі? Ці я пустабрэх які? Ты ж мяне ведаеш, кум. Пачынаем жаць. Фронту хлеб трэба. Пара сярпы пускаць у ход. Пажнём, абмалоцім. І — пад лапату. Падалей, падалей ад ворага. І каб не ўнюхаў нат. А куды пазней збожжа дзяваць — скажуць. Сасна для чаго?

— Так, так, — уздыхнуў Лявон Кончык. — І што ж рабіць думаеш?

— Я?

— Ага. Ты.

— Я сваё аддумаў. Няхай люд думае. Народ. І рашае. Вось збярэцца і думае няхай. Ён сеяў хлеб, яму і жаць, яму і малаціць. Прыемны клопат, скажу табе. Люблю, калі пахне наўсцяж хлебам. Трэба будзе, таксама серп вазьму. Не зломак.

— Людзі людзьмі... А староста? Яму ж вочы хусткай не завяжаш. Возьме ды гаўкне... паведаміць, куды трэба. А тыя на гатовенькае прыляцяць — і нам дулю пакажуць. Са смакам.

— Гэты староста што ёсць, што няма. Для выгляду. Нам свайго старасту выбіраць трэба. Старшыню — па-нашаму. Хтосьці ж павінен Міхайлу замяніць. А то плывём, быццам у лодцы без вясла: да якога берагу прыб'е, і тое добра. Так не павінна быць. Не век жа без кіраўніка жыць. Развалакуць-расцягнуць калгас. Што немец, што самі. Уцяміў?

— Ды я ўцяміў. Усё ж староста гэты пад нагамі ... што бяльмо на воку.

— Ігнат — не паліцай Вітух. Свой ён чалавек. Не сам жа напрасіўся, ведаеш. Пад прымусам шышкай зрабілі. Ды і што ён за начальнік, калі ў яго нават стрэльбы няма? Хоць бы дубальтоўку якую паляўнічую далі — варон палохаць. А так... Я да яго, калі ведаць хочаш, любыя ключы магу падабраць.

— Ну гэта як сказаць, — засумняваўся Лявон Кончык. — Чалавека ўлада псуе.

— Улада... Што ён, бургамістр які? Ні пячаткі ў яго, ні той жа вінтоўкі. Голае месца. Нуль, можна сказаць.

— Быць паведамляльнікам можна і без вінтоўкі. Языком можна стрэліць так, што з гарматы мудрэй не бабахнеш.

— Ігнат не бабахне. А калі што, дык не паспее і хаўкнуць, як залепім яму рот. На ўсялякі выпадак я папярэджу старасту. Каб не рыпаўся. Каб не надта... Так і быць.

Нупрэй з Лявонам вялі яшчэ колькі часу гамонку, а на прырэчным лажку паказаліся людзі — крочылі да іх. Пакуль яны былі далекавата, Нупрэй памеўся паказаць Кончыку запіску.

— Хадзем, глянеш, — кіўнуў млынар на дзверы.

— Можна і не глядзець, — абыякава адказаў Лявон. — Я ў тых літарах, што сарока ў музыцы. Не было калі хоць каліва граматы ўхапіць. То на пана спіну гарбаціў, то з белапалякамі сіламі мераўся, то ў кулака кавалак хлеба зарабляў. Ведаеш жа. Не заўважыў, як і састарэў, — Лявон паспрабаваў выпрастацца, але толькі крактануў, махнуў рукой. — На тым свеце, мусіць...

— Хадзем, хадзем... Не прыкідвайся невукам.

Лявон нехаця патупаў за млынаром.

— Чаго ты там нас збіраеш, Нупрэйка? — пачуўся хітраваты і звонкі голас цёткі Аксінні. — Вы што, зачыніліся?

— Ды не, скарб дзелім, — усміхнуўся Нупрэй. — Пачакай, не паўзі сюды. Дарэмна скрэбціся будзеш. Ідзём ужо. Вяртаемся.

— Добра, добра. Пачакаю.

Пачуліся каля ветрака і іншыя галасы. Нупрэй з Лявонам Кончыкам чулі, як Аксіння казала землякам:

— А певень мой на трэці дзень сам прывалокся. Вымерхаўся, схуднеў, ледзьве ногі прыцягнуў. І дзе лазіў, каб спытаць? Ці ў яго ж клопату каля сваіх чубатак мала? Паспявай толькі варушыцца. Дык не, на суседскія двары паглядае, валацуга!

— Хоць засталося з кім яму ў хованкі гуляць? — незласліва спытаўся нехта.

— А то ж не! Усе чубаткі цалюсенькія. Як адна.

— Што, немец твой двор абмінуў хіба? Бачком паўз яго?

— Так я і аддам! Шукай, кажу, ірад. А як знойдзеш, калі я іх замаскіравала. Пакруціўся, кулакамі памахаў, ды і павярнуў ні з чым. На адыходак, праўда, шыбку разбіў. Трэба было штаны з яго садраць, каб зімой акно заткнуць!

Грымнуў смех.

— Сабраліся, — кіўнуў Лявон Кончык.

— Цяпер зразумеў, упэўніўся, што за паперка? — па складах дачытаў запіску Нупрэй, трасянуў ёю над галавой. — Не думай, што толькі я цікаўнасць да хлеба праяўляю. У многіх да яго інцярэс. І ў ворага. Але яму павінны мы ад нашага коласа даць паварот.

— Ну дзе там той Нупрэй? — не цярпелася камусьці перад ветраком. — Нупрэй, ты што, заснуў?

— Ды ўжо ж заснеш улетку, — нарэшце Нупрэй паказаўся на прыступках. — У такі час толькі спаць. Жорны мае заржавеюць.

— Чаго сабраў? Навошта?

— Кажы давай, а то ж не зіма на дварэ: кожная хвіліна дарагая!

— Сабраў чаго? Калгасны сход, браткі, трэба правесці. А то што ж вы думаеце, га? Няма старшыні, Міхайлы нашага, дык нам і зусім на грудзях рукі скрыжаваць ды чакаць, пакуль пярун ударыць? А пярун вісіць, вісіць, ядрона шыш, над самай макушкай, — Нупрэй торкнуў пальцам у неба, як гэта любіў ён рабіць нярэдка. — Грэх сядзець у такі час па хатах. Трэба ж намеціць нарэшце, як жыць далей. Такія-сякія планы пабудаваць. А як жа! Мы што, зломкі? Не-е! Не скажу. Люд мы працавіты. З характарам. Заўсёды ў нас сарочка потам пахла. Дык давайце спакойна і саабшча рашаць, што рабіць належыць, як жыць далей.

— А што рашаць? Вайна калі ж, — прамырмытаў аднаногі Марцін.

— На вайну не спісвай, Марця, — рашуча адказала яму Аксіння. — Ты ўжо раз давояваўся, цяпер на мыліцах швэндаеш. Хочаш, каб і мы так поўзалі? Пакалечыць супастат не ўсіх, дык праз аднаго, а нам трэба на нагах крэпка стаяць. Пакуль не папруць чужынцаў у той бок, адкуль і ўзяліся. Што ж нам, на калені ўпасці, міласціну ў немца прасіць? Ці жывымі ў дамавіну класціся? Глядзі,

каб жа не так! І правільна кажа Нупрэй: трэба рашаць, як і што. Пакуль не позна.

— Во баба, так і ворагам мяне зробіць! — агрызнуўся нарэшце Марцін. — Ні за што ні пра што. Дык я...

— Дык-кудык! — агрызнулася і Аксіння.

У гурце загулі, загаманілі.

— Цішэй, цішэй, — мякка папрасіў Нупрэй. — Якія могуць быць спрэчкі? Бліжэй да справы. Я мушу сказаць, што ўсё роўна без старшыні нам ходу няма. Пакуль шчэ тое-сёе ў арцелі і засталося, пакуль ёсць мы з вамі. Статак без пастуха што значыць? А нічога. Хоць мы і не каровы, але і нас пасвіць трэба. Каб дружней траву скублі. Тую траву, што па нашым нутры. А пакуль мы ядзім хлеб, то і трэба думаць пра яго, дбаць. А то што ж атрымліваецца, людцы? Стаіць збажына, бы сірацінка, і ніякага клопату пра яе. Сваю, бачу, жаць пачалі. Правільна: свая сарочка заўсёды бліжэй да цела, сакрэту няма. А хіба ж калгаснае — чужое?

— Малайчына дзед Нупрэй! — штурхануў Юраську ў плячо Паўлік.

— Не замінай слухаць, — адмахнуўся Юраська.

А дзед працягваў:

— Спярша давайце выберам старшыню. Стараста не ў нашай торбе. Ды і які з Ігната камандзір? Няхай ён сваю кудзелю прадзе, а мы будзем сваю. Паглядзім, у каго прасніца лепшая.

— Каго ты думаеш, Нупрэй, на старшыню? Твая кандыдатура? — выгукнула Аксіння.

— Называй! Ці сам будзь! — не цярпелася і Ягорысе.

Нупрэй узняў руку, папрасіў цішыні:

— Думаў і над кандыдатурай, як жа. А каго б вы прапанавалі?

Зрабілася надзвычай ціха. І парушыла гэтае гнятлівае маўчанне ўсё тая ж неўгамонная Аксіння:

— На кума паказвай. Ён хоць больш-менш да мужчыны падобны. Хоць і сонны заўсёды, бы леташняя муха. А з нас, баб, каго выбераш? У каго дзяцей няма — рот баіцца разявіць, а якая гаваркая дужа — дзеці за падол трымаюць. Паказвай, Нупрэй, на кума! Не будзе ж Марця па полі куляцца...

— Правільна, Лявона!

— Кончыка! Асіліць! Пацягне!

Нупрэй шчасліва ўсміхаўся, глядзеў на Лявона Кончыка, які стаяў і соп побач з ім на прыступках ветрака і запунсавеўся ўвесь, нібы нявеста.

— Стаў на галасаванне — хіба ж мы яго не ведаем! Наш чалавек!

— Хто — за?

Лес рук. Усе даверылі Лявону Кончыку. Нупрэй паляпаў яму па плячы, паказаў рукой на тое месца, дзе сам стаяў дагэтуль.

— Станавіся, кіруй.

Кончык не зусім ахвотна, як падалося, аднак усё ж спусціўся на тую прыступку, дзе стаяў Нупрэй, нешта прамырмытаў яму, матлянуў галавой: відаць, і сам не чакаў, што ўсё будзе так хутка. Мусіць, яшчэ і паспеў шапнуць млынару: «А ты, брат, таксама харошы: папярэдзіць жа трэба было, а не знянацку!»

— Ну што ж, таварышы... Дзякуй, скажу вам, за давер, — Лявону цяжка даваліся словы, ён падоўгу падбіраў іх. — Будзем убіраць ураджай. Сёння ж трэба поле разбіць на соткі. Прыкінем давайце, хто колькі зможа ўбраць.

— Ты ўжо там, Лявон, прыкідвай, размяркоўвай сам, — параіла Аксіння. — Абралі — працуй. І не выдумвай. Хоць і бясплатна. Па колькі атрымаецца сотак — і ладна будзе. Давай прама на падворак. Каб меней валтузіцца.

— На падворак? — уперыла на Аксінню пукатыя вочы Ягорыха. — Як гэта — на падворак? А калі ў адным двары пяцёра чалавек, а ў іншым — адзін? І той, як Марця? Як я? Ну хіба ж справядліва?

— А ў каго гэта пяцёра?

— У Полькі Мікітавай. У Данілавых. У Валюшавых. Хай сабе не пяцёра, але блізка да таго. Не адзін рот. Навошта ж мне адной ўпірацца, што казе рогам у стог? Ды і што я адна?.. Адна і ёсць адна. Геройства не праяўлю.

— Не балаболь! — папракнуў Аксінню Марцін. — Мянціш во толькі дарэмна, час займаеш. Курэй дык ты немцу і на нюх не паказала, а хлеб няхай грабе. Ты гэтага хочаш?

— Ты курэй маіх не чапай!

— І соткі лішнія на цябе пакуль ніхто не ўзваліў, — памяркоўна працягваў Марцін. — Я вось што думаю. Усё ж трэ аловак узяць у рукі ды і запісаць, хто ў нас працаздольны. І браць у разлік кожнага. Каб пароўну. Каб не крыўдна.

— Вынесу, вынесу аловак, — заспяшаўся ў млын Нупрэй.

Неўзабаве вярнуўся, уручыў Лявону аловак і кавалак паперы.

— Пішы, Лявон, пішы, кум, — а потым успомніў, што Кончык не багата чаго дамогся ў грамаце, таму забраў усё назад у таго з рук, адшукаў вачыма ў натоўпе Юраську, даў знак, каб падбег. — Як і ў любой самавітай канторы, у нас таксама пісарчук ёсць. Падыходзьце, запісвайцеся. Глядзі ж, Юрась, паўважлівей будзь, не праміні каго. А то ляманту будзе. — А Лявону шапнуў: — Пасмялей, свае ж людзі, мямля! Не з'ядуць! Будзь, як у мяне на млыне! Ну-у!

Аказаліся ў тым спісе побач з дарослымі таксама сам пісар Юраська, Паўлік і Сяргейка, іншыя хлопчыкі і дзяўчынкі.

— Цяпер поўны парадак, — працягнуў паперу Нупрэй Лявону. — Ажур. Трымай і беражы. Тут усе твае байцы. На іх і абапірайся.

## 9. КУДЫ ЕЗДЗІЎ СТАРАСТА

Каля хаты старасты хлапчукі, калі вярталіся ад ветрака са сходу, убачылі самога Ігната. Неяк дзіўна паводзіў сябе ён. Надзьмуты, засяроджаны, а вочы — хіба ж не відаць! — так і стрыгуць па баках: ага, што там у нас, шаноўныя, куды тэпаем, адкуль? Абапёршыся на тын, Ігнат курыў — пускаў такія вяроўчыны дыму, што неба не відаць. Канешне ж, нервуецца! А што яму рабіць, калі людзі пачынаюць жніво, а ён і перашкодзіць гэтаму не можа! Хоць трэсні ад злосці, а карысць адна: вяскоўцы, вайна ім ці яшчэ што, свой сялянскі клопат ведаюць і не замінай ім, староста!

Назаўтра надвор'е выдалася як па заказе — сонечна, цёпла. Хатаўнянцам лёгка працавалася ў полі. Ды і каб нават дождж ліў, жыта жаць трэба. Кожная хвіліна дарага каштуе. Таму і спяшаліся людзі, бабкі з кудлатых залатых снапоў раслі хутка — неўзабаве іх

было ўжо не злічыць. Дзед Нупрэй спярша спрабаваў рабіць гэта, а тады абвёў позіркам людзей, плюнуў і сказаў гучна, каб чулі ўсе:

— Не ўганюся! Да трыццаці яшчэ ў мяне добра атрымліваецца, а далей завалілі снапамі тымі — не прадыхнуць! А што я гаварыў? — Нупрэй раз-пораз выціраў узмакрэлы лоб рукавом кашулі. — То-та ж!.. Кожны па снапе — бохан хлеба, мяркуй. Салдат на фронце двое сутак пражыць зможа. А тут, бач, колькі іх ужо, тых снапоў. Адна Аксіння накруціла іх калі не сотню. Рота байцоў ёй аддзячыць сваім геройствам. І сумнявацца не трэба.

Аксіння ж дзівіцца на млынара, папраўляе хустку і весела шчабеча:

— Халодненькай вадзічкі каб, я б, Нупрэй, і яшчэ больш снапоў нажала, яй-богу. Папрасі хлопцаў, хай вады з Драздовай крынічкі прынясуць. У ёй вада — абпілася б, да таго смачная. Цябе хлопцы паслухаюцца.

— Мяне — канешне! — Нупрэй задаволены, што Аксіння не сама просіць хлопцаў, а давярае гэты клопат яму. — Тут ты маеш рацыю, маладзіца. Так, а дзе ж яны? Ага, бачу!

Калі ж адгукнуўся Юраська і падышоў да старога, той загадаў камандзірскім голасам:

— Кліч сваю гвардыю! Баявое заданне ёсць!

Што заданне тое не надта сур’ёзнае, хлапчук адразу здагадаўся: не будзе ж ён ім ставіць задачу пры ўсёй, лічы, вёсцы. Не памыліўся. Так і ёсць. Прапанаваў усяго толькі сабраць у людзей посуд і прынесці халодненькай вадзічкі з Драздовай крыніцы. А біклажак розных набралася — ого! Тут і Паўлік з Сяргейкам не выручаць. Юраська лыпнуў вачыма: што ж рабіць, дзеду? Нупрэй зразумеў усё без слоў і выдзеліў у памочнікі яшчэ двух зусім маленькіх хлопчыкаў, якія самі па сабе забаўляліся на ржэўніку.

І зноў ім патрапіў на вочы стараста Ігнат.

— Хлопцы, гляньце! — насцярожыўся Паўлік і паказаў рукой на дарогу, на якой грукацелі калёсы.

Соп і фыркаў конь, ляніва ставіў капыты на дарожны пыл, а на калёсах, выцягнуўшы наперад ногі, важна сядзеў стараста. Ігнат вяртаўся ў Хатоўню.

— Куды гэта ён ездзіў? — нядобра падумаў пра старасту ўсё той жа Паўлік. — А што, калі да Вітуха? Прачуў, што мы жыта жнём, і паехаў, гад! Канешне ж, данёс!

Юраська таксама не зводзіў позірку з Ігната, а стараста зухавата — нахабнік, бач ты! — шлёгнуў пугай па распаранай спіне каня, і той паслухмяна пабег па дарозе.

— Думаеш, паведаміў? — нарэшце паглядзеў на Паўліка Юраська. — А ты, Сяргей, што скажаш?

Сяргейка, як заўсёды, толькі варухнуў сваімі худымі плячыма: хто яго ведае, адкуль мне знаць! Можа... А можа, і не... Цьфу! З гэтым Сяргеем адны праблемы, ніколі сваёй думкі не выкажа, прывык за спіны іншых хавацца. Правільна іншы раз яго маці дома і трымае — а што карысці, хоць ён і тут, з усімі разам? «Не ведаю... Не бачыў... Не чуў...» Юраська злуецца: «Мы адны павінны бачыць і чуць!» Але выгляду не паказвае.

У поле вярталіся амаль подбегам. Хацелася хутчэй расказаць Нупрэю і Лявону Кончыку пра таямнічую паездку некуды з вёскі старасты Ігната.

— Вада едзе! — першай узрадавалася, убачыўшы дзятву, Аксіння. — Не праскачыце ж міма! Куды так разагналіся?

Давялося спыніцца каля Аксінні.

— Вось дзякуй вам, выратавалі ад спёкі! — піла і хваліла яна ваду. —Смакоцце!

Хлапчукі раздалі поўныя біклажкі з крынічнай вадой, а самі адвялі падалей ад жанчын Нупрэя, і Юраська, глытаючы ад хвалявання словы, горача казаў:

— Ігната... старасту бачылі. Ён на калёсах у вёску аднекуль вяртаўся. Можа, паліцаю ці немцам сказаў, што жнём?

Нупрэй уважліва выслухаў хлапчукоў, аднак падзяліцца сваімі думкамі пакуль не спяшаўся. Потым нечакана для сяброў сказаў амаль што абыякава, чым астудзіў іх запал:

— Ідзіце працуйце. А за ваду дзякуй. Сапраўды, смачна п’ецца на жніве... Нібы ўпрыкуску з хлебам.

— Дзед Нупрэй! — Паўліку не спадабалася, што стары і брывом не павёў, а справа ж сур’ёзная. — Дык што?..

— Няхай ездзіць Ігнат, куды хоча. Думаеце, у яго клопату няма? Жучок вунь... дзівіцеся, — Нупрэй тыцнуў лапцем у сцяблінку, па якой паўзла божая кароўка, — і тое на адным месцы не сядзіць. Куды ён, цікава, бедалага, так шпацыруе, галаву задраўшы? Бач, зваліўся, саслізнуў... а зноў скрабецца. Не павяртае назад. Угару, увышкі паўзе, антыхрыст... Туды, відаць, дзе яму лепш будзе... дзе зацішней...

## 10. ЦЁЗКА

Спаў Юраська без задніх ног. Натаміўся за дзень. Нешта быццам снілася, але як ні стараўся ўспомніць, што снілася, калі расплюшчыў вочы, нічога не атрымлівалася. Усё змяшалася ў кучу. Нейкі кавардак. А што помнілася? Быццам у хаце сядзіць на лаве невядомы мурзаты дзядзька і п’е з чорнага гарлача малако, сапе і п’е... І адкуль ён тут узяўся? Навошта? Хто такі? Пратэпала па хаце мама, прарыпелі масніцы... І ці яна гэта? А можа, хто іншы? Быццам і не яна...

Прадраўшы вочы, хлопчык нерухома ляжаў і гадаў, сон гэта ці што. Прыслухаўся. Быццам і сапраўды нехта п’е малако — чуваць, як глытае: юк-юк-юк... Каганец на прыпечку смуродзіць, на сцяне зіхаціць цень ад кароценькага язычка полымя. «Які ж гэта сон! — Юраська нарэшце адарваў галаву ад падушкі. — І хто такі гэты дзядзька? Маці прайшлася па хаце... так, яна».

— Спі! — строга паглядзела на Юраську мама. — Рана яшчэ.

— Выспаўся.

— Усё роўна спі, а то будзеш блытацца толькі пад нагамі!

Хлопчык не паслухаўся, пазяхнуў, моўчкі апрануўся, моўчкі сеў на ўслон — твар у твар да невядомага чалавека, які ўжо даўно напіўся малака і хваліўся, які ён добры ваяка. Калі яго паслухаць, то дзе ні быў і чаго ні бачыў. Юраську такое не падабаецца: хвалько! Сапраўдны салдат хваліцца не будзе.

— А-а, прачнуўся, гвардзеец! — нібы даўняму знаёмаму, усміхнуўся Юраську чырвонаармеец, і, што ён быў чырвонаармей-

цам — адразу відаць: у салдацкім жа адзенні, а будзёнаўка ляжыць побач, зорачкай на печ. — Ну, гаспадыня, дзякуй вам. А мне пара. Пакуль яшчэ спяць усе, то я па агародах да лесу, а там разбяромся... Ваўку не страшна ў лесе — ваўку страшна сярод людзей. Вось так, хлапчына! — чырвонаармеец падміргнуў Юраську, паляпаў па плячы і спытаў: — І кім жа ты стаць хочаш, калі вырасцеш?

— Партызанам!

— Ого-о! Ты далей, землячок, глядзі, далей. А з немцамі якнебудзь мы самі разбяромся. Партызан — гэта не спецыяльнасць. Гэта так... Вось хлебаробам — чым кепска? Ці пілотам? Га? Во гэта прафесіі! Эх, мне б самому за плужком прайсціся, на цёплай баразне пасядзець. Засумаваў я па полі, Юрка. Юрка, так?

— Ага.

— Каб ведаў, як засумаваў! Хоць плач. А трэба — бачыш? — ваяваць.

— Хлеб мы і так... — Юраська шморгнуў носам, хацеў расказаць пра вятрак, пра жыта, але спахапіўся: а што, калі... Мала што ў гімнасцёрцы і ў будзёнаўцы з зорачкай. Начапіць на сябе можна чаго хочаш. А нагаворыш абы-чаго — атрымаеш тады ад дзеда Нупрэя на сухары.

І ён прыкусіў язык.

— Ціха, кажаце, у вас? — чырвонаармеец паглядзеў на Юраськаву маці.

— Ціха, ціха, дзетка.

Дзетка. У яго вунь ужо і вусы ёсць, а мама: дзетка. Можна падумаць, што ён малы які. Дык не ж — калі ўстаў з лавы, то галавой ледзь не ў столь упёрся.

— Адпачылі б. Удзень у нас спакойна. А то гляджу я на цябе, салдацік, і бачу, што нейкі ты дужа замучаны.

— Гэта так. Тры тыдні ідзём да сваіх. А вось наконт адпачыць — слушна. Відаць, паслухаемся вас. Калі і прыляжам, то толькі не ў хаце. Нам у пуньцы каб. Жмуток сена ёсць — лепшага ложка і не прыдумаць. Дазволіце ў пуньцы, гаспадыня? Але спярша мушу падзякаваць за хлеб і гасціннасць.

— Юрка, адвядзі чалавека.

— Пашліце, ага...

— Вядзі! — выбраўся з-за стала начны госць. — Юрка, значыць? Цёзка. Ну добра, час у нас, спадзяюся, яшчэ калі-небудзь будзе пагаманіць. Паказвай, землячок, дзе тут у вас вышкі.

— Хадземце, — настрой у Юраські паступова рабіўся лепшым, ён рады быў, што чырвонаармейцы ці хто яны, але нашы людзі, хіба ж не відаць, вырашылі адпачыць у іх хлеўчуку і на тым духмяным сене, якое ляжыць пад самым прыстрэшкам і якое зацягнуў туды ён сам: Юраська выкасіў лажок татавай «літоўкай», і як добра, што яно ўжо спатрэбілася, сена тое!

На двары іх падпільноўваў яшчэ адзін невядомы чалавек. На выгляд быў стараваты і надта худы, і, калі Юраська адвёў іх на вышкі і паказаў, дзе могуць яны адпачыць, той сіпатым голасам сказаў:

— А староста дзе жыве?

Цёзка запярэчыў:

— Спі. З гэтым старастам трэба яшчэ разабрацца.

— Пакуль ты разбярэшся, то ён першы тое ж зробіць. Пабачыш.

Юраська пачынаў усё больш і больш кеміць, што за людзі перад ім і чаму іх цікавіць Ігнат. Што свае — тут і пытанняў быць не можа. Здагадваўся: відаць, добранька ўсыпяць Ігнату, каб не быў халуём у немцаў і абы-куды не ездзіў! Вось паспяць, адпачнуць — тады чакай, староста, мала не будзе!

Вяртаючыся з хлеўчука ў хату, хлапчук заўважыў, як яшчэ некалькі чалавек — адзін за адным, ланцужком! — прашмыгнулі ў паўзмроку вуліцы. Адзін з іх спыніўся, глянуў на Юраську, папытаў:

— Малы, дзе нашы?

Ага, так Юраська і скажа. Нашы — не нашы, а дакажы, можа, ты іх і шукаеш, каб расправіцца, як той сіпаты хоча са старастам. Што робіцца! Адзін за адным бегаюць, палююць... Настаў такі час, як кажа дзед Нупрэй, што сам чорт не разбярэ нічога, не кажучы ўжо пра чалавека.

— Дзе нашы? — паўтарыў пытанне ўзброены чалавек, і калі ў цёзкі Юркі боўтаўся на баку наган, то ў гэтага быў сапраўдны аўтамат.

— Не бачыў, — схлусіў хлопчык.

— Каб табе павылазіла! Ён не бачыў! Ды ты ўсё ведаеш, блазнюк! Паказвай!

Але тут паказаўся сам чырвонаармеец-цёзка і заступіўся — папракнуў гарлапана:

— Не крычы на яго. Малайчына, цёзка: хоць і сваім, а ты нас не выдаў. Хвалю.

Юраська насупіўся:

— Адкуль я ведаў?

— Таму яшчэ раз кажу табе: малайчына! А цяпер бяжы ў хату, нам пагаварыць трэба. Бяжы, бяжы.

Юраська сядзеў, як і хвілінамі раней, за тым жа сталом у хаце і думаў пра ўзброеных людзей, якія нечакана з'явіліся ў вёсцы гэтай ноччу. «Партызаны яны, і спрачацца нечага, — разважаў. — Аўтаматы нашы, гавораць па-нашаму. Адзенне рознае... не, не салдаты. Толькі калі партызаны, чаму яны тады пра нас, сваіх сувязных, нічога не папыталіся? А дзед Нупрэй ведае, што гэтыя людзі ў вёсцы, ці не? Збегаць бы да млынара, аднак той забараніў прыходзіць да ягонай хаты. Толькі — на вятрак... Але так рана яго там не будзе...»

— Спі! — як стрэл, грымнуў над вухам матчын прысуд.

Давялося паслухацца. Тым больш што ён і сапраўды не выспаўся: зліпаюцца вочы, бы склееныя. Прылёг — не ляжыцца. Пра featureрознае думаецца і думаецца. Назойлівыя, нібы тыя камары, думкі. А потым задрамаў... Ненадоўга. Маці ўжо корпалася па гаспадарцы, то заходзіла, то выходзіла, і хлопчык вырашыў абхітрыць яе. Ён паклаў на сваё месца пад коўдрай світку, узбіў яе. «Парадак. Падумае, што сплю і не будзе хвалявацца», — і выбраўся з хаты на падворак.

Свяціла сонца. Гулліва лёталі на гародчыку Аксінніны пчолы, іх зняла яна нядаўна ў лесе — цэлы кубел, чым надта ж ганарылася: даўно хацела яна мець пчол, а тут сам Бог іх паслаў, ды і пчолы малайцы — асабліва не ўпарціліся, бо ведалі, разумнікі, што ў добрыя рукі ідуць. Бачылі? Хвалько. Быццам клубком віселі пчолы на арэшыне, і яна перакаціла той клубок у вядро. З тыдзень недзе цётку пазнаць нельга было: пчолы моцна пакусалі яе, хоць і разумнікі, здаецца, Аксіння сцежкі перад сабой не бачыла: заплылі вочы. Дзед

Нупрэй жартаваў: «Бачыў кітайца, не хлушу. Ісцінны хрэст. Пастаў яго і Аксінню побач — не разбярэш, дзе хто. У кітайца, мусіць, партрэт і таго лепшы, больш да чалавека падобны... І трэба ж было ёй тых насякомых чапаць? Ненаеднасць да чаго даводзіць!.. Цьфу!..»

Цётку Аксінню і пачалі з лёгкай рукі Нупрэя клікаць кітаянкай. Але як толькі твар жанчыны прыняў ранейшы выгляд, людзі неяк і не ўспаміналі пра гісторыю з пчаліным роем, забылі і пра тое, чужое, далёкае для іх слова «кітаянка». Мусіць, яшчэ і таму, што больш падыходзіла ёй слова «жмінда», цётка нярэдка падмацоўвала яго сваімі канкрэтнымі справамі, і хатаўнянцы карысталіся апошнім.

Пчолы ў Аксінні прыжыліся, і хоць былі яны з дзікага віду, але жанчына набыла недзе борць, усцягнула яе на грушу і, кажуць, нават ела патрохі мёд.

Пчолы сядзелі на венчыках кветак, пераляталі з адной на адну, а за імі цікаваў, раз-пораз нацэльваючы лапку з вострымі кіпцюрамі ў бок абранай ахвяры, стары і лянівы кот Васька. Толькі дзе там! Пчала пералятае на іншы венчык, кот намячае новую ахвяру, але і яна, пачуўшы нядобрае, таксама вырашае трымацца падалей ад Ваські. Канешне, каб кот больш энергічна і лоўка пускаў у ход сваю лапку, а не ленаваўся, то, мусіць, пчолы б хутка разлічыліся з ім. Як некалі з цёткай Аксінняй. А то ж ён проста забаўляецца — ад сумоцця, якое нагарнулася, відаць, не на аднаго ката ў Хатоўні.

Юраська паклікаў ката, той скочыў з паркана, прытуліўся да нагі хлапчука.

— Галодны, мабыць? — спытаўся ў ката Юраська.

— Мя-яў! — адказаў Васька.

— Галодны, значыць. Пайшлі, аднясу цябе на паляванне, калі сам ужо і хадзіць лянуешся. — Хлопчык узяў ката на рукі, патупаў з ім у хляўчук. — Лаві мышэй. Не лянуйся, Васька. Кожны сабе павінен хлеб зарабляць. Бяжы.

Васька пастаяў на адным месцы, паматляў хвастом, узняў сумныя вочы на Юраську і неахвотна падаўся ў глыб хлеўчука.

«Спяць? — крадком падняў ён галаву на вышкі, аднак убачыў там толькі скамечаную самаробную подсцілку і кажушок, які

давала маці накрыцца начным гасцям. — Калі ж гэта яны паспелі выспацца? І ці спалі ўвогуле?» І ад думкі, што не заўважыў, як некуды падзеліся ўзброеныя людзі, яму зрабілася крыўдна. Праваронiў. Зусім настрой прапаў. Хацелася ж бліжэй пазнаёміцца з начнымі гасцямі, даведацца, хто яны і адкуль. Можа, ім і дапамога якая патрэбна? Дык калі ласка! Дзед Нупрэй таксама ж не супраць быў з імі пагаманіць. Ён, млынар, можа, нават і ведае гэтых дзядзькоў?

Раптам Юраська ажно здрыгануўся — зусім блізка пляснуў сухі стрэл. Пакуль ён круціў галавой па баках, шукаючы вачыма, хто б мог стрэліць, прагучаў і другі.

— На агарод сiганyў! На агарод! — па голасе Юраська пазнаў свайго цёзку. — Трымай яго! Збяжыць, гад!..

«Каго гэта яны ловяць? Старасту Ігната? Дык куды яму, старому і нямогламу, уцякаць? Ён і так ледзьве ходзіць», — нічога не мог зразумець Юраська. Аднак тое, што ён убачыў, захапіла яго, і хлапчук не стрымаўся, падбег бліжэй да Ігнатавай хаты. Пасярод двара стаялі чатыры паліцаі з узнятымі ўгару рукамі, а партызаны — цяпер Юраська ўжо і не сумняваўся ў гэтым — запускалі рукі ў іхнія кішэні, нешта вымалі адтуль, кідалі на зямлю. Крыху воддаль ад паліцаяў адзінока і сумна стаяў староста і таксама трымаў рукі над сваёй лысай галавой.

— Кірэй, бяжы на агарод: там Юрка адзін! — крычаў сіпаты партызан, якога сёння ноччу Юраська адводзіў на вышкі разам з Юркам-цёзкам. — Уцячэ паліцай Кот! Уцячэ!

— Ён без карабіна выскачыў!

— Дзядзечка, у Вітуха наган ёсць! Сам бачыў! Ён яго вось тут носіць! — адкуль і словы знайшліся ў Юраські, ён падбег да сіпатага партызана. — Сам бачыў!

— Няўжо? — насупіўся сіпаты і зірнуў на Кірэя. — Юрка ж там адзін! Кірэй!

Кірэй, колькі было моцы, сіганyў праз Ігнатаў паркан, прыгнуўся да зямлі і неўзабаве знік за вуглом пуні.

— Ігнат, апусці рукі, — загадаў старасту сіпаты партызан, — ды нясі вяроўчыну. Памагай, брат служылы, дружкам сваім лапы круціць.

— Ага! — кіўнуў Ігнат і хуценька схаваўся ў кладоўцы.

А Юраська ж, калі пачуў гэтую размову, і сам шыбануў услед за Кірэем на агарод.

— Стой, халера здрадніцкая! Стой, застрэлю! — крычаў Юрка-партызан і, на імгненне запавольваючы бег, прыцэльваўся і страляў па Вітуху, які без аглядкі нёсся ў бок лесу. Толькі абцасы ботаў мільгацелі. Ён галёкаў ужо на ўскрайку сада, рабіў выкрутасы між дрэў, таму партызану было, відаць, не зусім зручна страляць. Але трэба!

— Цаляй, цаляй, дзядзька Юрка-а! — закрычаў і Юраська.

— Не збяжыць! Даганю!

Аднак жа Вітух хоць і з адным вокам, а бачыць, паразіт, далёка. Зусім і не дрэвы перашкаджалі страляць трапна па ім, не. Вітух убачыў на гародчыку дзеда Платона, таму бег насупраць яго. Хітры, гад! Ведае, што не будзе партызан страляць, бо можа трапіць і ў бязвіннага чалавека.

Пагоня працягвалася. Трохі паводдаль, ззаду, кандыбаў Кірэй, зачапіўся за нешта, кульнуўся ў разору і вылаяўся. Але адразу ж падхапіўся, пабег далей. Не страляў і ён. Эх, дзед Платон! І трэба было табе вылезці на агарод у самы непатрэбны момант — адны мінусы ад цябе. Араць ён уздумаў! Таксама араты знайшоўся — ледзьве клыпае. Юраська спярша раззлаваўся на старога, але адразу ж і пашкадаваў яго: паліцай гвазануў Платона кулаком па галаве, той прысеў, скурчыўся ад болю, а Вітух тым часам адчапіў каня ад плуга і ўскочыў таму на спіну.

— Стой, гад! — ужо амаль побач з ім апынуўся і Юрка-партызан.

Вітух стрэліў з таго нагана, пра які напамінаў Юраська. Юрка-партызан спатыкнуўся, прысеў на калена, паглядзеў на Юраську, хацеў нешта яму сказаць, але з куточка рота пацякла тоненькімі струменьчыкамі кроў... і ён упаў на спіну, сціскаючы рукой рану на жываце.

— Уцёк! Уцёк! — зарумзаў Юраська. — Ён уцёк, дзядзька Кірэй... А вы ж... а вы ж чаго не страляеце?

Кірэй глянуў у той бок, дзе ляжаў Юрка-партызан. І паспяшаўся да яго. Бліжэй падбег і Юраська. Кірэй прыўзняў галаву партызана, тармаснуў, а потым заплюшчыў яму вочы:

— Юрка-а! Юрка-а-а!..

Кірэй падняў Юрку-партызана і панёс у двор старасты. Людзі, што былі там, моўчкі знялі картузы. Паліцаі, якія сядзелі на падводзе, звязаныя адзін з адным вяроўкай і з запханымі ў рот кляпамі, адвярнуліся.

— Дзе будзем хаваць? — спытаўся сіпаты ў Кірэя. — У лес павязём ці мо тут, бліжэй да людскога жытла? Як думаеш?

Кірэй маўчаў, змораны смерцю таварыша.

— Дзе тут у вас могілкі, Ігнат?

— Дамавіну спярша трэба зрабіць, зараз дошкі пашукаю, — сказаў староста.

— Рабі, Ігнат. Ды збірайся з намі. Нельга табе больш у вёсцы заставацца. Паліцай Кот уцёк, і цяпер ты больш не павінен яму на вочы трапляць.

«А я і ведаў, што Ігнат — наш чалавек, не які-небудзь варожы паслугач!» — абрадаваўся Юраська.

Юрку-партызана пахавалі на вясковых могілках — на самым ускрайку, бліжэй да дарогі. Яго таварышы стрэлілі па тры разы ўгару і падаліся па бальшаку за калёсамі, на якіх сядзелі арыштанты. Разбрыліся і вяскоўцы.

Юраська, Паўлік і Сяргейка яшчэ трохі пастаялі над свежым узгоркам жоўтай зямлі, а потым пакрочылі па той жа дарозе, што і партызаны. У вёску чамусьці ісці не хацелася.

— Ведаеш, Юраська, як толькі скончыцца вайна, мы паставім там помнік, — ціха прамовіў Паўлік. — Сапраўдны. З зорачкай. Каб ведалі ўсе, што там герой ляжыць...

— А з Вітухом усё роўна разлічымся! — сціснуў пальцы Сяргейка, матлянуў у паветры кулаком. — Нам бы толькі аўтамат!

— Ці хоць наган. Рукамі яго не возьмеш. Слізкі ён, што ўюн. А Юрка-партызан не прызнаўся, хто ён на самай справе... Гаварыў, быццам тры тыдні да сваіх прабіраюцца... А са старастам Ігнатам абяцалі разабрацца... А ён — свой... Вось і мы так павінны тайны трымаць, а не першаму стрэчнаму хваліцца, што амаль героі.

Гэта сказаў Юраська.

Хлапчукі яшчэ раз аглянуліся на могілкі.

Не, не хацелася ісці да хат.

# 11. МУДРЫ ВЯТРАК

Немцы прыехалі ў вёску на двух грузавіках. На першай машыне важна стаяў каля кабіны Вітух, нахіляўся раз-пораз да шафёра, паказваў таму рукой, куды трэба кіраваць — да драўлянага будынка калгаснай канторы. На пагорку, дзе бобік праводзіў тую сходку, грузавікі спыніліся, чыхнулі гарам, замоўклі. Салдаты, як і той раз, выкаціліся з грузавікоў, загергеталі. А потым Вітух вадзіў іх па хатах, і тыя аблюбоўвалі сабе кватэры. Ігнатава жытло стаяла адзінока і сіратліва, на дзвярах боўтаўся свірнавы замок. Вітух адразу, канешне, успомніў гэты двор і тое, што цудам жыць застаўся, таму злосна грукнуў ботам па веснічках і паабяцаў:

— Я цябе, староста, задушу сваімі рукамі! Пабачыш!

Хоць і пуставала Ігнатава хата, немцы ў ёй не спыніліся: атабарваліся яны там, дзе былі гаспадары — і пры гэтым дбайныя, рупныя: харчавацца ж трэба, а староста і лыжкі з сабой, кажуць, забраў у лес. Багата і яшчэ на што разлічвалі ворагі, калі пасяляліся ў хатаўнянцаў — каб гаспадыні не толькі ежу гатавалі тады-сяды, але і бялізну мылі. І жанчыны мылі, гатавалі. А куды падзенешся! Не паслухаешся, дык мала не будзе. Каму ахвота, каб на цябе вочка аўтамата нацэльвалі? На, еж, сабака! Лепш кінуць костку, няхай грызе, смокча.

Двух немцаў пасяліў Вітух і ў Юраськавай хаце. Здаецца, людзі як людзі — такія ж рукі маюць, ногі, вочы... Ды усё роўна нейкія не такія яны. І хоць жывуць салдаты ўжо побач з Юраськам цэлы тыдзень, спяць пад адным дахам, быццам нават і ўсміхаюцца яму тады-сяды, калі на іх нападзе нешта, відаць, ён аніяк не можа прымірыцца з думкай, што немцы — людзі... Нават шакаладам, бывае, падлагоджваюць, але хлопчыку не хочацца глядзець на той шакалад. «Трэба ён мне, пахне, як нешта нясмачнае!» Асабліва крыўдна робіцца Юраську, што нейкі рыжы і гарбаносы Курт спіць на татавым ложку. Звычайна ранічкай Юраська, калі прачынаўся, адразу глядзеў на татаў ложак і, калі не ўбачыць яго, падымаўся сам. Па прывычцы ён і зараз не-не ды і кіне позірк на татаў ложак,

але ўбачыць на ім раскудлачаную рыжую, бы грэбень у Аксіннінага пеўня, галаву Курта, і яму не хочацца ні спаць, ні ўставаць.

Юраська дзівіўся праз шыбу, што робіцца на вясковай вуліцы. Некуды паехалі немцы на грузавіку, а потым, згорбіўшыся, пратэпаў Лявон Кончык. Праз колькі хвілін ён убачыў сваіх кватарантаў Курта з Францам, былі яны надзвычай вясёлыя — смяяліся, размахвалі рукамі, штурхаліся. Бы дзеці. «Пруцца!» — Юраська адвярнуўся ад акна і не знаходзіў, як дзейнічаць: ці ісці з хаты на двор ці што... Рашыў нікуды не ісці і нічога не рабіць. Падумаеш, фрыцы! Чаго перад імі дрыжаць, хоць яны, канешне ж, і паскуднікі. Аднак хто ў гэтай хаце гаспадар? Пакуль тата на фронце — ён, Юраська, значыць. І не турбаваць!

Кватаранты ўваліліся ў хату, адразу ж загергеталі — па чарзе, бы гусі, калі ім не падабаецца нехта:

— О, Юрко! Гут, гут! Карашо!

«Пайшлі вы!» Курт мурлыкаў песню на яму толькі зразумелай мове, а Фрыц стругаў сцізорыкам якраз перад самы носам у Юраські тонкі драўляны пруцік. Потым немец кінуў той драўляны пруток у кут, і Юраська аслупянеў: гэта ж бярозка! Яго бярозка. Хлопчык выбег на вуліцу, і здагадка пацвердзілася: на тым месцы, дзе летась пасадзіў ён дрэўца, тырчаў толькі абрубак... «Гады!» Як яшчэ хлопчык устрымаўся, не заплакаў, але сваім кватарантам нічога не сказаў, а толькі патрымаў пруток у руках і кінуў на тое ж месца, дзе і падняў. Ён узяў рыдлёўку і па агародзе пакрочыў у бок бярэзніку. «Прынясу другую бярозку, пасаджу на злосць ім. Каб ведалі!» А ідучы за дрэўцам, ніяк не абыдзеш вятрак. Дзед Нупрэй напраўляў якраз жорны, быў увесь у клопаце, але Юраську заўважыў адразу:

— Каго я бачу? Прызнацца, камандзір, чакаў цябе альбо каго-небудзь з тваіх гвардзейцаў раніцай. Вы куды гэта пахаваліся?

— І не хаваліся зусім. Я дома. А Сяргейку зноў матка пад хатні арышт пасадзіла. Паўлік пазней прыбяжыць. Траву рве.

— Праходзь, чаго стаў, як чужы?

— Калі малоць, дзед, будзем?

— Будзем. Хутка. Трэба, трэба карміць людзей. А як жа. За лета і жорны мае заіржавелі, не да месца сказана будзе. Хоць і прыглядаў.

Што вятрак? Тут і сам, гляджу, без занятку заіржавею. Круціцца варта нам з ветраком. Абодвум. Тады і жыццё цвярдзей ступае. Так вось, Юрка.

Млынар спусціўся на дол:

— Ты куды гэта з рыдлёўкай?

Хлапчук пра ўсё распавёў дзеду Нупрэю.

— Зрэзаў, кажаш, бярозку? Чаго гэта ён? Хіба рукі свярбелі? Дык прывядзі яго на вятрак, жорны мае так пачэшуць іх, што мокрае месца застанецца.

Юраська пырснуў смехам. Здорава б было! Аднак дзед потым не пагадзіўся сам з сабой:

— Хаця не. Навошта вятрак псаваць? Па зубах яму толькі збожжа. Ох, і любіць ён яго! — і паглядзеў у вочы Юраську: — Дык што, ты перад немцам паў ніц? Здаўся?

— Не здаўся — вось іду па бярозку. Зрэжа і гэтую, тады я іх багата пасаджу, бярозак.

— Малайчына, — пахваліў млынар і падаў Юраську вядро. — Вазьмі. У ім і прынясеш дрэўца. Тады яно, мусіць, прыжывецца. Бо рана яшчэ... А прынясеш з зямлёй, то, можа, што і ўдасца... Ваду ў гэтым вядры не патрымаеш, а так дно шчэ нічога. Хоць і дзіравае. Старое вядро, не помню, калі і набыў. Мо шчэ і ад бацькі засталося. Самаробнае, з люмінію. Ці не Гірша зрабіў у Журавічах? Ён мастак быў такія вёдры рабіць. І пісяжок ёсць, бачыш. Мерка. Да пісяжка — дванаццаць літраў, — Нупрэй пакруціў у руках вядро, а потым зноў наставіў яго на святло, угледзеўся. — Не, капец: закляпаць не закляпаеш, дужа іржа паела. А каб дно цалкам памяняць, то хто гэта зробіць? Гірша? Дык дзе ён, той Гірша?

І тут млынар убачыў, як па сцяжынцы ад ракі тэпае да ветрака паліцай Вітух. Нупрэй прысвіснуў, хуценька падаў вядро Юраську, а сам выцер рукі аб кашулю, якая круглы год у яго аднаго колеру — белага.

— Зноў скрабецца, камбала аднавокая! — вылаяўся Нупрэй. — Учора візіт наносіў, ды толькі рот раскрыў, а за ім нейкі чорт прымчаў, забраў, дык ён і не сказаў, чаго хацеў, блазан. Але вядома, чаго галодны можа хацець ад млынара. Багата ён хоча. Ведаем мы

ягоную песню. Толькі праспяваць пастараемся не даць. З мяне ён выцісне, як з казла малака. Хоць і цяжка будзе мне. Аднак хто не рызыкуе, той не трымае ў руцэ поўны келіх!

Паліцай быў ужо зусім блізка, і дзед Нупрэй на ўсялякі выпадак прытрымаў язык:

— Не чапай... ета самае... яно і смярдзець не будзе.

Паліцай зачапіўся ботам за прыступку, злосна плюнуў і паслаў дзеду Нупрэю дужа непрыгожае слова, а калі падняўся, папытаў сам у сябе:

— Жывы? Жывы... Ну дзе ты там, млынар? Выходзь!

Аднак дзеда Нупрэя ён не дачакаўся, сам забраўся на вятрак, агледзеўся, пакашляў для важнасці, зрабіў строгі твар і адразу ж заўважыў:

— Чаму тут пабочныя людзі?

Дзед Нупрэй здзівіўся:

— А хто гэта тут пабочны?

— Хлапец!

— А-а, то ў нашай вёсцы ўсе свае... не пабочныя, суседзі і сябры. Замкоў не чапляем. Гэта во пачалі, калі госці заявіліся...

— Ты пра маіх гасцей калі хоць раз скажаш кепскае слова, я цябе, старая торба, у расход пушчу! — прыгразіў Вітух.

— А я баязлівы, ажно некуды! Палоханы я! На маім веку, ага, хто мяне толькі за горла не хапаў, розная свалата траплялася, а я, як бачыш, маю гонар размаўляць з такім вялікім начальнікам, як паліцай Кот.

— А мальца каб пасля майго адыходу тут і духу не было, — паліцай паглядзеў на Юраську. — Гэта не хверма, а млын, дзе мука будзе... А мука павінна быць чыстай, без пылінкі. Што я пану афіцэру скажу, калі ў хлебе ўбачыць якую-небудзь гадасць? Ты мне тут яшчэ курэй развядзі, няхай топчуцца па муцэ.

— Будзе зроблена, — што будзе зроблена, Нупрэй і сам не ведаў, аднак сказаў так проста таму, каб нешта сказаць.

— Сёння, стары, давядзецца запускаць табе вятрак, — Вітух важна хадзіў туды-сюды, нешта мацаў рукамі, задумваўся. —

Падкіну табе работку. Пакуль у цябе, гляджу, пуста тут. Аднак варта мне свіснуць — і мяхі з жытам будуць тут як тут. А ты думаў!..

— Дзе гэта ты столькі хлеба вырасціў? — ускінуў густыя бровы на Вітуха дзед Нупрэй. — Ніводнага разу я не бачыў, каб ты гнуў спіну ў полі.

— І не ўбачыш. Што я, да дурня падобны? — паліцай зарагатаў. — Гэта каб я, Кот, у полі корчыўся? Няйначай, стары, ты з глузду з'ехаў. Чакай. А вы навошта? Вы?! Я камандзір, не вялікі, але начальнік. А дзе ты бачыў, каб начальства распіралася? Ну дзе? Маўчым, так? Сёння я тут камандзірствую.

— І на маім млыне? — сур'ёзна спытаў дзед Нупрэй.

Вітух зарагатаў:

— Ну даеш, стары-ы! Ну розуму-у! А то не! Вятрак твой на маёй тэрыторыі. Куды вока ні кінь — усюды я.

Млынар ціха, каб не пачуў паліцай, прашаптаў:

— Добра, што ў цябе яно адно, вока...

Юраську дзед Нупрэй спадабаўся і на гэты раз: малайчына, не баіцца гэтага паліцая, так яму!

— Маёй улады хапае, каб узяць цябе і застрэліць. У любы момант. І хто мне што зробіць?

— Цяпер мо і не, — дзед Нупрэй падкручваў на ветраку гайкі на вялікіх балтах, — але гэта цяпер. Калі-небудзь чалавек за свае ўчынкі атрымлівае плату. Так што не кажы «гоп»...

— Добра, сёння я з табой валтузіцца не буду, бо няма часу, — паліцай прымірэнча паглядзеў на млынара. — Няма калі анцімонію разводзіць. І не будзем. Не час цяпер. Я па справе да цябе. Змалоць і праўда трэба. Хлебапякарню ў Журавічах запускаем. Кожны дзень ад нас воз хлеба падавай, хоць трэсні. Такі загад. Не я яго выдумляў. Камендант. Ну, што скажаш?

Нупрэй палез у кішэню па самакрутку, курыў ён толькі на прыступках і нікому не дазваляў чадзіць на ветраку: мука набярэцца гару непатрэбнага, казаў, а хлеб і дзеці ядуць. Многія яго лічылі дзіваком за гэта, аднак стары быў непахісны. Юраську цікавіла: а ці паслухаецца яго паліцай?

— Табе загад, ты і трэскайся, — млынар дастаў самасад і патупаў на прыступкі. — А я пры чым? Дзе ж ты хлеба таго воз на дзень набярэшся? Ён што, хлеб, з неба сыплецца?

— Не зразумеў! — Вітух павярнуў дзеда Нупрэя тварам да сябе, горача дыхнуў на яго. — Не зразумеў!

Млынар адмахнуўся:

— Адпусці, кажу!

— Я цябе адпушчу, калі ты пасінееш, старая торба!

Аднак дзед Нупрэй адбіўся — ён піхнуў паліцая колькі было моцы і яшчэ не пабаяўся папярэдзіць яго:

— Калі будзеш рукі распускаць, прымушу поўзаць на каленях. Хоць не ручаюся, што так не будзе і цяпер. Курыць выходзь на двор, тут і не спрабуй. Чужая табака смярдзіць дужа.

І першы накіраваўся да дзвярэй. Паліцаю нічога не заставалася, як патэпаць за ім, але, перш чым выйсці, ён паправіў на плячы карабін і крэкнуў.

Юраська застаўся на млыне, і хоць храбрыўся ён, аднак адчуў, што трымціць цела: усё ж Вітух — злосны і страшны чалавек, і ён стараўся ўявіць, як далей будуць разгортвацца падзеі на млыне. Так проста дзед Нупрэй не здасца. Думалася яму і пра іншае. Дзе ж сапраўды Вітух будзе хлеб браць? Рот разявіў не на жартачкі — воз кожны дзень! Гэта ж колькі трэба снапоў нажаць? Няўжо ён і сапраўды разлічвае на хатаўнянскі хлеб? А смалы з дзёгцем не хочаш, Вітух! Паспрабуй знайдзі той хлеб. Схавалі, калі ведаць хочаш, яго ў лесе так, што дзед Нупрэй баіцца, каб хоць самім не забыцца, дзе ён. Так што, Вітух, шукай збожжа дзе хочаш, выконвай загад, а на хатаўнянцаў і не разлічвай. Той хлеб для нашых салдат, яны яго і будуць есці. Партызаны таксама.

Юраська пачуў, як дзед Нупрэй спытаў у паліцая:

— Дык ты што, ужо жыта вязеш?

— Жавіннікаўскае, — паліцай паказаў адным вокам на фурманку, якая ледзь цягнулася пад гару да млына. — Заўтра ж, я табе кажу, трэба муку дастаўляць на новую хлебапякарню. Ці ты глухі?

— А калі не даставіш?

— Тады я цябе дастаўлю куды трэба! Па адрасе!..

— Не зайздрошчу я табе, — крадком зірнуў на Юраську млынар, падміргнуў. — Навошта ж было ў такое начальства перціся, ты вось скажы мне? Ды і што гэта за чын, што тое падай, тое прывязі, таго знайдзі... Воўчая пасада. Кормяць хоць добра?

— Угаманіся, дзед! Не твая сабачая справа! Ты так і не еў ніколі. І не сніў нат.

— Толькі нешта худы дужа. Яшчэ больш высах на казённай правізіі.

— Трэба — і высах. І яшчэ высахну. Хто цябе просіць лезці куды не трэба? — І ўжо больш лагодна: — Прымай вунь мяхі. Да раніцы змелеш?

Цётку з Жавінніка, якая прывезла на рыпучай фурманцы гару мяхоў, млынар сустрэў бы старую знаёмую, павітаўся з ёй, папытаў:

— Як здароўе, Маруся?

— Было некалі і здароўе, Язэпавіч. А цяпер і сказаць не ведаю што... Мяхі вось цягаю, а да вечару ногі. І не ведаю, хто я: мужык ці баба?

— Сама загружала?

— А хто? З Лёксай Верамейкавай удвух.

— А мужчына і не памог? — Нупрэй кіўнуў на паліцая.

Маруся перахапіла бобікаў позірк і палічыла за лепшае прамаўчаць, аднак млынар усё і так зразумеў. Ён паглядзеў на паліцая і сказаў даволі строга:

— Слухай сюды, начальнік. Я ўсё жыццё на гэтым млыне, і ніводнага разу ў мяне жанчына не надрывалася. Не дазволю Марусі і сёння адной цягаць мяхі. Сам я ўжо стары, не змагу... Хлапец — малы... Шукай людзей, Вітух... Альбо сам упрагайся. Такое маё слова.

Вітух, на здзіўленне Юраські, маўчаў, толькі вадзіў сваёй вялікай і круглай галавой па баках і не ведаў, што адказаць старому. Цётка ж Маруся спалохалася:

— Чаму, Нупрэй? Чаму? Я адужаю...

— Я сказаў: не! — як адсек дзед Нупрэй.

— Маць тваю, га! — Вітух злуецца, крэкча, сапе, тупае нагамі, але сабраўся і павёў наступленне на дзеда Нупрэя. — Запалкі дзе?

Запалкі! — ён нервова корпаўся ў сваіх кішэнях, то ў адной, то ў іншай, рукі ў яго трымцелі, але не знаходзіў іх, хоць толькі ж што прыкурваў. — Спалю, спалю вятрак, і ўсе размовы тут!

— На, палі, — дзед Нупрэй падаў паліцаю запалкі. — Палі, матары тваю!..

Нупрэй, вядома ж, пагарачыўся. Ого, так і дазволіць ён табе, каб млын па ветры пусціў нейкі там Вітух аднавокі. Горла перагрызе за вятрак, а не дасць. Бо што ён без млына, Нупрэй? Нібыта даведка без пячаткі. Юраська помніў жа, што дзед і сам не аднойчы прызнаваўся: «Я, хлопцы, без ветрака, што і ён без мяне: мёртвы...»

Аднак спалохаўся такога павароту справы, мусіць жа, і бобік. Млын патрэбны і яму. Не так яму, як немцам. Карміць жа іх трэба. Адным жа паветрам сытыя не будуць.

— Схавай запалкі, — адхіліў руку старога з карабком паліцай. — Навошта ж паліць такую пабудову? Ты што, стары, і сапраўды з глузду з’ехаў? Ды я пажартаваў...

Цётка Маруся перахрысцілася:

— Слава табе божа! Слава табе божа!..

— Не падумай, што немец прыйшоў да нас толькі ламаць і паліць. Не. Ён і будуе. Вэн мост цераз Дняпро...

— Будаўнікі, забрыкай вас камар! — млынар плюнуў. — Нашы падарвалі, а яны будуюць. Каму такая будоўля да смаку? Вы пабудуеце, разгоніцеся!..

— Распрагай каня! — загадаў паліцай Марусі. — Але ты, дзед, у мяне за ўсё адкажаш! Абяцаю! Ну чакайце! Я прывяду мужчын, яны ўнясуць мяхі, так і быць.

— Вось гэта іншая справа, — дзед Нупрэй быў, вядома ж, рады сваёй хоць і маленькай, але ўсё ж перамозе над паліцаем. — А каня, Маруся, і праўда, распражы: няхай траву паскубе.

— Можна, я? — падаў нарэшце свой голас Юраська.

Хлопчык, канешне ж, атрымаў дазвол, і неўзабаве конь скуб траву, а паліцай Вітух пачыкільгаў у вёску — за падмогай. І падмога прыбыла, мяхі мужчыны занеслі на вятрак. Паліцай задаволена паціраў далонямі: што цяпер скажаш, старэча? Аднак дзед Нупрэй сказаў крыху пазней, для прыліку пакорпаўшыся ў механізме ветрака:

— Пішы, Вітух, прапала: сёння нічога не атрымаецца...

— Як гэта? — не паверыў паліцай.

— Ветру няма. Не хоча працаваць вятрак, не махае сваімі крыламі.

— Загадай яму! — сцяўшы зубы, нахабна параіў Вітух. — Ну, я каму сказаў!

— Не крычы, я не глухі. А як я магу малоць тваю муку, калі вятрак упарціцца: гэта ж не чалавек, яму не загадаеш.

— Як для сябе малоць хлеб — вецер ёсць, а нам, новай уладзе, ветру няма. Так? Нешта я не прыпомню, каб калі вятрак раней не махаў!.. Заўжды ж, як збожжа ёсць, круціць! Круці, а то застрэлю!

— Ты ж не малы, Вітух, а дарослы. Няма ветру. Ну няма. Дзе я табе яго вазьму? Вецер, ты дзе? — Дзед Нупрэй задраў галаву.

— Возьмеш. Сам дзьмуць будзеш на вятрак, сам!

— Вятрак — птушка вольная. Яму не загадаеш. Ведае ён, атрымліваецца, каму трэба малоць, а каму — не. Разбіраецца, выходзіць. Мудры вятрак у мяне. Мудры. І сам раней не ведаў, што ён такі.

Паліцай Вітух раптам сарваў з пляча карабін і стрэліў угару.

— Другая куля — твая, Нупрэй!

Дзед Нупрэй ірвануў сарочку на грудзях, падставіў тулава бліжэй да Вітуха:

— На-а, маць тваю! Хоць буду ведаць, за што! На-а!

Вітух апусціў карабін і пайшоў з ветрака на ганак, сеў на прыступках, дастаў з кішэні бутэльку з самагонам і забулькаў у горла, бы ў нейкую прорву. А потым ён, калі асалавеў, садраў з галавы пілотку, чмякнуў ёю вобзем, ажно закурэў пыл, і пачыкільгаў куды глядзяць вочы.

— Памарыную, памарыную я паліцая з хлебам, — дзед Нупрэй паклаў руку на плячо Юраську, прытуліў яго да сябе. — Адзін дзень ён прывязе на вятрак хлеб, а калі забярэ — гэта не ўгадаеш... на другі наўрад... і тое не ўвесь. Адно, што магу абяцаць. Табе, сабе, Лявону Кончыку, Аляксею Касцючэнку. У яго ў атрадзе сын нарадзіўся. Бачыш, як бывае? Вайна вайной, а дзеці нараджаюцца. Лёшкам хлопчыка назвалі. Кім вырасце той малы Лёшка Касцючэнка? Гэта

ўжо ты даведаешся, Юрка. Ну дык што рабіць будзем? Пойдзеш за бярозкай ці пачнём збожжа малоць?

— Пайду!

— Ідзі, правільна зробіш. Не адступайся. Дамагайся свайго.

— А потым прыбягу на вятрак, дапамагу.

— Прыходзь. Ад паліцая усё роўна не адвяжашся. Як не круці-вярці. Але абдурыць яго зможам. Ды і не трэба забывацца, што пад маркай іхняга хлеба нам трэба пачынаць патрохі і для партызан малоць. Мяшок, напрыклад, Вітуху, тры — сабе. Ну як разлік?

— На пяць! — усміхнуўся Юраська і паказаў вялікі палец.

— А вядро ўсё ж вярні мне, — папрасіў дзед Нупрэй. — Вярні. Калі зноў пачне ў мяне на ветраку паліцай Кот хуліганіць, то я вядро тое яму на галаву ўстыркну — як на кол. Каб ведаў!..

Сказаў стары не тое каб сур'ёзна, але і не жартам.

## 12. ХАЛОДНЫ ВЕРАСЕНЬ

...Ночы пахаладалі. Верасень, а зябка, так і здаецца, што вось-вось возьмуцца першыя замаразкі. Асабліва адчувалі холад хлапчукі, пакуль ехалі на калёсах. Дрогка і холадна. Апрануліся ж, бы ўлетку. Хапіла розуму ў адных кашулях выпраўляцца ў лес. Лявон Кончык — хітры: надзеў ватнік і куфайку. Цёпла яму. Сядзіць сябе, звесіўшы нагу з драбіны, і ў вус не дзьме, толькі раз-пораз войкае і папракае хлапчукоў:

— Адыму лейцы! Як вы едзеце? Не ганіце так, шалудзіўцы, каня!

Аднак гняды конь з белымі падпалінамі Авадзень стараецца, быццам усё роўна ведае, што поле трэба праскочыць чым хутчэй, а там, у лесе, можна асабліва і не спяшацца.

Лявон Кончык бачыць, як Юраська ляскае зубамі, знімае з сябе куфайку і сілком накідвае таму на спіну:

— І не ўпарціцца! Ша мне!..

А Сяргейку з Паўлікам параіў прабегчыся — каб сагрэцца. Тыя паслухаліся, і цяпер двое едуць, двое бягуць. Калі не лічыць паслухмянага каня Авадня.

Лес сустрэў іх насцярожана, насуплена, а потым усё ж крыху палагаднеў і цягнуў насустрач людзям свае рукі-галіны: рады бачыць вас, сябры! Дрыготка віселі ў небе зоркі, мігцелі і таксама быццам каціліся над галовамі хлапчукоў і Лявона Кончыка на нябачных адсюль колах.

Спярша ў лесе было цёмна, але неўзабаве быццам пасвятлела — прывыклі вочы да змроку: нават можна было разгледзець, дзе стаіць каля дарогі бярозка, дзе яліна, сасна. А калі прыслухацца, то чуваць, як шэпчуцца дрэвы. Аб чым? Пра што? Падслухаць бы. Гэта, пэўна ж, было б цікава.

Лявон Кончык моўчкі забраў у Паўліка лейцы, нэкнуў на каня, які ступаў сабе і ступаў, роўна пасопваючы. Так кіраваў ён нядоўга. Не спыняючы каня, саскочыў на зямлю, узяў Авадня за аброць і павёў з вузкай лясной дарогі ў глыб лесу.

— Вочы глядзіце, — папярэдзіў хлапчукоў.

Ад дарогі не так далёка да ляснога склада, дзе схавана збожжа. Гэтае месца хлапчукі ведалі. Хто ж, як не яны, і вазілі сюды мяхі! Паўлік нават два рэйсы зрабіў, пашэнціла яму, а Юраська з Сяргейкам — па адным. І тое добра. Не дрыхлі ў тую цёмную летнюю ноч, а стараліся, як і дарослыя.

— Ціха дабраліся? — пачуўся з цемры глухаваты голас дзеда Платона.

— Усё добра, — адказаў Лявон Кончык.

— Га, і мальцы тут?

— І мальцы. Яны свайго шанцу не ўпусцяць. Ну што ў вас?

— Наша фурманка гатова. Зараз вас загрузім — і ў дарогу.

Хлапчукі падышлі бліжэй да дарослых і неўзабаве ўбачылі, як з гушчару прадраўся на палянку староста Ігнат. Аднак яго з'яўленне тут ніколькі не здзівіла хлапчукоў. Юраська толькі ўсміхнуся і падумаў: «А дзед Нупрэй, бач ты, хітрун яшчэ той: я да яго ключыкі падбяру... Навошта падбіраць, калі ён свой? Канспіратар!»

Парыпваючы коламі, на паляну цяжка выцягнуў воз Сіротка, не менш паслухмяны і добры конь, чым Авадзень.

— Цяпер хуценька загрузім Авадня! — распарадзіўся дзед Платон і хлапчукі зразумелі, што ён тут за старшага. — Наляцелі, браткі!

І вы, хлопчыкі, давайце! Хлеб есці ўсе любяць. Асабліва смачны ён, калі папрацуеш. Як той казаў: як патопаеш, так і палопаеш!

Што там тыя мяхі ўскідваць на калёсы! Аднаму, канешне, не падняць, а калі гуртам наваліцца, то раз-два — і парадак. Юраська з Паўлікам бралі мех за рогі, а Сяргейка пасярод, і — на калёсы. Сяргейка, праўда, не паспяваў за мехам, іншы раз па інерцыі сам ледзьве не залятаў на воз.

— Можна ехаць, — сказаў дзед Платон. — А то калёсы разваляцца. Конь жа дацягне. Спярша брыгада Лявона Кончыка адпраўляецца, а тады і мы. Разам небяспечна. Павел, будзеш у мяне адказваць за лейцы.

— Ага! — з радасцю пагадзіўся той.

— Ну ў дарогу. З богам.

Дзед Платон дапамог ім выбрацца на дарогу, а сам вярнуўся да сваёй, як любіў ён казаць, фурманкі.

Авадзень цягнуў воз, а хлапчукі і Лявон Кончык ішлі побач.

— Даражэй хлеба, хлапцы, на свеце нічога няма.

— Нават і за золата даражэй? — спытаў Сяргейка.

— А што золата? Яго ў рот не пакладзеш. Ёсць хлеб — ёсць і радасць у людзей. І жыццё ідзе. Нам цяпер, у вайну, за кожны колас біцца трэба. І б'ёмся. Бо расце хлеб на тым полі, дзе заўтра могуць кулі свістаць, пад тым небам расце, хлапцы, з якога і дожджык цярусіць, і жалеззе ляціць. Усё адразу. Гаротны хлеб. Нялёгкі. Затое смачны. Смачны, хлопцы?

— Вельмі!

— Дужа!..

— Цяпер жа, азіміна ўжо ў зямлю просіцца. Няўкрутная пара. Не ведаеш, за што і хапацца. Ці за вінтоўку, ці за плуг. Нэ-э, Авадзень!..

Сяргейка раптам схамянуўся, у адно імгненне нацягнуў на сябе лейцы, і Авадзень спыніўся, зафыркаў ноздрамі:

— Гляньце!..

— Што там? — насцярожыўся Лявон Кончык.

— Фары машын! — Сяргейка торкнуў пальцам у цемру, дзе сапраўды было відаць агеньчыкі, і яны ўсё большалі і большалі.

Лявон Кончык адразу ж перахапіў з Сяргейкавых рук лейцы:

— Давай вожкі. Якраз сюды пруцца, чэрці. Так, значыць, без панікі. Звярнуць з дарогі трэба, а то лоб у лоб сутыкнёмся. А Платон, бач ты, далёка глядзіць: едзьце адны, а то пападзёмся, небяспечна... Ён, мусіць, яшчэ не выбіраўся. І не спяшайся пакуль, Платон.

— Нэ-э! Нэ-э!

Конь рваўся з усяе сілы, але раптам здарылася непрадбачанае: задняе кола праваліласся ў нейкую глыбокую яміну, ажно на самую вось, і воз застыў на месцы, нібыта быў прыбіты да зямлі цвікамі.

— Давайце, дзядзька, давайце! — соп і Юраська, упёршыся плячом у драбіну. — Мы паможам. Сяргейка, бярыся бліжэй. Не там. Не спераду. Вось так, ага!..

Грузавікі раўлі недзе зусім блізка, а воз не маглі скрануць і з месца. Зрабілася страшна. Хлеб жа! Забяруць немцы, а што людзям скажаш? Самім можна і ў лес уцячы, хай шукаюць там фрыцы, але ж і Авадня не пакінеш — гэта будзе ўжо здрада. «Сам прападай, а друга выручай!» — Юраську прыгадаліся словы дзеда Нупрэя. А конь Авадзень — іх лепшы сябра, і такіх сяброў у бядзе не пакідаюць.

— Абмінулі! — уздыхнуў нарэшце Лявон Кончык і выцер узмакрэлы лоб рукавом куфайкі. — Абмінулі. Ёсць Бог на свеце, ёсць. Кудый-та панесла тую заразу ноччу?

Хлапчукі таксама бачылі, як паплылі лапікі святла над палявой дарогай, скакалі ў цёмным небе ўсё далей і далей ад іх.

— Ты на гару, а чорт з гары. Так і тут, — Лявон Кончык падышоў да кола, якое сядзела ў яміне, ударыў па ім ботам, а хлапчукам сказаў: — Надась трохі мяшкоў скінуць. Тады выедзем. Інакш дзялоў не будзе. Напялёхаў Платон, што сена. І куды столькі? Конь, здаецца, як конь, а жылы рве. Давайце, хлопцы, адгрузім, а то Авадня замардуем. Ён і так, бедалага, на сваім веку хапіў. Дзе што цяжэй, там і Авадзень.

...Нупрэй пачынаў ужо хвалявацца. Не жартачкі. Даўно пара вярнуцца з лесу Лявону Кончыку з хлопцамі і Платону, а тых і не чуваць і не відаць. Асабліва трывожна зрабілася яму, калі паехалі з вёскі ў бок лесу варожыя грузавікі...

Млынар, прыхінуўшы дзверы, стаяў на ганку і толькі цяпер пачуў, як рыпяць паблізу колы. А потым паказаўся і Авадзень. Дзед Нупрэй не вытрымаў і падаўся наперад — сустракаць жаданы груз.

— Ну цяпер нам хопіць клопату...

— Прыемнага клопату, — адказаў яму з цемры Лявон Кончык.

## 13. БЯДА

...Усю ноч нетаропка і лёгка махаў крыламі вятрак. Пад ранне можна было бачыць такую карціну: на мяхах, падкурчыўшы ногі, бы па загадзе, спяць Юраська, Сяргейка і Паўлік. Натаміўся і дзед Платон. Ён сядзіць на зэдліку, прытуліўся спінай да сцяны і гучна высвіствае носам.

— Ішоў бы і ты, кум, дахаты, — прапаноўвае Лявону Кончыку млынар. — З рэшткамі сам упраўлюся. А там і мае памагатыя прачнуцца. Ідзі, Лявон. Вам хапіла ў лесе...

— Ды куды ўжо ісці! — упарціцца Лявон Кончык. — Час такі, што не ведаеш: ці спаць класціся, ці ўставаць трэба. Пабуду. У цябе выпіць нічога няма? Давай посуд, да калодзежа адвярнуся.

— Калі будзеш піць узвар, то пі, а не — выліі, вада — яна свяжэй будзе, — Нупрэй паказаў на кадаўбец, у якім прынесла яму Пелагея кампот з крышанак. — А то ўсё ж мо яго хлёбнеш? Паспрабуй. Кісленькі.

— Прагуляюся, калі ўжо надумаўся, — узяў цяжкаваты кадаўбец, выштукаваны з дуба, Лявон Кончык. — Дыхну хоць. Гэта ў нас колькі яшчэ мяхоў засталося? Пяць?

— Ну. Пяць. Не паспеем давідна. Давядзецца і дня прыхапіць.

— Прыхопім. Дзень — ён таксама наш. А вечарам скокнем у лес. Я і не абяцаў, што дзве падводы адужым. Ніхто нас асабліва ў каршэнь не гоніць. Хіба толькі Вітух? Дык ён нам не ўказ. Ага.

— Ваўкоў баяцца — у лес не хадзіць. А мы ж ходзім! — Нупрэй усміхнуўся. — Павэдзгае языком, ды і супакоіцца. На ўсялякі выпадак трэба спусціць мяхі за дошкі на першы ярус. Каб спакайней было.

— Схаваем, чаго там, — пагадзіўся Лявон Кончык і накіраваўся да дзвярэй, а калі прынёс паўнюткі кадаўбец, Нупрэй зрабіў некалькі глыткоў, а потым памыў твар.

— Вочы зліпаюцца, — сказаў млынар. — Цяжкая ноч. Не прыгадаю, калі раней я так эксплуатаваў свой вятрак.

Заварочаўся Юраська, нешта блюзніў ў сне, а калі расплюшчыў вочы, падхапіўся:

— Заснуў?

— Спі, спі, — паглядзеў на яго Лявон Кончык. — Яшчэ рана.

— Добра, — Юраська пазяхнуў і зноўку скруціўся, бы вужэлак, на меху, падклаўшы пад галаву сваю маленькую далонь.

— Учора яго бацька з фронту пісьмо прыслаў, — дзед Нупрэй спярша паглядзеў на Юраську, а потым на Лявона. — Хваліўся. Ваюе Рыгор. На Ленінградскім фронце. У артылерыі бытта. Пісьмо тое ў кішэні ў яго, з сабой носіць.

— Паказваў, — кіўнуў Лявон Кончык.

— Ну што ж, калі не спіш і дамоў не ідзеш, давай зноў засыпаць збожжа, — глянуў на Лявона млынар. — Ды і муку выбіраць пара. Добрая мука ідзе. Гэта я Вітуху змалоў, як для фермы. На ўсю катушку даў. Нічога, тая гайня ўсё з'есць. Пацёр трохі, ды і добра. А надалей з яго буду яшчэ большы пай браць. На ўмалот таксама трэба накідваць, як думаеш?

— Рабі, як сам знаеш.

— Павінен, павінен быць на ўмалот працэнт.

— Вось так і жывём, Нупрэй, — уздыхнуў Лявон Кончык. — Э-ха-ха-ха! Наш, кроўны хлебчык, а мы хочам пай той браць, ці, як кажаш, працэнт. Думаем, гадаем, як абхітрыць паліцая. А што ён думаў, цікава, калі хлеб у людзей забіраў? Дзе вачэй пазычыў? Шыш ён думаў! Давай — і ўсё, а то будзе... Ды што там гаварыць! Тут, Нупрэй, тваім працэнтам дзірку не зацыруеш.

— Не заткнеш, факт...

— Трэба крута паварот рабіць. Каб яны і на нюх табакі не бачылі нашага хлеба. Каб ён горкім для іх быў. Што палын.

— Не так адразу. Спярша хоць бы па каліве назад яго цягнуць. Па граме. Па мяшочку... Выціскаю ўжо, што толькі магу. Каб жа не

нашкодзіць. Тут акуратна трэба. Вітух нешта таксама кумекае, хоць і не галава ў яго, канешне, а бурак на плечы ўторкнуты.

Лявон Кончык пагадзіўся:

— Я і не кажу, што прама сёння-заўтра, адразу павярнуць на ўсе градусы, не... але ж чакаць, калі яно тое будзе, нудна дужа. Ох і нудна!

— Нічога, нічога, усё перамелецца, а смецце само сабой адсеецца. Адзін хлебчык застанецца. Чысцюткі. Так, так, а смецця і не ўбачыш.

— Скарэй бы.

Зноўку прачнуўся Юраська, залыпаў вачыма:

— Што, а? Фу-у, ну і соні ж мы! Ранне ці што?

— Ранне, ранне, — паглядзеў на яго Нупрэй. — Будзі ўжо ўсю сваю каманду. Платона — не чапай: яго не асабліва Лукер'я дома чакае. А вы, хлопчыкі, давайце па хатах. Ды прыляжце яшчэ і дома. А мы, старыя, тут як-небудзь самі справімся. Мала засталося... Марш, марш, хлопчыкі!..

— Фу-у, дрыготка! — пацепваў плячыма Юраська. — У-у-ух!

Неўзабаве на млыне спаў адзін дзед Платон, усё высвістваў носам, іншы раз старэча ўсміхаўся ў сне, нешта мармытаў, і тады дзед Нупрэй таксама ўсміхаўся:

— Спіць, як дзіцёнак! Бач ты яго, Платона! Няхай спіць — не перашкаджае.

А потым у ранішняй цішыні грымнуў кароткі сухі выбух. На ветраку насцярожыліся. Лявон Кончык паглядзеў з адчыненых насцеж дзвярэй на вёску, побач стаяў і Нупрэй.

— Што там, Лявон?

— Цішэй, дай зразумець — што...

— Ой, людзечкі-і-і! А што ж я татку скажу-у-у! Юрачка мой любенькі-і-і! Ды што ж ты нарабіў, а сыночак ты мо-й-й! І гаварыла ж я табе не браць гэтае жалеззе-е-е-е!..

— Мама, мама, не плач! — прасіла Насцю Ліда. — Не плач, мама. Не трэба.

— Ты ўсё зразумеў, Нупрэй? — глядзеў у вочы млынару Лявон Кончык.

— Бытта...

— Я пайшоў на бяду.

— І я з табой, — падхапілі ногі і Нупрэя, самі панеслі за кумам.

Упершыню, колькі і працуе ён на ветраку, не ўспомніў ён пра яго...

## 14. ВЯРТАННЕ

Зіма выдалася снежная, віхурная. Накруціла сумёты — ні прайсці ні праехаць. Паступова снег спрасаваўся, ляжаў на зямлі тоўстым і тугім дыванам. Пацяплець жа не пацяплела: пёк мароз. Гуляў халодны вецер, прычэсваў, дзе было можна, чупрынкі ў кустоў, якія сіратліва і недарэчна вытыркаліся там-сям са снегу.

Якраз у такі зімовы дзень Нупрэй запрог Авадня ў свае лёгкія санкі, паклаў на іх добрае бярэмя саломы, падруліў да Юраськавай хаты.

— Насця, ты дзе там? Пара!..

— Іду, іду, — паказалася з брамы Юраськава маці, несучы перад сабой вялікі скрутак, паклала яго на санкі, моўчкі села пазручней сама, і млынар загадаў Авадню:

— Давай, браток, у Журавічы. Дарогу ведаеш. Юрку трэба забіраць.

З мястэчка вярталіся моўчкі. Вецер якраз сячэ ў твары, ды і хоць не было б яго, ветру, каму ахвота размаўляць? І пра што? Насця сваё выплакала. Нупрэй больш думаў. І ад думак тых, і ад ветру, што сцябаў і сцябаў па твары, — ад яго не схаваешся — на вачах выкругляліся ўвесь час слёзы, каціліся маленькімі гарошынамі па маршчыністым твары. Шкада Юраську. Шкада. І хто ж яго пашкадуе, калі ні маці ды ні ён? Бы свой яму цяпер хлапчук. Як унук родны. Замест Алеські, ад якога так і не дачакаўся пакуль Нупрэй весткі з фронту. Хоць і пара б ужо — шмат часу мінула, як пайшоў унук на вайну...

Ах, Юрка, Юрка! І навошта ж было табе несці з лесу той запал, падобны да ручкі, навошта? Канешне, яму карцела пісаць. «Каб

знаццё, што ў кума піццё», — успомнілася старому, і ён глянуў на Юраську, затуленага ў кажух — адны вочы ды маленькі востранькі носік. Нупрэй сустрэўся з хлопчыкам позіркам і заўважыў, што вочы ў таго пацяплелі, твар кранула ледзь бачная ўсмешка. Пацяплела крыху на сэрцы і ў старога, і ён кіўнуў Юраську: нічога, брат, нічога... Усё наладзіцца... як не круці-вярці...

«Скончыцца гэтая праклятая вайна, вызначацца хлапцу трэба, — лёс Юраські стаяў у млынара на першым плане. — Хлебаробам мо і не стане. Хлебароб — гэта каб дзве рукі... хлеб на далонях трымаць зручна... І вятрак яму не перадасі... На настаўніка калі хай ідзе... Вывучыцца сам, няхай і іншых вучыць. Знойдзе сябе Юрка, не прападзе. Хлапец ён кемлівы. Галавасты. Толькі цяпер хай больш з кніжкай сябруе. Добра, што хоць так... А магло і горш быць. Магло і вока выбіць. Усё ж доктар акуратна аперацыю зрабіў. Дзякуй Сафонаву. Нездарма ж лейб-медыкам пры багатым двары быў. Хоць і адхапіў у Юркі рукі, але мала: той рукой яшчэ можна і памагаць, падчапіць што ці патрымаць. Магло быць і горай... Бяда, адным словам...»

Перад самай вёскай Нупрэй першы заўважыў, як насустрач ішлі двое. Калі пад'ехалі бліжэй, то адразу ж сказаў гучна, каб было чуваць і Юраську:

— Глядзіце, хто нас сустракае!

Расчырванелыя і маўклівыя, Паўлік з Сяргейкам прымасціліся на санях, бліжэй да Юраські. Так і ехалі яны моўчкі, і толькі было чуваць, як хлімкала маці Насця...

Каб яна згарэла, тая знаходка!

## 15. ШКОЛА

— Пасля школы, Юрка, заскоч да мяне, — загадкава паглядзеў на хлапчука дзед Нупрэй. — Справа ёсць. Паможаш.

Юраська не стаў дапытвацца, што за справа, а толькі пацікавіўся:

— На млын?

— Вятрак, Юрка, сваё адрабіў, няхай адпачне. Не будзем перашкаджаць яму. Заходзь у хату. Ды пацяплей апранайся. Ну бяжы, бяжы ў школу. Вучыся, хлопча. Адольвай навуку...

Школа — адна назва. Пад носам у немцаў, якіх наехала пазней у Хатоўню яшчэ больш, вучацца хлопчыкі і дзяўчынкі пісаць і чытаць, робяць, як і некалькі да вайны, цікавыя падарожжы ў мінулае сваёй Айчыны, захапляюцца вершамі Пушкіна і Коласа... На ўсіх вучняў — адна настаўніца, Вольга Якаўлеўна, на ўсіх вучняў — адзін-другі падручнік. Пішуць — хто на чым. Юраська раздабыў недзе кавалак газеты, і таму яго літары, выведзеныя алоўкам, густа скачуць паверх тых, што расказваюць аб разгроме фашыстаў пад Масквой. Настаўніца, звярнуўшы ўвагу на той шматок, спалохалася — ажно твар у Вольгі Якаўлеўны пабялеў — і загадала схаваць падалей такі небяспечны «сшытак», не карыстацца больш ім. Схаваць дык схаваць. Юраська і напісаў усяго якія два сказы. За тыдзень, мусіць. Ён вучыцца пісаць левай рукой, таму аловак не слухаецца, ходзіць па газеціне, як уздумае. А што напісаў Юраська — ён сам толькі і зможа прачытаць.

У хату настаўніцы збіраюцца вучні з усіх класаў, і выходзіць, што ўсе яны адразу вучацца і ў чацвёртым, і ў пятым, і ў шостым. Таўкуцца сярод старэйшых нават першакласнікі, але тыя больш нешта грызуць ды штурхаюцца, асабліва калі адвернецца настаўніца, каб падкінуць у грубку дроў. У грубцы тады гудзе, і вучням робіцца хораша, утульна, нават весела, і яны не хочуць, каб увогуле заканчваліся такія ўрокі. І яшчэ добра, што Вольга Якаўлеўна пакуль не ставіць адзнак. Таму што ўсе яны праходзяць нейкую адну тэму, і як паставіш побач тут таго ж першакласніка з чацвёртакласнікам. Ніяк. Хоць першакласнікі, бывае, робяць выгляд, што нешта кемяць, ажно рот да вушэй. А спытай, пра што гамонка ідзе, і яны тады лезуць у кішэні, каб упэўніцца, ці засталося што ад смачнага чорнага сухара. Сухар для іх пакуль важнейшы за навуку. Мішка-Мухамор, якога звалі так у вёсцы, бо рабацінне абляпіла ўвесь ягоны твар, — грызе кавалачак хлеба і картавіць:

— Велнецца з вайны Ламан Яголавіч, і мы ўсё лоўна будзем у яго вучыцца. Ага.

Так і ўсе яны, маляўкі. Але ў школу бягуць-спяшаюцца. Сядзяць у цяпле, кішэні апаражняюць ды робяць выгляд, быццам вучацца, грызуць не сухары, а навуку. А потым забудуцца, відаць, што яны ў школе, расштурхаюцца, і справа заканчваецца іншы раз тым, што пад дружны рогат старэйшых пачынаюць высвятляць, хто з іх аб'еўся сухароў. Толькі і сядзіць тады цішэй малеча, як пад канец заняткаў распачынаецца гаворка на вольныя тэмы. Вольга Якаўлеўна любіць паслухаць, што пішуць з фронту яе вучням. Цікава і тым самім. І яны па чарзе расказваюць. Слухаюць надзвычай сур'ёзна, бо размова ідзе пра вельмі важнае, і тут не да смеху. Нават калі Мішка-Мухамор расказвае, на твары вучняў не набягаюць усмешкі, хоць на Мішку таго глянь — і жывот падпяразвай: клоўн, а не Мішка.

— Мой тата б'е волагаў далёка адсюль, — кажа Мішка, шморгаючы носам. — Здолава б'е! Камандзіл яму ўзнагалоду ўлучыў. Не помню якую, але даў. На, кажа, за смеласць. Заўтла гляну ў пісьмо, што яму далі. Там напісана.

Усе слухаюць і нібыта бачаць дзядзьку Івана, Мішкавага тату. То вось ідзе ён па вясковай вуліцы, то бяжыць у атаку...

— А мой нічога не піша... — апускае галаву Кацька, закрывае тварык далонькамі, і плечыкі дзяўчынкі раз-пораз уздрыгваюць: плача.

У хаце настаўніцы робіцца ціха-ціха. Чуваць толькі, як дзынкае на аконнай шыбе вялікая леташняя муха. Ад тлуму дзятвы ёй, відаць, робіцца млосна, і яна з усіх сіл стараецца апынуцца на дварэ. Дурніца! Сядзела б у цяпле, зашылася б куды падалей, пакуль не злавілі цябе хлапчукі. Раздушаць! Дык не, скрабецца. Гэта добра, што не да цябе ім зараз, хлапчукам. Нават першакласнікам.

А Кацька плача.

— Вось што, дзеці, — на вачах настаўніцы вучні заўважаюць таксама слёзы. — На сёння заняткі заканчваем. Ідзіце дадому. А ты, Каця, застанься. Каму чарга падручнікі браць? Трымайце. Юраська, спалі газету. Чуеш?

Юраська моўчкі ківае.

Вучні разбягаюцца.

— Я Кацьку пачакаю, — кажа Сяргейка і застаецца на двары, стаіць на ганку.

У розныя бакі разыходзяцца і Юраська з Паўлікам. І калі выбягае Кацька з хаты Вольгі Якаўлеўны, то ў школе застаецца адна настаўніца. Добра ёй, думаюць іншы раз дзеці: прачнуўся — і ў школе, зусім ісці нікольні не трэба. А на судніку заўсёды ляжыць прыхінуты ручніком бохан хлеба...

Прыгажосць!

## 16. ПАРСЮК ВЯЛІКІ, ПАРСЮК МАЛЕНЬКІ...

На дварэ дзеда Нупрэя стаяў Авадзень, запрэжаны ў сані. Конь, як толькі Юраська адчыніў веснічкі, павярнуў галаву ў бок хлапчука. Затым зноўку пацягнуўся, закапыліўшы губіну, да сена, што шарэла на белым снезе. Юраська моўчкі гладзіў Авадня па пысе, заглядваў каню ў вялікія і чыстыя, бы сляза, вочы, у якіх плавала Нупрэева жытло: хата як не цалкам — з вокнамі і дахам — памясцілася ў іх.

Несучы акуратна падабраную вяроўку на плячы, паказаўся з пуні дзед Нупрэй.

— А-а, Юрка. Што, вучоба ўжо кончылася?

— Распусціла Вольга Якаўлеўна.

— То і добра. Зараз паедзем. Мы з табой апошнім часам, заўваж, вандруем часта. Не сядзіцца нам, а? Цёпла адзеўся?

— Цёпла.

— Глядзі, каб не замерз. Маразы сёлета моцныя, бытта ведалі, што трэба ім, маразам, быць... Немцаў пад Масквой трэба памарозіць. Ажно ў бярвенні страляе. Як дасць, як стрэліць! Шчэ во хата мая не вытрымае!

— Вытрымае, — усміхнуўся Юраська.

— Будзем выбірацца ў дарогу, — стары кінуў на сані вяроўку, патаптаўся крыху на месцы, нешта прыпамінаючы, мусіць, а потым падышоў бліжэй да саней, падняў салому. — Бачыш?

— Парсюк? — здзівіўся хлапчук. — Чый гэта?

— Каб жа знаццё. Распараджэнне Вітуха: на вячэру свежына павінна быць. Камендант гасцей чакае. Шкада, што позна даведаўся пра гасцей... А то б аднеслі ў дупло дэпешу. А пазней і сам камендант да мяне на вятрак падкаціў. І Вітух побач яго трэцца, што ганчак каля ног паляўнічага. Трэба, братка Юрась, з немцам пакуль ладзіць. Хітрасцю браць трэба... Ну адмовіўся б я? Толькі і дамогся б, што на сухары мог атрымаць. Дзе наша не прападала. Так і быць ужо — займуся смаленнем парсючка. Каб хоць адзін бобік прасіў, то я б яго і турнуць мог. А то сам камендант. Шышка. Яго лепш абысці. І мы яго абыдзем. Уцяміў? Пазней. Усяму свой час.

— Не, — шчыра прызнаўся Юраська, але здагадаўся, што дзед Нупрэй нешта зноўку прыдумаў, ад чаго немцам лепш, канешне ж, не стане.

Стары ўскінуў на воз некалькі кулёў саломы, і яны паехалі. За вёскай адразу ж звярнулі пад узгорак, на якім стаяў вятрак, схіліўшы на бок белую шапку — быццам вітаў млынара і Юраську.

— Ветраку, як і чалавеку, таксама адпачыць трэба, — ціха прамовіў дзед Нупрэй. — За свой век ён, братка, столькі карысці людзям зрабіў, што і ўявіць цяжка, ні ў якую торбу не памесціцца карысць тая. Няма такой торбы. Не пашылі яе. каб усё збожжа ссыпаць у адну кучу, што прайшло праз яго жорны, то гэта была б такая куча, якую і свет не бачыў. Гара Памір, не менш.

Юраська ўявіў, чаму ж, тую кучу — ого-о!

Вятрак застаўся ззаду, а дзед Нупрэй глядзеў і глядзеў на яго, пакуль млын зусім не прапаў з вачэй.

Наперадзе паказаўся Жавіннік. Вёска гэтая была маленькая, яна ўпіралася выгнутай спінай у зубчастую шчотку лесу.

— Зробім прыпынак, — сказаў дзед Нупрэй і спыніў Авадня каля падворка, на якім тапталася жанчына, ужо знаёмая Юраську: то была тая цётка, што прывозіла на млын збожжа па загадзе паліцая Вітуха. — Падыходзь сюды, Маруся!

Павіталіся.

— Ты, наколькі мне вядома, прывозіла на мой вятрак збожжа малоць?

— Прывозіла.

— А што заплаціў табе Вітух за працу?
— А што ён заплаціць? Ты што, Нупрэй, смяешся?
— Нікольki. Пакажы мне свайго парсючка.
— Навошта?
— Трэба! — строга сказаў дзед Нупрэй, і пакуль ён ішоў да пуні, каб паглядзець, які ў Марусі гадуецца парсюк, пачуў такія-сякія навіны.
— Прыходзіў надоечы з лесу мой Апанас, — паведамляла цётка Маруся. — Хваліцца асабліва нічым не хваліўся. Цягнік пад Тошчыцай з рэек пусцілі. Салдат, кажуць, у ім было процьма. Во пра гэта казаў. Сам хадзіў на чыгунку з Касцючэнкам. А так што яшчэ?.. — цётка Маруся паціснула плячыма. — Казаў, праўда, што памянялі месца, на зіму глыбей у лес падаліся. Набудавалі зямлянак, жывуць. Але з харчам туга. Хлеб вось-вось кончыцца. Тая мука, што ты, Нупрэй, малоў, іх дужа выручыла. Хлеб смачны пякуць. Боханы — як з печы, круглыя, як сонца...
— Нешта будзем думаць, — прамовіў Нупрэй, адчыняючы дзверы ў пуню.
Стары перагнуўся цераз перагародку, паскроб парсючка па спіне, той наставіў на незнаёмага яму чалавека востры пятачок, зарохкаў.
— Забіраю я твайго парсюка, — сказаў дзед Нупрэй. — Хавайся дзе ў хаце, а я тут сам разбяруся.
— Нешта я нічога не зразумею, — развяла рукамі цётка Маруся.
— Потым усё зразумееш. Даверся мне. Выйдзі. Апанасу свежыну перадасі ў лес... Няхай крупнік есць. Ну марш, марш!
Цётка Маруся вытарапіла вочы на Нупрэя:
— Язэпавіч, што ты надумаў рабіць?
— Потым пабачыш. Ну, каму сказана! Марш!.. І хлапца вазьмі з сабой. Няхай таксама ў хаце пагрэецца.
Юраську нічога не заставалася, як пайсці ўслед за цёткай. У шыбу ён бачыў, як Нупрэй выцягнуў парсюка за ногі і паклаў побач з тым, якога чакаў камендант на вячэру.
У лесе дзед Нупрэй выбраў добрую мясцінку. На беразе ракі, у атачэнні дрэў, таму тут быў зацішак. Пакуль млынар смаліў

парсюка, Юраська прадзёўб у лёдзе палонку, зачэрпнуў вядром вады — да краёў — і паставіў на вогнішча.

— Грэй, грэй ваду, Юрка! — настрой у дзеда Нупрэя быў добры. — Вялікага прыпарым цёпленькай вадзічкай, а малому і так добра будзе.

Цяпер толькі Юраська здагадаўся, што надумаў зрабіць дзед Нупрэй. Смелы, аднак!..

Вярталіся з лесу рана, было яшчэ светла. З парсюкамі дзед расправіўся хутка не толькі ў лесе, але і пазней — вялікага пакінуў цётцы Марусі, тая войкала і ахала, чагосьці баялася і малілася Богу, каб ён заступіўся за Нупрэя. А Нупрэй спаслаўся, што разабраць парсюка ў яго няма часу, няхай даруе, бо чакае сам камендант і папрасіў дапамагчы суседцы свайго старога знаёмага і, мабыць, равесніка, які паабяцаў за скварку сала зрабіць і не тое!

Ужо недзе перад самай вёскай, якраз там, дзе коўзаліся дзеці на каньках, аблюбаваўшы маленькую пляцоўку на возеры, сустрэўся дзеду з Юраськам п’яны немец. Ён стаяў на дарозе, вытыркнуўшы перад сабой непаслухмяную руку, і прасіў, каб тыя спыніліся.

— Гутэн абэнт! — пастараўся ўсміхнуцца немец, калі Авадзень параўняўся з ім.

— Што ён вэдзгае? — паглядзеў на Юраську млынар.

— Павітаўся.

— Бач ты, культурны!

Немец мурлыкаў песню, шлёпнуўся, не папытаўшы дазволу, у сані, але патрапіў акурат на парсюка, адчуў гэта і адразу ж падскочыў, бы падстрэлены:

— Швайн! Швайн! — адно слова і ведаў Нупрэй з нямецкай мовы, і яго давялося скарыстаць.

— Іх швайн? — тыцнуў на сябе пальцам немец.

— І ты таксама, — смела сказаў дзед Нупрэй і падняў салому, якой быў прыхінуты парсюк. Нямецкі салдат убачыў парсюка, зрабіў ледзь не да самых вушэй усмешку і зноўку плюхнуўся на сані. Па дарозе ён спяваў, а больш дапытваўся, што гэта за парсюк такі і як яны глядзяць на тое, каб адвезці парсюка да яго на «кватэру». Бач,

чаго захацеў, антыхрыст! Юраська трохі ведаў нямецкую мову, але немец вёў гамонку з імі больш рукамі, бо язык не надта слухаўся. Крыху пацішэў немец, калі пачуў слова «камендант».

— Прасі ў каменданта свежыны! — параіў дзед Нупрэй.

— Пан камендант, пан камендант, — нібы заезджаная пласцінка, бубніў немец.

І раптам Юраська ўбачыў, што няма на возе вінтоўкі. Ляжала ж. Сказаў дзеду, той насцярожыўся:

— А маць тваю так! Згубіў, ну ты паглядзі на яго, ваяку! Га?

— Пан камендант, пан камендант... — па-ранейшаму мармытаў немец.

— Ты не камендантуй тут, а скажы лепш, дзе твая пух-пух? — млынар нацягнуў лейцы, і конь спыніўся. — Дзе, пытаю, твая пух-пух?

Немец адразу, падалося, працверазеў, закорпаўся ў саломе, а потым загадаў:

— Цурук!

— Просіць, каб ехалі назад, — падказаў Юраська.

Давялося млынару паварочваць, хоць і не хацелася, Авадня, ехаць назад, шукаць тую вінтоўку. Дзед Нупрэй лаяўся на немца і не адразу заўважыў, як той выкуліўся з саней і, шырока трымаючы перад сабой рукі, быццам збіраўся кагосьці заціснуць у сваіх абдымках, кінуўся да возера. Толькі цяпер дзед Нупрэй і Юраська здагадаліся, што да чаго. Яны бачылі хлапчука, які слізгаў на самаробных каньках, а на плячы ў яго боўталася вінтоўка, цаляючы ствалом у бліскучы лёд. Глядзелі яны на немца, на таго хлапчука і ад душы смяяліся: ну і хлапчына, ну і малайчына — такі выгляд у яго, быццам за спінай не сапраўдная зброя боўтаецца, а самая звычайная драўляная палка. Толькі з папружкай.

Далей, пакуль і не прыехалі ў вёску, немец трымаў зброю абе256руч. У Хатоўні ён злез з санак, абтрос з адзення салому, паказаў на вінтоўку і прамырмытаў:

— Гут, гут!

— Гутай-гутай, — параіў яму дзед Нупрэй і лёгенька шлёгнуў Авадня лейчынай па спіне.

Усе непрыемнасці, калі гэта можна назваць іх так, пачаліся пазней. Як і чакаў Юраська. «Не можа ж дзед Нупрэй заўсёды чыстым з вады выходзіць». Паліцай Вітух, калі ўбачыў парсюка, што ляжаў на возе, ледзьве не пляснуўся, падалося, вобзем:

— Дык каго ты мне прывёз, стары корч? Дзе той парсюк, якога я табе даваў, га? Адказвай, не глядзі так, быццам баран на новыя вароты! Адказвай!

Дзед Нупрэй спакойна паглядзеў на бобіка і спытаў:

— Дык ты будзеш яго забіраць ці куды мне падзець свінчо? Давай указанні.

Аднак бобік не спяшаўся загадваць, усё дапытваўся, дзе падзеўся вялікі парсюк.

— Што я табе скажу, Вітух? — па-ранейшаму спакойна глядзеў на паліцая стары. — Усё як мае быць. Усё так. Паменеў трохі парсючок. То не мне ж табе гаварыць, чаму... Не на дрэве ж сядзеў, калі рос, а ў вёсцы, сярод людзей, то павінен ведаць, чаму паменеў парсюк...

— Ну, чаму? — не цярпелася паліцаю.

— Давай я цябе саломай пасмалю столькі, колькі яго, то паглядзець мне ахвота будзе, паменееш ты ці паболееш...

— Цьфу! — плюнуў Вітух і пабег дакладваць каменданту, што свежына, як і належыць, будзе пададзена сёння да стала: запрашайце сваіх гасцей, пан начальнік, пачастуем.

«Не прападзеш з дзедам Нупрэем!» — радасна падумалася Юраську.

## 17. АВАДЗЕНЬ — КОНЬ ПАСЛУХМЯНЫ

— Дык што, гэты карапуз павязе мяхі? — з недаверам паглядзеў спярша на Юраську, а потым на дзеда Нупрэя паліцай Вітух.

— Гэты, гэты, — кашлянуў млынар у кулак. — А каго яшчэ ты тут знойдзеш? Бабу якую адправіш ці Платона? То няхай хлапец скокне, заадно ў Журавічах цукерак купіць у краме, пасмокча. Я грошай яму даў. Справішся, Юрка?

Юраська ўжо сядзеў на мяхах, трымаў у руках лейцы і ў першую ж хвіліну гатовы быў загадаць Авадню: «Ну, дружок, паехалі!», а калі хітравата глянуў на яго млынар, ён падміргнуў дзеду Нупрэю, а той — яму: парадак!

— Ды глядзі ж у мяне! — прыгразіў пальцам паліцай і змерыў хлапчука строгім позіркам. — Не абы-што вязеш, а хлеб. Галаву адкручу. Як сланечнік. — Ён пазначыў нешта ў сваім замусоленым блакноціку, запіхнуў яго ў кішэню. — Там наляцяць на мяхі, разгрузяць. Хапае рабочых на пякарні. Гэта адвезці няма каму. Сам жа я не павязу. І салдата нямецкага не застаўлю: не яго клопат. Ну, давай, давай. Абы дабраўся каб добра. А калі вернешся, адразу знойдзеш мяне і даложыш па ўсёй форме: так і так, заданне выканана. Мне рэзультат важны. Зразумеў?

Замест Юраські адказаў дзед Нупрэй:

— Будзе табе і рэзультат. За гэта не хвалюйся. Ну што ж, няхай едзе. Ранне раннем, а там, чаго не ўбачыш, і вечар нахопіцца. Дні цяпер кароткія — што твая папяроска нямецкая, Вітух: два разы шморгнуў — і пальцы пячэ, трымаць няможна.

— Ета праўда, гарыць дужа, — пагадзіўся Вітух. — Пачкі на дзень не хапае.

— Работа ў цябе нервовая, відаць? — крадком зірнуў на паліцая стары. — Недарэмна ж кажуць, што табака нервы ўмацоўвае быццам. То і курыш багата.

Вітух нічога не адказаў, а толькі махнуў на Юраську рукой:

— Едзь, чаго стаіш?! Рот разінуў!..

Авадзень напяўся, сані скрануліся з месца і заслізгалі палазамі па хрусткім снезе. Хоць свістаў сухі вецер, азвярэла і дзіка, востра хвастаў па твары холадам, Юраську было цёпла. Дзед Нупрэй пастараўся: уцяпліў яго ўсім, чым толькі мог. І на ўсялякі выпадак паклаў побач старэнькі кажух: а раптам спатрэбіцца? Пра холад яму ўвогуле не думалася — ён уяўляў, як сустрэнецца з партызанамі, тыя перакладуць мяхі на свае санкі, а там — на варожай хлебапякарні — няхай чакаюць з мора надвор'я. Дачакаюцца! Не бачыць ім нашага хлеба! «А што ж будзе тады Вітуху? Камендант, мусіць, зачыніць яго ў карцар, у клець цёткі Вавіліхі, і загадае:

“Карміць нягодніка адной саломай! Ды яшчэ леташняй! Калі не выканаў заданне! Ты на хлапца не ківай — служыш фюрару сам, а не ён. Зразумела табе, ёлуп?”» — радасна думалася хлапчуку.

Што чакае яго самога — пра гэта Юраська не думаў...

...Да ветрака, як толькі пацёгся адтуль паліцай, адразу ж прыбеглі Паўлік з Сяргейкам. Пра гэтую аперацыю яны ведалі, нават спярша самі прасіліся ў напарнікі да Юраські. Аднак дзед Нупрэй ім усё растлумачыў як след, і яны пагадзіліся, што ўсім нельга ехаць: калі і рызыкаваць, то аднаму, і тым больш Юраську — ён без рукі, і немцы пашкадуюць, калі і разгадаюць махінацыю з мукой.

Пазней падышоў і Лявон Кончык.

— Як там, цікава мне, Юрка? — парушыў нарэшце гнятлівае маўчанне дзед Нупрэй, твар яго зрабіўся суровым, строгім. Было б чаму весяліцца. Чакай, гадай, думай... А гэта нялёгкая справа, атрымліваецца.

— Не павінны б Юрку чапаць, — уздыхнуў Лявон Кончык. — Нацярпеўся ён і так, хіба ж не відаць. Рукаў у хлапца пусты.

— І мне, кум, так думаецца...

Паўлік таксама прамовіў з сумам:

— Пасадзяць у клець.

— Калі яго, крый божа, і сапраўды ў тую у клець Вавіліхі запруць, то мы яго адтуль павінны вызваліць — кроў з носу! — дзед Нупрэй быў надзвычай сур’ёзны. — Іначай грош нам цана тады. Хоць і немцы ж каравуляць тую клець. Аднак нешта прыдумаем. Да ўсяго рыхтавацца трэба.

— А мы таго немца... ух! — Паўлік сціснуў кулачкі, нешта хацеў сказаць такое грознае пра нямецкага вартавога, аднак не ведаў што.

Яго, праўда, і так зразумелі, на што млынар, усміхнуўшыся праз сілу, запярэчыў:

— Бач ты, жэўжыкі! Грозныя, гляджу, ажно некуды. А са мной вы справіцеся, не кажучы пра немца? Бярыце мяне, што хочаце рабіце. А я буду супраціўляцца. Ці адолееце? — ён глядзеў на хлапчукоў, якія ўмомант панніклі, пацішэлі. — Так што, мальцы,

не трэба казырыцца дарэмна. Але за жаданне надаваць немцу кухталёў хвалю. У мяне таксама іншы раз рукі свярбяць, хлусіць не буду. Аднак нам лепш за ўсё верыць застаецца, што ўсё з Юркам скончыцца добра. На ўсялякі выпадак не разыходзьцеся, можа, і на самай справе выручаць яго давядзецца.

Лявон Кончык, які да гэтага маўчаў, пагадзіўся, што разыходзіцца не трэба:

— А там што бог дасць.

...Авадзень нырнуў у лясок. Тут было зацішней, дарога менш замецена снегам, чым у полі, толькі ў вершалінах дрэў шалёна гуў вецер і наганяў трывогу і сум.

Юраська развязаў матузкі на аблавушцы, бо не будзе ж ён паказвацца партызанам у такім выглядзе. Яшчэ не палічаць за дарослага, а яму надта ж хацелася хоць на адну галаву быць вышэй, чым ёсць. Ды і так, з развязанымі матузкамі, лепш чуваць, што робіцца навакол. А то яшчэ, чаго добрага, і размінешся. Толькі як гэта размінешся з партызанамі, калі яны самі, пэўна ж, ужо чакаюць хлеб, выглядваюць, канешне ж, раз-пораз з-за дрэў на дарогу: ці не едзе.

Вунь і масток. Вусцішна. Нікога не бачна. Толькі па-ранейшаму гудзе ў соснах і ялінах вецер, скуголіць.

«Можа не перадаў ім дзядзька Іван, — пачаў хвалявацца ўсё больш і больш Юраська. — Мо не дабраўся да атрада, на якую-небудзь засаду напароўся? Ці мала ж іх, бобікаў, развялося?»

З Іванам Даўгалыгім Юраська пазнаёміўся асабіста два дні назад, ён прыходзіў у Жавіннік, там і сустракаліся. Дзед Нупрэй звазіў яго тады на сустрэчу з ім, пазнаёміў, як і належыць:

— Гэта наш сувязны Юрка Ганчарок!

Партызан моцна пацiснуў руку яму, сказаў:

— Рады пазнаёміцца. Хоць цябе, браток, я ведаў. Па тваіх добрых справах. Перадавай прывітанне і сябрам. Вы ў камандзіравым спісу ёсць. Сам бачыў.

Яму тады хацелася выцягнуцца перад дзядзькам Іванам навыцяжку. Але ён пасаромеўся — як сядзеў на зэдліку, так

і працягваў. Хоць і трэба, відаць, было. А сам думаў: «Няўжо ён праўду кажа? Няўжо не хлусіць? Нават у спісах камандзіра, самога Касцючэнкі, мы ёсць, значыць? Што цяпер бобік Вітух скажа!»

Авадзень порстка мясіў капытамі мяккі снег, ступіў ужо і на масток, хоць цяпер, узімку, яго не адразу ўбачыш — замяло снегам. Але ж Юраська добра ведаў, дзе ён, гэты непрыкметны масток, лясны, нізенькі, без балясаў. Хлапчук неаднойчы сядзеў на ім, звесіўшы ногі, і назіраў, як грэліся на сонейку рыбкі-маляўкі.

Дзе ж партызаны? Чаму не відаць? І што тады рабіць з хлебам? Не везці ж яго на пякарню! Куды заўгодна, толькі не туды!

Юраська нацягнуў лейцы, конь паслухмяна стаў. І раптам:

— К-хе, к-хе!

З лесу выйшаў дзядзька Іван. Нарэшце!

— Здарова, Юрка! — павітаўся ён. — Не замерз?

— Не, мяне так апрануў дзед Нупрэй, што пара ідзе!

— Ну, ну, не жартуй з марозам. Пара ідзе. Хлопцы, выходзьце! Юрка з хлебам прыехаў!

— Ды бачым, бачым...

Да Юраські і Івана Даўгалыгага падышлі яшчэ два партызаны, зусім маладыя хлопцы, і адзін з іх узяў Авадня за аброць і павёў у гушчар.

— Прадзяромся, не такія перашкоды бралі! — весела гаварыў партызан, які вёў каня. — Нэ-э!

А дзядзька Іван распытваў пра дзеда Нупрэя, хваліў яго за смеласць і кемлівасць:

— Малайчына гэты дзед. Усім дзядам дзед.

Мяхі перакінулі хлопцы-партызаны на свае санкі.

— Дарог няма, прабіваемся па цаліку, — гаварыў дзядзька Іван. — Таму два кані запрэглі. Аднаго можна замардаваць. Няблізкі свет. І добра, што сняжок пайшоў — няхай ён нашы сляды замятае.

Партызаны яшчэ раз падзякавалі за хлеб, а потым Іван дастаў з кішэні паперку і падаў Юраську:

— Глядзі ж, не згубі. Тут, браток, мы напісалі ўсё, што трэба. Гэта — дакумент. Хоць і без пячаткі. Не згубі.

На той паперы хлопчык прачытаў: «Хлеб забралі партызаны. Няважна, хто будзе яго везці, важна, хто будзе яго есці. Смерць фашыстам!»

На развітанне дзядзька Іван абняў Юраську, пацалаваў у шчаку і ціха сказаў:

— Няхай беражэ цябе Бог, хлапец. Ну, едзь, едзь. Шчаслівай дарогі, Юрка!

Авадзень не ленаваўся. Каня ніколі не трэба падганяць, калі бяжыць ён дамоў. У Юраські кружылася галава ад радасці, яму хацелася спяваць, але вецер не даваў разявіць рот, і хлопец скакаў на санях, ажно Авадзень раз-пораз азіраўся — дзівіўся: што з ім, з Юраськам. І, мусіць, здагадваўся, у чым справа, бег і бег трушком. Ды і як было не радавацца? Хлеб — у атрадзе! Цяпер будзе ляжаць свежы бохан на стале ў партызанскіх зямлянках.

Будзе! будзе! будзе! — гуло ў полі, гуло ў вушах, і неба перад вачыма хлапчука хісталася, гойдалася, нібыта на арэлях, ногі самі нешта вытанцоўвалі, а ў жываце Авадня раз-пораз цяжка вухала і вухала. Конь не звяртаў увагі — бег і бег.

— Ой, куды ж ты! — Юраська пачуў наперадзе крык, і толькі цяпер заўважыў, як саступіла з накатанага следу цётка Аксіння, загрузла па калені ў снезе.

Ён нацягнуў лейцы, Авадзень паслухмяна стаў.

— Сядайце, цётка Аксіння!

— Во за гэта дзякуй, — пачала выцягваць ногі са снегу Аксіння, цяжка і няўклюдна. — Во забралася дык забралася! Як у дзёгаць ступіла.

Нарэшце яна выкараскалася, гопнула на санкі і Авадзень зноўку пакапыціў у Хатоўню.

— Здаля едзеш? — уладкаваўшыся пазручней, адразу ж пацікавілася суседка.

— Кепскія нашы справы, — не адразу загаварыў Юраська. — Павёз хлеб у Журавічы, на хлебапякарню, а партызаны сустрэлі ў лесе і ўсё падчыстую... Прыйшлося вось назад паварочваць. І што будзе, сам не ведаю!..

— Што ты кажаш? Ай-бо-о! Дык яны ж цябе павесяць, Юрачка!

— Павесяць, — яшчэ больш сумна прамовіў хлапчук. — Павесяць. Відаць, так.

— Ай-бо-о! — вочы ў цёткі Аксінні зрабіліся вялікімі, пукатымі. — О ё-ё-ёй! Ты гэта праўду, Юрка? Няўжо праўду? І што ж яны, нашы, самі цябе на смерць піхаюць, га?

— Не ведаю, — паціснуў плячыма хлапчук. — А немцы ж не паверацъ. Як вы думаеце, цётка, паверацъ?

— Божа барані! Ім хоць у лоб страляй, а не паверацъ.

Ехалі моўчкі. Падалося нават, што Аксіння зусім забылася пра Юраську, таўкла, бы ваду ў рэшаце, сваё:

— Гэта я ў Журавічы хадзіла. Чорт мяне насіў. Думала, на мёд ды сала што-небудзь выменяю, ажно выменяла. Шыш! Хусткі дзве адзін чалавек даў, а болі, сказаў, няма ў мяне нічога. Хоць штаны, кажа, знімай. Не, не тыя цяпер Журавічы. Але немцаў — што агуркоў у бочцы. І вялікія, і маленькія, і пузаценькія — вось такія! — яна паказала, растапырыўшы як магла перад сабой рукі.

— Эх, і жыццё, — уздыхнуў Юраська, бо слухаць пра тыя хусткі не было ў яго і на грам настрою. — Што ж рабіць, цётка?

Аксіння задумалася. Сур'ёзна.

— Не ведаю, што і параіць табе, суседзе мой даражэнькі.

— А можа, вы скажаце, цётка Аксіння, што бачылі, як партызаны ў мяне мяшкі забіралі, а? Шчэ і кухталёў, скажаце, надавалі, бо ўпарціўся, кусаўся.

— Ты... ты... што гэта, Юрка? — замахала на хлапчука рукамі Аксіння. — Барані божа! Нічога я не бачыла. Яны разбірацца доўга не будуць, а абодвух пад стрэльбу — і памінай, чым звалі. Во як! Не-е! Мяне сюды не прылічай! Нічога, нічога я не бачыла. Я ж і праўдацькі нічога не бачыла. Пастой! Прытармазі! Злезу я, Юрка. Едзь адзін. Ці чуеш ты мяне?

Юраська сцебануў па спіне Авадня лейчынай, і той пабег яшчэ шпарчэй.

— Сядзі ўжо, цётка. Што будзе, тое будзе! Нэ-э!

— Ой, людзі-і-і! — залямантавала Аксіння і пакацілася з санак на снег.

А конь бег і бег...

Быццам падпільноўваў Юраську, высунуўся з-за вугла паліцай Вітух. Авадзень спыніўся, фыркнуў яму гарачай парай з абедзвюх ноздраў.

— Ужо? — здзівіўся паліцай.

— Не давёз, — уздыхнуў хлапчук. — Партызаны забралі...

— Што-о-о? — такім Вітуха Юраська ніколі не бачыў, нават на млыне, калі не хацеў малоць збожжа дзед Нупрэй.

Паліцай штурхануў хлапчука на санкі, выхапіў з яго рук лейцы і пагнаў Авадня да камендатуры. А куды ж яшчэ? Юраська не паспеў нават спалохацца. Хацелася толькі спярша паказацца на ветраку, а потым ехаць і на даклад паліцаю. Атрымалася наадварот.

— Нэ, быдла! — хваставў бобік Авадня лейцамі, наматаўшы іх на руку. — Вязі хутчэй, кажу! — І да Юраські, не паварочваючы галавы: — Ты ў нас паглядзіш зараз! Партызаны забра-а-лі! Нешта раней не забіралі! Сам ці не партызан саплівы! Нэ-э!..

## 18. РАССТРЭЛ

Вітух нарабіў ляманту на ўсю вёску. Даляцеў ён і да ветрака. Млынар паскроб за вухам, ціха прамовіў:

— Выручаць трэба Юрку. Чаго сядзім? Бліжэй да камендатуры давайце прабірацца. Гародамі.

І першым накіраваўся да дзвярэй.

Пачуў, відаць, крык паліцая і сам камендант. Ён стаяў на ганку і загадкава пазіраў на Вітуха, які адзічэла размахваў лейцамі над узмакрэлай спінай каня. Камендант паглядзеў на афіцэраў і салдат, якія стаялі крыху паводдаль ад яго, ззаду, мармытаў на ломанай рускай мове сабе пад нос:

— Інтэрэсно, інтэрэсно...

Перад ганкам паліцай нацягнуў лейчыну, ажно прыгнуўся, згорбіўся, і Авадзень крута развярнуў сані.

— Тыр-р-р! — Вітух саскочыў з санак, казырнуў. — Хлеб —

цю-цю! Няма! У яго, разумееце, партызаны адабралі! Ні ў каго не адбіралі, а ў яго — зацапалі!..

Камендант падышоў бліжэй да Юраські, стаў так, быццам збіраўся штурхануць жыватом хлапчука.

— Праўда гаварыт? — спытаўся, свідруючы вачамі Юраську.

Юраська моўчкі кіўнуў: праўда, забралі. Камендант ударыў рукавіцамі па твары хлапчука, крыкнуў:

— Прызнавайся, сам отвез ілі абманываеш, хітрыш? Ну, гавары, я цебя слюшаю...

Юраська ўспомніў пра запіску, што даў яму ў лесе дзядзька Іван і палез у кішэню за ёй як за сваім выратаваннем, пакуль адзіным, вядомым яму выратаваннем. Дзе ж яна, запіска? Ён апусціў руку глыбей, намацаў паперку і хуценька працягнуў каменданту:

— Вось. Цэтлік далі, каб вы...

Камендант прачытаў запіску, на яго твар набегла здзеклівая ўсмешка, затым ён перадаў паперку праз свае плячо назад, дзе яе адразу перахапіў Вітух, прыставіў да вока, чытаў і ківаў галавой: маўляў, ага, зразумела, яны і не тое могуць напісаць за столькі мяшкоў, не палянуюцца.

— Ліпа! — трасянуў рукой з паперкай паліцай.

— Как понімат — ліпа? — не зводзячы вачэй з Юраські, запытаў камендант у бобіка.

— Хлусня тут! Няпраўда. Яны каго захацелі вакол пальца абвесці, пан камендант? Нас?

— Што прыкажэт с табой делат? — ні на хвілінку не зводзіў строгага позірку з Юраські камендант. — Гавары, парцізан!

Голас у каменданта пацяжэў, твар наліўся злосцю і нянавісцю да Юраські. Што скажаш яму, ворагу? На калені перад ім упасці, расхлімкацца, прасіць міласці? Не, не... Юраська так не зможа.

Ён як стаяў перад камендантам з высока ўзнятай галавой, так і працягваў, толькі ўспаміналіся яму маці з сястрычкай, тата, дзед Нупрэй, Паўлік з Сяргейкам... І было вельмі шкада, што так і не паспелі яны адпомсціць па-сапраўднаму паліцаю Вітуху. А як там тата на фронце? Што мама робіць дома? А сястрычка Ліда? Хацелася б паглядзець увесну, ці прыжылася бярозка каля падворка...

— Інтэрэсно, он молчіт, — павярнуўся нарэшце да афіцэраў і салдат камендант. — Он жіт не хёчет... — І махнуў рукой: — Расстрэлят!

І пашыбаваў да ганка, не звяртаючы ні на каго ўвагі, углядаючыся перад сабой, злы і рашучы. Вітух таптаўся на месцы, не разумеючы, мусіць, сур'ёзна вынес прысуд хлапчуку камендант ці як... Нарэшце ён, бачачы, што камендант схаваўся ў памяшканні штаба, паўтарыў яго загад, не так строга, але і без жалю:

— Расстраляць!..

Юраська толькі цяпер, калі штурхануў яго ў плячо вінтоўкай немец, адчуў, што не слухаюцца ногі, зусім не слухаюцца, бы прымерзлі да зямлі, пакуль ён стаяў, а па целе расплылася стома. Быццам ажыла, навалілася на яго зноў немач, якую адчуў ён, калі бліснула перад вачамі тая асляпляльная маланка...

Юраська ішоў па вуліцы, чуў за спінай нетаропкія крокі варожага салдата, яго дыханне. Паварочваць галаву назад, на немца, не адважваўся. Навошта? Ён і так добра ўяўляў, як той трымае напагатове вінтоўку, мерае крокамі яго вуліцу, на якой знаёмы кожны кавалачак зямлі, на якой звонка смяецца і галёкае яго дзяцінства...

А вунь і цётка Аксіння. Юраська заўважыў суседку, адвярнуўся. Не хацелася глядзець у вочы ёй, цётцы Аксінні. «Скнара і ёсць скнара, — падумаў з крыўдай хлапчук. — Навошта я ў яе курэй тых браў?»

— Пан салдацік, пан салдацік, — старалася заглянуць цётка Аксіння ў вочы немцу. — Вы што гэта з дзіцёнкам рабіць хочаце, га? Ды не вінаваты ж ён! Не вінаваты! Сама бачыла, як партызаны яго білі! Усім клянуся — білі!

Немец гергетнуў па-свойму, штурхануў вінтоўкай цётку Аксінню, у дадатак узнагародзіў яе выспяткам, і яна не ўтрымалася на нагах: добранька чмякнулася, але скрутак з рук не выпусціла. Страх прыціснуў яе да зямлі, яна ляжала, нібыта забітая, доўга і ціха, а потым усхапілася, і толькі пяткі замігцелі па дарозе.

Бліжэй да сваёй хаты яна сутыкнулася твар у твар з дзедам Нупрэем, з Лявонам Кончыкам і хлапчукамі.

— Там... там... — махала яна рукой, глытаючы словы. — Юрачка міленькі-і... Выратуйце яго, родненькія, выратуйце! — на вачах цёткі Аксінні блішчэлі слёзы.

— Ідзі, ідзі дамоў, Аксіння, — ціха сказаў Нупрэй. — Толькі дамоў, чуеш?

— Ага, ага, — часта трэсла галавой Аксіння.

Немец нешта сказаў Юраську. Юраська не павярнуўся. Куды вядзе яго фашыст? Дзе ён, той «расстрэл»? Дзіўна, але Юраська пасмялеў, зусім чамусьці не думаў пра смерць, хоць яна была недзе блізка, у якім кроку ад яго...

Юраська ступаў па снезе, які зрабіў белым поле, і ўжо больш шырока, цвёрда перастаўляў ногі, быццам і сам спяшаўся хутчэй прыйсці да таго месца, дзе ўпадзе на яго шызавата-блакітнае неба. Усё адразу. І схавае яго ў сваіх абдымках, раз і назаўсёды, не дасць яму больш палюбавацца валошкамі ў жыце, убачыць маму, сястрычку, тату, пачуць галасы людзей...

Яму хацелася нешта крыкнуць. З усяе сілы, на ўвесь голас. Каб далёка было чуваць. Але ён не ведаў, што трэба было крычаць, якія словы. Ды і ці трэба? Ціха як... Няхай спачывае зямля пад снегам, няхай спіць. Зямля... На гэтым полі, па якім ішоў хлапчук, спяшаліся хатаўнянцы сабраць жыта. Да адзінага каласка. Юраська ўспомніў той жнівеньскі дзень... Чым пахла жыта? Тады ўсё паветра пахла хлебам. А вунь вятрак... Ён таксама змагаецца з фашыстамі. Як і чалавек.

Але... што гэта? Драч скрыпіць? Адкуль ён тут, драч, узімку? «Паўлік? Гэта ж Паўлік!» Юраська не павярнуў нават галавы ў той бок, адкуль данёсся крык лугавой птушкі. І тут ён убачыў, як насустрач з кустоў смела выйшлі дзед Нупрэй, Лявон Кончык і сябры. Млынар цвёрда трымаў у выцягнутай руцэ наган. Тады Юраська азірнуўся на немца, упершыню, колькі і крочыў ён пад канвоем. Глянуў на немца і нічога не зразумеў: немец усміхаўся, яго не палохалі ні дзедаў наган, ні насупленыя твары людзей, што насоўваліся на іх абодвух, гатовыя, здавалася, без зброі разарваць ворага на шматкі. А ён, немец, смяецца. Чаму ён радуецца? З чаго?

— Здароў, пан, — сказаў, падышоўшы да варожага салдата, дзед Нупрэй. Сказаў спакойна, бы павітаўся ён не з фашыстам, а з Лявонам Кончыкам ці з любым іншым знаёмым чалавекам.

— Гут, гут! — усміхаўся немец, а затым падштурхнуў Юраську, каб ішоў да сваіх. — Гут, гут!

Немец узняў над галавой вінтоўку, стрэліў два разы ў неба, затым павесіў зброю на плячо, зноў загергетаў:

— Шнель, шнель! — і паказаў рукой на кусты.

— Дзякуй табе, — сказаў варожаму салдату дзед Нупрэй і схаваў у кішэню наган.

— Гут, гут! — салдат захіваў кручкаватым пальцам, паляпаў рукой па вінтоўцы. — О, гут!

«Дык гэта ж той немец, які вінтоўку згубіў! — здагадаўся Юраська. — Ён добры чалавек, хоць і фашыст».

У вёску вярталіся па лагчыне, потайкам.

— Пазнаў немца, Юрка? — спытаўся дзед Нупрэй.

— Ага!

— Віктарам па-нашаму зваць. Гэты немец — не паліцай Вітух. Ён яшчэ нас не аднойчы выручыць...

Ну і дзед Нупрэй!

Не, ніколі не прападзеш з ім!

— І каровы з табой, кум, будуць сытыя, і сена цэлае, — засмяяўся Лявон Кончык.

Смяяліся і хлапчукі, аднаму Юраську, праўда, было пакуль яшчэ на да смеху.

І толькі цяпер ён адчуў, як дрыжэлі ногі, калацілася ліхаманкава цела...

А як можа быць яшчэ пасля таго, як цябе вялі на расстрэл?

## 19. БЫВАЙ, ХАТОЎНЯ...

Глыбокай ноччу пакідалі сябры Хатоўню. Перад тым як пайсці з вёскі, забеглі яны на млын. А яшчэ перад тым зацягнулі на гарышча карову бабкі Ганны, у якой яна адна на ўсю вёску даілася ўзімку

і з якой піў-смакаваў малако камендант. «Хай ведаюць нашых! — радаваўся Юраська. — Раніцай бабуля прачнецца, каб Хмарку сваю падаіць ды аднесці малачко каменданту, а ў пуньцы — пуста. Няма Хмаркі! Усплёсне старая рукамі, загалосіць, а карова страху прагрызе ў даху, прасуне рогі, ды му-у-у! Смеху будзе на ўсю вёску! А нас даруй, бабуля!..»

Карову заманіць на гарышча было нялёгкай справай. Але хлапчукі ўхітрыліся. Яны выцягнулі з паркана пралётку, і Хмарка, хоць і ўпіралася, усё ж ускараскалася па ёй. А каб была ёй ахвота ўзбірацца на гарышча, Сяргейка казытаў ноздры рагулі жмутком сена. Духмянага, шапаткога. Хмарка і перамагла страх. Голад — страшней, відаць, за яго. За любы страх страшней. Яшчэ ж удзень Сяргейка залез у Ганніну пуньку і выграб з кармушкі ўсё сена. Да грама.

Да чаго толькі не дадумаюцца хлапчукі!

— Наказ, хлопцы, будзе вам такі, — дзед Нупрэй шкадаваў, што застаецца адзін, але нічога не паробіш — нельга Юраську знаходзіцца больш у вёсцы, нельга, і хваляванне старога выдаваў яго маршчыністы, але заўсёды добры, спагадлівы твар. — Слухайцеся там... Не шалапутнічайце. Юрка, асабліва ты глядзі. З адной рукой у бой не прыся. Прыстройся дзе на кухні. Таксама важна. Мо хлеб будзеш мужыкам выпякаць памагаць. Ці нянькай напрасіся — сына камандзіра, Лёшку, гушкай... Ды і нас не забывайце, — млынар павярнууўся да Лявона Кончыка. — Правільна, Лявон?

— Усё верна, кум, — ціха і з сумам у голасе адказаў той.

— Іван Даўгалыгі сёння дома. З ім у мяне дамова была, не думайце, жэўжыкі, што Нупрэй наперад не глядзіць. Усё прадугледзеў. Ну дык што, будзем выбірацца? Давайце, браткі...

Авадзень вёз іх у ноч, цёмную і ціхую. На небе густа гарэлі зоркі. Віселі яны і над ветраком, і хлапчукі бачылі, як крылы-махі ўпіраліся — калі глядзець зводдалі — у зорнае неба, і на самых кончыках іх віселі начныя агеньчыкі. Здавалася, што вось-вось вятрак замахае крыламі, і зорачкі заскачуць па небе, павядуць над ветраком карагод, вясёлы і шчаслівы...

...Наперадзе была яшчэ ўся вайна.

## МІШЭНЬ

1

На ўроку Арцёмка забыўся пра настаўніцу і аднакласнікаў — ён, не адрываючыся, глядзеў у акно. Настаўніца без асаблівага папроку ў голасе заўважыла яму:

— Ты што, птушачак лічыш?

Хлопчык на дзіва спакойна, не паварочваючы галавы на голас, адказаў:

— Не, галінкі…

І працягваў іх лічыць, толькі цяпер ужо больш смела і адкрыта — нават торкаў пальцам на тыя самыя галінкі, якіх на старой акацыі, што захінула сабой ад белага свету акно і стварала нейкім чынам ціш і спакой у класным памяшканні, было вельмі многа, вельмі!..

Нават каб не празвінеў званок на перапынак, хлопчык усё роўна б не паспеў іх палічыць, тыя галінкі. Ці дакладней сказаць — не здолеў бы: дрэва мае густую крону, у ёй гуляе-сваволіць ветрык, таму галінкі зрэдчас гойдаюцца, калываюцца, яны то з'яўляцца, то зноўку прападуць: паспрабуй усачыць за імі. Нібы дражняцца з Арцёмкам.

Аднак ён даў сабе слова калі-небудзь усё ж даведацца, колькі галінак мае акацыя. Наперадзе было яшчэ шмат урокаў, і гэта цешыла хлопчыка.

2

Учора Арцёмку маці вадзіла ў паліклініку, доктар прапісаў яму кроплі ў нос і адвар ад прастуды — каб не сіпела ў горле — і папрасіў стаць спярша на шалі, а затым памераў ягоны рост. Там жа, у тым чысценькім несамавітым пакойчыку, хлопчык

і даведаўся, што мае рост 145 сантыметраў, вагу — 38 кілаграмаў. Многа гэта ці мала — усе тыя лічбы яму мала пра што гаварылі, а калі апынуўся на вуліцы, і зусім забыўся на іх. Ён не ведаў, вядома ж, бо вышмыгнуў раней, што маці доктар параіў даваць яму больш вітамінаў і наогул каларыйнай ежы, на што тая, седзячы на канапе і цікуючы за кожным рухам мужчыны ў белым халаце з рыжымі вусікамі пад носам, толькі ўздыхала, ківала-пагаджалася: канешне ж… я разумею… вядома ж… пастараюся… А ўжо калі прычыніла дзверы кабінета, нібы апраўдваючыся перад людзьмі, што чакалі сваёй чаргі на прыём, сказала:

— Расце ж калі!..

3

Кватэра, у якой жыў Арцёмка разам з мамай, нагадвала сметнік. Сюды прыносілі ўсё, што лічылі патрэбным, яе сябры — такія ж лахматыя, нечасаныя, зморшчаныя і чорныя, падобныя да неграў, дзядзькі і цёткі. Тут была іх база ці што. На гэтай базе яны пераапраналіся ў новую адзежу, рабілі гэта весела і крыху нават урачыста, не шкадавалі адно аднаму камплементаў. Тую ж вопратку, што знімалі з сябе, адносілі назад на сметнік: яна адслужыла ім спаўна, дзякуй. Мы прыфранціліся!..

На гэты раз трапіліся добрыя, амаль што як новыя, рэчы і для Арцёмкі.

— Гэта — сыночку, — прыцiскала да грудзей кашулю і порткі маці, радавалася, і было такое ўражанне, што яна выбірае рэчы для сына ў краме, а вакол яе шчыруюць прадаўцы — не менш шчаслівыя за жанчыну: сёння кожнаму пакупніку там рады. — Праўда ж, хвасон добры?

Ёй нехта казаў ухвальнае, тады Арцёмкава маці прамакала вочы той жа кашуляй альбо тымі ж порткамі, і да таго часу, пакуль не прапаноўвалі зноў шклянку з віном, сядзела на табурэце, смактала цыгарку і прыгадвала тое-сёе са свайго жыцця. Недзе ў прыватным сектары жыве яе першы і апошні муж Валік, Арцёмкаў татка. Прыгожы, нераўня гэтым мужчынам, што прыходзяць у яе

аднапакаёўку калі ім уздумаецца — ноччу дык ноччу, удзень дык удзень. Суседзі спярша шыкалі, усяго можна было чакаць ад гэтых бамжоў, а потым змірыліся: прайшлі чуткі, што адключылі газ за нявыплату. Яны, суседзі, шкадавалі толькі Арцёмку, бо хлопчык ходзіць у школу, яму ж урокі трэба вучыць, а ён, нябога, жыве ў гэтым пекле. Дакаралі за гэта — што асабліва дзіўна — не маці, якая зусім спілася і згубіла чалавечы твар і жаночы гонар, а бацьку: маўляў, пацікавіўся б, як жыве сын, ды забраў да сябе, а то, чаго не ўбачыш, зусім прападзе хлапец.

Бацьку таксама было не да сына — у яго стварылася новая сям’я, і жанчына, якая заняла месца Арцёмкавай маці, была надта злой, няветлівай грамадзянкай…

Колькі разоў заходзіў участковы, рабіў заўвагі жанчыне — настаўляў на правільны шлях. Але маці ратаваў Арцёмка — умудраўся вучыцца ён добра, заўваг са школы не паступала. Што яшчэ цікава, дык у адным класе з ім была і дачка ўчастковага, на сходзе неяк яны, Арцёмкава маці і ўчастковы, нават сядзелі побач. Размова пра дзяцей зацягнулася, жанчыне надакучыла слухаць усё гэта, і яна штурханула ўчастковага ў бок, а быў ён у цывільным адзенні, і прапанавала:

— Піва не вып’ем?

Трэба было бачыць вочы участковага!

Калі прыходзіў Арцёмка са школы, ён абедаў. На стале можна было знайсці тое-сёе з ежы. Ён адной рукой адганяў мух, а другой піхаў у рот хлеб, рыбку з кансервы ці кавалачак каўбаскі, у якой ад спёкі папражылася сала, і таму той скрылёк каўбаскі нагадваў яму нейкага смешнага чалавечка: гэта — вочкі, гэта — носік, гэта — роцік…

Неяк мамін бойфрэнд Калян, як назваў ён сябе, звярнуў увагу, што Арцёмка не столькі падсілкоўваецца, колькі забаўляецца з каўбасой, а гэта, даруйце, ужо з рук вон, і падаў свой голас:

— Табе што, можа, нясмачна?

Арцёмка працягваў забаўляцца з каўбасным чалавечкам.

— Я паўтараю. Табе што, нясмачна?

— Я ў школе еў, — ціха адказаў хлопчык.

— Тады вылазь з-за стала і не займай месца! — і бойфрэнд Калян паглядзеў на маці, якая стаяла побач і не ведала, што ёй сказаць. — Яму, гляньце вы, ужо мая каўбаса, што я прынёс, у рот не лезе. Калі такі граматны, дык сам зарабляй і ўплятай тое, што прынясеш. А, ты яшчэ школьнік? Разумею, разумею. І я быў школьнікам, і мамка твая ацістат мае, вунь у шафе ляжыць… з аднымі пяцёркамі… сам бачыў… на свае вочы… Спярша не паверыў, што выдатніца…

— Да медаля не хапіла адной пяцёркі, — уставіла маці.

— Чуў? Не, ты чуў, Арцём? — бойфрэнд Калян ужо вісеў над ягоным вухам.

Хлопчык не вытрымаў, сказаў спакойна, але гучна:

— Ды чуў, чуў!

— Ты голас не павышай. Саплівы шчэ. Так, маць? Ну вось, бачыш, і мамка на маім баку. А разумнага чалавека паслухаць не лішнім будзе. Ці табе дакумент паказаць? Магу прад'явіць. У разгорнутым выглядзе. Я, праўда, універсітэтаў не заканчваў, аднак маё ПТВ ужо сёння — каледж. Вялікімі літарамі на фасадзе напісана. Чуў, каледж! А гэта па сённяшніх мерках — тэхнікум. Так што май на ўвазе. А калі смачна есці хочаш, то я пакажу табе, як зарабляць грошы. Можа, што і нам з маткай перападзе, а? Чуеш, маць? А гэта ідэя, між іншым!..

Бойфрэнд Калян так увайшоў у ролю выхавальніка, што нават не заўважыў, як Арцёмка выслізнуў з кватэры. Калі сцяміў, што да чаго, вадзіў толькі галавой па баках, пытаўся ці то ў самога сябе, ці то ў Арцёмкавай маці:

— А дзе гэта ён, шчанюк?

4

Настаўніца паглядзела на парту, за якой павінен быў сядзець Арцёмка, а потым на акацыю, і ўслых сказала:

— А шкада, што Арцёма няма і сёння ў школе… Цяпер, увосень, калі акацыя засталася амаль без лісця, ён змог бы палічыць нарэшце ўсе галінкі. За які тыдзень дрэва голым стала. Гляньце вы. Мне і самой стала цікава, колькі іх ўсяго там, галінак?

Падняла руку дзяўчынка, суседка Арцёмкі па парце.

— Ну што ты хацела, Міронава?

— Я ведаю, дзе Арцёмка... Ён… Ён…

— Што «ён», Міронава? — затрымала позірк на дзяўчынцы настаўніца.

Ён прасіў мяне, каб я нікому не казала, што бачыла яго… Вось што… Я дала яму слова маўчаць і не стрымала, атрымліваецца… Даруй, Арцёмка!.. Але я нікому не скажу, дзе бачыла цябе… І што ты рабіў…

5

У той дзень, калі Арцёмка забаўляўся са скрылькам каўбасы, ён вярнуўся дамоў позна. Дзе быў, што рабіў — пра гэта ў яго раней ніколі не пыталіся, а сёння, што здзівіла і хлопчыка, маці адразу ж пацікавілася:

— Дзе цябе насіла?

— А што?

— Дзядзька Коля хацеў з табой пагаварыць.

— Хай гаворыць…

— Чакаў, чакаў і не дачакаўся.

— Важнае што?

— Ну не ведаю… — маці паціснула плечуком, пэўны час памаўчала, а тады прамовіла так, нібы цадзіла тыя словы праз свае пярэднія шчарбатыя зубы. — І, наогул, я збіраюся за яго замуж…

Арцёмка падняў на маці сур'ёзны погляд:

— За каго?

— Ты што, глухі? За яго…

— Не, усё чую. Ты хочаш замуж…

— Правільна. Твая мама хоча…

Павісла паўза, і тут якраз дарэчы сталі словы, якія сказаў сын:

— А чаму… а чаму ў мяне няма дзеда, бабулі? Ува ўсіх ёсць, а ў мяне няма. Чым я горшы?

Маці не ведала, што адказаць Арцёмку. Ёсць і ў яго дзядуля з бабуляй, жывуць яны ў вёсцы, просяць, няўжо ж не, каб прывезла

яна калі-небудзь ім унука, хоць бы паглядзецъ на яго. Аднак як, куды паедзеш? За што? Толькі ў апошні час яны нешта перасталі цікавіцца і ўнукам… Ды і калі б былі нават грошы, Арцёмкава маці саромеецца нат у такім выглядзе, які мае яна сёння, паказвацца не толькі сваім бацькам, але і землякам. Бо ўсе яе сваякі думаюць, што іхняя Верка па-ранейшаму робіць на фабрыцы, жыве з тым жа прыгожым хлопцам, з якім і пабралася шлюбам.

Яна не паспела адказаць сыну — рыпнулі ўваходныя дзверы, і ў калідорчыку паказаўся бойфрэнд Калян з пакетам, а калі ён яшчэ загадаў, ледзьве пераступіўшы парог: «Вячэру ў студыю!» — адразу стала зразумела, што ён прынёс.

Засвяціўся твар і ў маці.

— А-а, з'явіўся не запыліўся! — бойфрэнд Калян падсеў да хлопчыка. — Паслухай, ёсць ідэя. Хочаш грошы мець?

— Хачу, — шморгнуў носам Арцёмка.

— Багата?

— Не ведаю…Я заўтра схаджу на аўтавакзал і папытаю, колькі білет каштуе да дзядулі з бабуляй. Тады і скажу.

— Не ўздумай! — гнеўна паглядзела на Арцёмку маці. — Не мыльця да іх!..

А бойфрэнд Калян працягваў сваё, яго мала цікавілі дзядулі і бабулі:

— Пасядзіш у падземным пераходзе, і будуць грошы. А? Я ж табе і кажу, хлопча: у мяне, па-сённяшняму, — каледж! Думаць трэба! Апранешся, абуешся, цацак накупляем табе. Хіба мала?

— Мне б толькі да дзядулі з бабуляй з'ездзіць, — прамумкаў Арцёмка.

Маці ажно войкнула і адвярнулася:

— Ты зноў за сваё?! І не ўздумай, шэльба малая!..

— Ён не паедзе ў тую забытую Богам і людзьмі вёску, трэба яна яму. Так ці не, Арцём?

І хоць хлопчык ніяк не адрэагаваў на гэтае пытанне, бойфрэнд Калян нахабна сказаў, не міргнуўшы і вокам:

— Ён, Вяруня, не паедзе. Ён паслухмяны хлопчык, а такія мне падабаюцца. — І павярнуўся да Арцёмкі: — Заўтра ранкам я адвяду цябе ў падземны пераход, пасядзіш з працягнутай рукой…

Арцёмка запярэчыў:

— Мне ў школу трэба.

— Школа пачакае. А грошы могуць і не. Галоўнае — не спазніцца. Адным словам, вырашана. Раніца за вечар мудрэйшая, гвардзеец!..

А пазней набілася ў кватэрку столькі чалавек, што Арцёмку зрабілася цесна. «Хопіць цярпець!» — загадаў сам сабе хлопчык і прагнаў усіх, хто сядзеў на ложку, а сам лёг, падклаў далоньку пад галаву, і неўзабаве ён бачыў сон… Прыгожы сон, вельмі!.. Нібы ён мае цэлы гараж машынак і, рассеўшыся на чыстай падлозе, гуляе з імі. Толькі і чуваць: гыр-гыр-гыр!..

Калі сон скончыўся, Арцёмка зразумеў, што ў ложку ён не адзін, а тут яшчэ мама і яе бойфрэнд Калян, якому, зразумеў, не хапае на пасцелі месца, таму ён усяляк стараецца легчы зверху на маму, аднак у яго гэта не вельмі атрымліваецца: хоць у мамы і маленькі жывот, але ён усё роўна спаўзае з яе, нібы з горкі… Аднак бойфрэнд Калян — чалавек вушлы, прайшоў, як сам казаў, агонь, ваду і медныя трубы, таму ўсяляк стараецца разлегчыся на маме, чаго б гэта яму ні каштавала: учапіўся нават за яе валасы, а маці, відаць, так вельмі балюча — яна ажно стогне…

Назаўтра Арцёмка прыбег у бібліятэку № 6, што побач з іх домам, і, павітаўшыся, запытаў:

— У вас ёсць часопісы з машынкамі?

Яму падалі цэлы стосік такіх часопісаў.

6

Гэта добра, што бойфрэнд Калян праспаў, а то былі б часопісы. Вяртаючыся дадому, Арцёмка разважаў так: «Зараблю грошай на білет да дзядулі з бабуляй, наемся марожанага і накупляю сабе машынак. Ура!»

А потым яго сустрэла маці, пераапранула ў рыззё, паклікала бойфрэнда Каляна, які курыў на кухні:

— Мы гатовы!

Праз увесь горад ішлі пешкі па вядомай прычыне.

— А назад, Арцём, прыкацім на таксі! А? — штурхаў таго ў бок бойфрэнд Калян і сам радаваўся, нібы дзіця.

На таксі? Ого, на таксі! Хлопчык ніводнага разу не ехаў на ім, таму дабаўляў кроку. Ну дзе ён, той падземны пераход, калі будзе? Дзядуля з бабуляй, марожанае, машынкі і таксі... Хутчэй бы! Як гэта было б цудоўна, каб усё спраўдзілася!..

Перш чым пасадзіць Арцёмку каля сцяны на сярэдняй прыступцы, бойфрэнд Калян пачапіў яму на шыю кавалак кардонкі ад скрынкі, у якой прадаюць звычайна марожаную рыбу. На ім было напісана: «Людзі добрыя, памажыце! Я цяжка хворы. На лячэнне патрэбны грошы. Дзякуй».

Бойфрэнд Калян пахваліў сам сябе:

— Кардонку я прыдумаў у самы апошні час. Так што табе і гаварыць нічога не трэба. Сядзі і жаласліва толькі вачыма лыпай, крыві морду. Будзь артыстам, Арцём. У жыцці спатрэбіцца. Трэніруйся. Бачыш, і руку працягваць таксама не трэба… Шапка для чаго? Мух лавіць? Э-не, не думай, мы таксама можам шурупіць: у маёй галаве не абы што, а сам каледж!.. То-та ж!.. Займай сваё месца, а я тым часам адлучуся — каб вочы не мазоліць. Ага, пачакай! Забыўся сказаць. Як толькі ў шапцы засвецяцца дзяржзнакі, хутчэй засоўвай у адну і тую ж кішэнь. Так надзейней будзе. Каб я не аблапліваў цябе ўсяго. Але на дне ў шапцы пакідай — для прынады. Ну, працуй!..

Арцёмка застаўся адзін. На вочы, каб не сустракацца з людзьмі, якія шнуравалі ўверх-уніз па даволі крутых прыступках, ён насунуў старэнькую зашмальцаваную бейсболку і таму бачыў толькі ногі прахожых. Абутак вабіў яго. Прыгожы, у асноўным імпартны. «Мне б такі». Арцёмка паглядзеў на свае чаравікі, яны былі не толькі аблупленыя, але і прасілі кашы, таму ён спярша падкурчыў ногі, схаваў іх, каб людзі не бачылі, у што абуты, а тады толькі ўспомніў, для чаго тут сядзіць, і зноў выставіў напаказ чаравікі.

Першы час Арцёмка сядзеў нерухома, амаль не дыхаў, а толькі сачыў краем вока за шапкай. Туды — во дзівосы! — з чыёйсьці рукі,

на якой быў вялікі круглы гадзіннік, апусцілася першая паперка. Сто рублёў! Потым зноў сто, потым дваццаць, а крыху пазней нехта не пашкадаваў і пяцьсот… Настрой у хлопчыка ўзняўся, і ён рашыў не хавацца. Якраз тады, калі і задраў бейсболку, патрапіла яму на вочы Міронава. Арцёмка не разгубіўся, хуценька сцяміў, што да чаго, і зноў насунуў бейсболку на лоб.

— Не хавайся, Арцём, я цябе пазнала, — Міронава сама задрала яго бейсболку, і яны доўга глядзелі адно аднаму ў вочы.

Арцёмка для прыліку кашлянуў, пацікавіўся:

— А ты што тут робіш?

— Да бабулі прыязджала. Яна жыве ў гэтым раёне. Маці купіла ёй лекі, дык я адвезла. А ты што, сапраўды хворы, Арцёмка?

«Прычапілася гэтая Міронава!» — падумаў хлопчык, а дзяўчыне сказаў коратка і зразумела:

— Так трэба. І больш нічога не пытайся. А калі хочаш сказаць у класе, што я выпрошваў грошы, дык скажы. Я не баюся. Бо не краду ж я. Гэта каб краў, тады іншая справа!..

Праз паўзу Мітронава паабяцала:

— Я нічога не скажу.

— Слова?

— Слова.

— Глядзі ж!.. А цяпер ідзі, не перашкаджай мне…

Міронава адышла на колькі крокаў, а тады хуценька вярнулася і кінула ў шапку грашовую паперку. Арцёмка запратэставаў, але дзяўчынка вокамгненна знікла. На ўсялякі выпадак, ён запомніў, што то былі пяцьсот рублёў, узяў іх і паклаў у кішэнь, што мелася ў кашулі. Ды дзе там! Адкуль і ўзяўся бойфрэнд Калян!

— Я за табой даўно сачу, думаеш, не? — ён быццам лёгенька дакрануўся да вуха, але тузануў так, што хлопчык ажно войкнуў. — Гэты нумар не пройдзе. Чаму піхаеш грошы ў розныя кішэні, а? Я што табе казаў? Адказвай!

Арцёмка растлумачыў, што гэта была аднакласніца, а з яе ён узяць грошы не можа, таму паклаў асобна, каб потым вярнуць.

Бойфрэнда Каляна такі адказ не задаволіў:

— Будзеш тут мне сартаваць людзей на сваіх і чужых, нахабнік! Усе грошы ў кучу, і ніякіх размоў. Зразумеў? — ён вычысціў кішэні ў малога і моўчкі знік.

Арцёмка ж працягваў сядзець перад шапкай ў падземным пераходзе, калі перад ім з’явіўся віславухі сабачка з доўгай бруднай шэрсцю. Сабачанё панюхаў грошы, што ляжалі ў шапцы, а тады паглядзеў на хлопчыка: іх позіркі сустрэліся. Арцёмка нічога не сказаў, адно што паказаў няпрошанаму госцю язык, але і гэтага было дастаткова таму, каб зразумець: з гэтым хлопчыкам можна мець справы, і бяздомны сабачка прытуліўся да нагі Арцёмкі, затым лёг, выцягнуўся на ўсю сваю даўжыню. Хлопчык хацеў спярша сказаць сабачку, каб ішоў прэч, бо ад яго непрыемна пахла, але пашкадаваў: дзе ж ён сам цяпер адмыецца, калі на ім столькі бруду. А ўслых сказаў:

— Пачакай трошкі. Потым пойдзеш са мной, да копанкі. Бачыш, колькі ў мяне грошай? А яшчэ ў кішэні ёсць. Хопіць і на мыла, і нам з табой паабедаць. Толькі каб Калян не забраў грошы, бадзяецца недзе… То і добра. Ну дык што, пайшлі, можа, ці як?

На здзіўленне Арцёмкі, сабачка паслухмяна падняўся і, не зводзячы вачанят з хлопчыка, цяпер ужо нібы падганяў яго: маўляў, ну паказвай, куды ісці, у які бок… Арцёмка згроб грошы, а шапку засунуў пад сарочку. Яшчэ раз на ўсялякі выпадак паглядзеў па баках — Каляна не было відаць, і гэта добра. Але ўсё роўна трэба было спяшацца.

— За мной, дружок!

Сабачка зачыкільгаў за Арцёмкам, падмятаючы дарогу. Калі прайшлі трохі, хлопчык азірнуўся на тое месца, дзе сядзеў: ціха. Значыць, рашыў Арцёмка, Каляну і ягонай маці хапіла тых грошай, што ён сабраў раней, каб наогул забыцца пра яго. Выдатна. Цяпер ён — самастойны чалавек, амаль дарослы. Застаецца толькі палічыць грошы, каб потым разумна іх патраціць. Праўда, планы крыху памяняліся. Калі раней ён не думаў купляць мыла і ежу для сабакі, то цяпер давядзецца. Аднак гэта не бяда. Галоўнае, каб

хапіла на білет у вёску. Машынкі, калі на іх не застанецца грошай, пачакаюць. І марожанае пацярпіць.

Грошы лічыць у людным месцы Арцёмка пабаяўся, мала што, таму ён выбраў дзіцячы садок, там шмат кустоў, у адзін з іх яны і зашыліся.

— Сядзі ціха, — папярэдзіў хлопчык сабачку. — Пачакай, а як цябе зваць?

Сабачка ціхенечка праскуголіў, лізнуў Арцёмку ў шчаку.

— Ну-ну, я да такога не прывык, — адмахнуўся хлопчык і выцер краем кашулі тое месца, куды лізнуў яго сабачка. — А сябраваць будзем. Бачу, ты добры, спагадлівы. Толькі без імя жыць нельга. Хочаш, я назаву цябе… Як жа мне цябе назваць, дружок? Пачакай! А так і будзь — Дружок! Я прыдумаў! Ты згодны, Дружок?

Сабачка адказаў:

— Гаў!

— Малайчына. Цяпер не перашкаджай мне лічыць грошы. Маўчок. — Арцёмка доўга лічыў грошы, фасаваў іх па кішэнях, аднак ад Дружка тайнаў не меў: — На мыла хопіць. Трэба недзе і нажніцы дастаць, каб тваю шэрсць абрэзаць, бо яна ж нікуды не вартая. Ды і што пра мяне падумаюць людзі? Скажуць, я ж ведаю: які ж гультай, які ж абібок гэты хлопчык, што ідзе з вунь з тым сабачкам! Няўжо ён не выбера часу, каб прывесці і сабачку ў больш-менш прывабны стан, каб прыдаць яму належны выгляд? Сорам які, сорам!.. Вось толькі ж дзе нажніцы ўзяць? Грошы ёсць, не пярэчу, аднак распылім, што тады? Гэта каб нам тыя нажніцы былі патрэбны кожны дзень, я б не пашкадаваў. Але што-небудзь прыдумаем. Спярша — на копанку, я ведаю, дзе яна, а па дарозе купім мыла. На другое ў нас — абед. І правільна! За стол жа з бруднымі рукамі садзіцца нельга. Я ўвесь час хацеў адмыць свае рукі, асабліва ўлетку, калі не трэба хадзіць у школу, але ў нас вечна не было мыла. А потым я, скажу табе па сакрэце, Дружок, узяў кавалачак у школьным мыцельніку, ім і карыстаўся. Памыюся — і схаваю, памыюся — і схаваю. Уго, каб бачыў мыла Калян! На яго рукі тона мыла патрэба! Ого!.. Ну ды што гэта я? Пайшлі, пайшлі, Дружок!

пахваліцца сваім госцем. Абавязкова. У старога ад сяброў таямніц няма. Ага, вунь і Юрка, Вуллянін унук, якраз шыбуе. Дзед Аўгей паклікаў яго, падаў, як даросламу, руку, а тады папрасіў, каб той неадкладна наказаў Петрыку, Лёньку і Сашку, што ён чакае іх каля свайго двара.

— Сюрпрыз у мяне для вас маецца, хлопцы, — як заўсёды, загадкава паглядзеў на Юрку стары. — Бяжы, кліч іх да мяне, Юрка. Цікава будзе. Не пашкадуеце. Яшчэ і дзякуй, можа, скажаце за мой чарговы для вас сюрпрыз.

— Я хутка, дзед Аўгей! — паабяцаў Юрка і памчаў усцяж вуліцы.

Юрка імгненна выканаў просьбу дзеда Аўгея, і неўзабаве хлапчукі асцярожна, не падаючы голасу, ішлі за ім па падворку да шчылінкі — у дошцы якраз выпаў сучок, — і таму добра быў бачны праз яе буслік.

— Толькі ціха, не спужайце, — паўшэптам папярэдзіў дзед Аўгей. — Дазваляю кожнаму ў дзірачку паглядзець на бусліка, не больш. Няхай рыбіну з'есць замест мяне. Так-так, сваю аддаў. Ці есць ён яе там, а? Мо грэбуе? Гляньце там...

Лёнька ўхітрыўся першым прыпасці да дзірачкі ў дошцы, таму паведаміў:

— Не, здаецца. Так стаіць... Не есць...

— Дазвольце мне! — папрасіў дзед Аўгей, каб яго прапусцілі бліжэй да паркана, а калі паглядзеў у дзірачку, весела адзначыў: — Была рыбка! З'еў! Ну і на здароў'е!..

Паназіраўшы за буслікам, выйшлі на вуліцу. Стары сеў на сваё законнае месца на лаве — пасярод, — а з двух бакоў яго абляпілі хлапчукі.

— Ну, што будзем рабіць, сябры? — першым парушыў маўчанне дзед Аўгей. — Спярша, канешне, нам трэба прыдумаць, як назваць бусліка.

— А няхай будзе проста Буслік! — прапанаваў Петрык.

— Я згодны! — падтрымаў Сашка.

Ну калі і Сашка пагадзіўся, то нічога не заставалася рабіць Юрку і Лёньку: Сашка — аўтарытэт. Але што скажа дзед Аўгей? Ён сказаў:

— Прымаецца. Так, пойдзем далей, сябры. Буслы любяць жаб і рыбу. З жабамі пачакае наш Буслік, мы іх лавіць не ўмеем, а вось рыбу для яго давядзецца нам вудзіць на сажалцы. Згодны?

Ён, дзед Аўгей, яшчэ і пытае!

Уго колькі рыбы кожны дзень прыносілі Бусліку хлапчукі! Нават дзед Аўгей юшку гатаваў для сябе і смажыў колькі разоў. А сам тады, ласуючыся, жартаваў:

— Дзякуючы яму, Бусліку, і я сыты.

Буслік неўзабаве асвойтаўся на паселішчы дзеда Аўгея, пасмялеў, абцёрся, і калі прыходзілі хлапчукі з рыбай, то ён ужо не баяўся іх, а смела браў пачастунак з рук хлапчукоў. Яны ледзь не біліся — кожны стараўся першым парадаваць Бусліка.

Пазней дзед Аўгей забедаваў:

— Усё гэта добра, сябры мае... Але ж жнівень заканчваецца, школа блізка... разлеціцеся вы па сваіх гарадскіх кватэрах. А як нам быць з Буслікам, не параіце? Сашка, ты як старэйшы даведайся там, у горадзе, ці прымаюць дзе такіх вялікіх птушак, як наш Буслік? Бачыце, падрос як, крыло зажыло, лётаць спрабуе... Але ж куды ён паляціць перад зімой? Ды і дзе ж я яму рыбы набяруся? Акрамя таго, у маім хлеўчыку Бусліку, мусіць жа, холадна будзе. Пацікаўся там, у горадзе, Сашка, мо ёсць дзе які-небудзь прытулак для такіх бедалаг, як наш Буслік?

Сашка паабяцаў даведацца.

— І я магу таксама, — сказаў Юрка.

— І я, — шмыгнуў носам Петрык.

Дзед Аўгей пахваліў хлапчукоў, а потым паклаў руку на плячо Лёнькі:

— Мы з Лёнькам сталыя вясковыя жыхары, таму ў горадзе можаце жыць спакойна: Бусліка ў крыўду не дадзім. Так, Лёнька?

— Ага!

Увосень, калі пажаўцела на дрэвах лісце і пачало, нібы на парашуціках, падаць долу, каля хаты дзеда Аўгея спыніўся легкавік. З яго выйшлі два чалавекі ў вайсковай форме, павіталіся са

старым, а потым той, які назваўся супрацоўнікам міністэрства па надзвычайных сітуацыях, папрасіў:

— Ну, паказвайце нам свайго госця.

— Паказаць можна, але ж... — стары занерваваўся, замітусіўся, не ведаў, куды падзець рукі, пакруціў галавой, — але ж... ага... — вытрымаўшы паўзу, ён гучна сказаў: — Ды прывык я да Бусліка, прывык! Верыце?

— Верым, — спакойна сказаў супрацоўнік міністэрства. — І дзякуй вам вялікі, што не пакінулі ў бядзе птушку.

Дзед Аўгей прыняў падзяку, але заўважыў:

— І хлопцаў, сяброў маіх, у тым заслуга. Так і запішыце. Сашкі, Юркі і Петрыка, якія вам тэлефанавалі, і Лёнькі. Для мяне аднаго такой пахвалы зашмат.

— Так-так, і хлопцам дзякуй! — знайшоўся супрацоўнік міністэрства. — А бусла перададзім у царкву архістратыга Міхаіла: там цэлае птушынае царства.

Буслік доўга глядзеў сумнымі вочкамі праз шкло легкавіка на дзеда, да якога таксама моцна прывязаўся, і стары не вытрымаў, пусціў слязу. Лёнька таксама хлімкаў.

Узімку прыехалі на выхадныя ў вёску Сашка, Петрык і Юрка. Першай справай прыбеглі да дзеда Аўгея. Адразу ўспомнілі, вядома ж, пра Бусліка.

— Мы яго наведваем, яму там добра, — хваліўся Сашка. — Ён вам, між іншым, нават прывітанне перадае...

— Ну-ну, жартаўнікі, — усміхнуўся дзед Аўгей. — А вось я яму і сапраўды прывітанне перадам, — стары вынес з кладоўкі торбачку. — Рыба тут. Яе мы з Лёнькам налавілі. Думаеце, у шапку спалі, пра Бусліка не думалі? Як жа! Яшчэ як думалі. Прабілі пельку ў лёдзе, закінулі вуду — і парадак!.. Трымай, Сашка, гасцінец для Бусліка. Ад усіх нас. І вось яшчэ што, сябры мае: хутка ж вясна, вернуцца з выраю бацькі Бусліка, яны будуць чакаць сустрэчы з ім... Трэба ж будзе неяк зладзіць ім сустрэчу, а? Родныя ж яны душы, птушкі гэтыя... Як і людзі. Цягнуцца, пэўна ж, свае да сваіх...

Пастарайцеся, хлопцы, там, у горадзе... Прывезці б Бусліка да бацькоў... каб тыя хоць глянулі на яго... каб пераканаліся, што людзі ў бядзе не пакінулі, прыгарнулі да сябе, абагрэлі... Ну дык як?

Сябрукі паабяцалі дзеду Аўгею выканаць ягоную просьбу.

А гасцінец спадабаўся Бусліку. Ён з’еў колькі рыбін, а потым, пачасаўшы дзюбу аб пер’е, адышоў убок — каб і іншыя птушкі, што жывуць побач з ім, пачаставаліся.

Калі гасцінец ад добрых людзей, то яго ўсім хопіць.



# Дзіцячае шампанскае, альбо Пазакласны ўрок

П’еса ў дзвюх дзеях

## Дзейныя асобы

Арцём, Захар, Ленка — дзесяцікласнікі.
Карэткін, бацька Арцёма.
Баброва, маці Захара.
Маставая, класны кіраўнік.
Князева, медсястра выцвярэзніка.
Сцізорык, лейтэнант міліцыі.
Калюжны, прадстаўнік завода безалкагольных напояў.
Хурсанава, дырэктар школы.
Дзяжурная.

*Наш час. Месца дзеі — выцвярэзнік, гарадская вуліца і школьны клас.*

### Дзея першая

...Усё мацней і мацней наплывае шум вячэрняга горада. Гудуць аўтамашыны. Смех людзей. Крыкі аб дапамозе. Сірэны спецаўтамашын — яны спяшаюцца на дапамогу людзям, што трапілі ў бяду. Магчыма, недзе здарыўся пажар, некаму патрэбна медыцынская дапамога, а гэта — пагоня за парушальнікам дарожнага руху, бо чуваць патрабавальны голас даішніка: «Вадзіцель "Аўдзі", спыніцеся! Вадзіцель "Аўдзі"!..»

У жыццё вячэрняга горада ўрываецца размова: «Я — сёмы! Я — сёмы!» «Слухаю, сёмы...» «Прышліце транспарт на вуліцу Савецкую, да старога ўнівермага... Неабходна даставіць у выцвярэзнік новага кліента...» «Вас зразумеў. Не жанчына, часам?» «Не!» «Дзякуй богу! Выязджаем!..»

Гудуць аўтамашыны. Смех людзей. Крыкі аб дапамозе. Сірэны спецаўтамашын...

Пакой у выцвярэзніку. Тры ложкі, акуратна прыбраныя. Сцізорык прыводзіць Карэткіна. Той у такім стане, у якім і трапляюць у выцвярэзнік.

Карэткін *(спявае).* «А я лягу-прылягу... край гасцінца старога!..» Стоп, прыехалі!.. Мы прыехалі, начальнік? Сцяна ж!.. Тупік!.. Далей транспарт не ідзе!..

Сцізорык. Спакойна, спакойна!.. *(Падтрымлівае Карэткіна.)* Трымацца!.. Стаяць!..

Карэткін. Я, між іншым, калі гэты выцвярэзнік адкрывалі, запускалі ва ўрачыстай абстаноўцы яго першую лінію, стужку пераразаў! О! І першым заходзіў!.. Пра гэта яшчэ ў газетах пісалі. Вы што, газет не чытаеце? Прозвішча маё — Карэткін!

Сцізорык. Чытаю, чаму ж... Але пра такую значную падзею — не, не давялося. Прамашка атрымалася. Аднак зайздрошчу вам.

Карэткін. Ведаць трэба!.. «А я лягу... прылягу...» Прыбылі нашы з вамі!.. Га?..

Сцізорык. Ветэран, значыць, выцвярэзніка?

Карэткін. Яшчэ які ветэран! Ого! Усім ветэранам ветэран, аднак!.. Хаця і не магу зразумець, чаму я тут? Навошта? З якой нагоды? Ну той раз, відаць, не было каму стужку перарэзаць. А сёння? Вы, бачу, без мяне і дыхнуць не можаце?..

Сцізорык. Адпачніце, таварыш Карэткін... Паспіце ў чыстым, у цёплым... Вы ў нас — ганаровы грамадзянін выцвярэзніка, аказваецца... З такім чалавекам пашанцавала мне сустрэцца!.. Ці мог я думаць раней, паступаючы сюды на службу, што звядзе нас лёс?

Карэткін. Ды жартую я, жартую, таварыш начальнік: першы, першы раз сюды трапіў! Ну з кім не бывае? Для чаго тады выцвярэзнікі, для чаго тады вы?.. Хто каго корміць?

Сцізорык. Першы ці другі — няважна... А заўтра раніцай пойдзеце дадому...

Карэткін. Хто — я?

Сцізорык. Вы, вы...

Карэткін. Начальнік!.. Ты што, хочаш сказаць мне, Карэткіну, марскому пехацінцу, што я п'яны? Га?

Сцізорык. Не, не, што вы: я хачу сказаць вам, шаноўны, што вы проста стаміліся... і таму прылеглі прама на тратуары адпачыць...

Карэткін. Гэта... гэта... прымаецца!.. Так і было на самай справе!.. А ў вас куды падаць?

Сцізорык. Выбірайце любы ложак. Іх тут тры.

Карэткін. Тры? Пачакай, начальнік... Не хлусі, аднак!.. «Тры». Іх тут шэсць! Шэсць! *(Лічыць.)* Раз, два, тры, чатыры... Калі не сем... Добра, лягу... Няхай будзе па-вашаму... Але трэба так пацэліць, каб на два ложкі не легчы... адразу. А то разарвуся, як чарвяк... Ты рыбак, начальнік?

Сцізорык. Рыбак, рыбак. Ловім такіх тунцоў, як вось вы.

Карэткін. А я не. Не рыбак. Грыбнік я!.. Паважаю ўсіх, хто ў капелюшы!.. *(Нарэшце распрануўся, адзенне склаў на табурэт.)*

Сцізорык. Хоць вы і не рыбак, але я вам усё роўна дапамагу ўладкавацца ў нас на начлег.

Карэткін. Зрабіце добрую справу, начальнік... Во дзякуй... *(Лёг.)*

Сцізорык. Адпачывайце.

Карэткін. Спакойнай ночы, алкашы! Так?

Сцізорык. Так, так. Малайчына. Баю-бай.

Карэткін *(устаў)*. Не гані мне калыханку, начальнік!.. Я з дзіцячых штаноў даўно выкарабкаўся!.. Выключы святло, эканом энергію!.. Нам яна даецца няпроста!.. Чарнобыль вухнуў, мазут замазуцілі недзе ў Расіі...

Сцізорык. Святло будзе гарэць усю ноч. Так павінна быць. Спаць!

Карэткін. На тым свеце выспімся... Дай пагаманіць з разумным чалавекам... Калі яшчэ такое будзе?.. А ведаеш, мне і пагаварыць няма з кім...

Сцізорык. Як гэта няма? Сям'я ж ёсць?

Карэткін. О, сын у мяне выдатнік! Камп'ютар яму купіў. Што, не верыш? Мазалём зарабіў!.. І не прападзём мы з Арцёмам!.. Сёння ў яго якраз дзень нараджэння быў... Але адзнач, начальнік: піў толькі я... адзін... ім торт купіў і дзіцячае шампанскае... А вось куды мяне пасля панесла — не помню... Ну я мужык усё ж... Можа, і да

дзяўчынак пацягнула! Але не дайшоў... выдыхнуўся... не дацягнуў, атрымліваецца, да канчатковага пункта... А што ты ўвогуле ведаеш пра маё жыццё, начальнік?

Сцізорык. Усё! Размова закончана! *(Укладвае Карэткіна сілком у пасцель.)* Спаць, спаць, спаць!..

Карэткін. Здаюся, добра. А... а спяваць можна, шэф?

Сцізорык. Спяваць будзеце заўтра раніцай. Як праспіцеся. Я з задавальненнем тады вас паслухаю... *(Выходзіць.)*

Карэткін. А ты інтэлігентны чалавек, начальнік. Мяне на «вы» мала хто і называў калі. А спяваць не забароніш мне! Я цяпер прагну!.. У сына, у Арцёмкі, сёння дзень нараджэння! Заўтра будзе позна! Не ў час лыжка па абедзе!.. Га? Як? Сэнс ёсць? Тым больш ваенна-патрыятычныя песні!.. Што, кампазітары іх дарэмна складалі? «Легендарный Севастополь, город русских моряков... Севастополь, Севастополь, непреступный для врагов... Севастополь, Севастополь, гордость русских моряков...»

З'яўляюцца Арцём і Захар, за імі ідзе Князева.

Князева. Прымайце папаўненне, таварыш дзед!

Карэткін. Заўжды гатовы! Па першым закліку!.. Дзе яны, арлы?

Арцём і Захар абняліся, падтрымліваюць адзін аднаго.

Арцём. Мы ж тут былі нядаўна на экскурсіі. Захар, скажы?

Захар. Правільна! Былі! Усім класам!

Арцём *(ікнуў)*. З класнай. З Наталляй Уладзіміраўнай.

Карэткін. Сынок! Арцёмка-а! Якім ветрам?

Арцём. Тата?!

Карэткін. Я! Я! Сынок!.. Крывінка мая ты!..

Арцём. Ну прывітанне, бацька!.. *(Абняліся.)*

Карэткін. Здароў, сынок!..

Захар. А майго тут няма? Нешанцуха. Няма з кім абняцца.

Князева. З падушкай. З падушкай абнімешся. Хопіць братацца. Кладзіцеся спаць.

Карэткін. Я ж сына сустрэў... медсястра. Ты ж жанчына, павінна зразумець, увайсці ў маё становішча.

Князева. Ды куды ж ужо больш уваходзіць!..

Арцём. А ты, бацька, што яшчэ піў сёння пасля святочнага стала?

Карэткін. Віно. Віно, сынок. А-а, ты не бачыў... І добра. Малайчына. Так і павінна быць. Я заўсёды, калі мне захочацца выпіць, п'ю так, каб ты не бачыў...

Захар. А мы — толькі шампанскае!

Арцём. Ён не хлусіць. Таварышы, ён не хлусіць. Мы пілі шампанскае. Дзіцячае.

Князева. Хто вам паверыць, маладыя людзі?

Арцём. А я кажу: шампанскае!

Захар. Дзіцячае.

Князева. Бутэлька сапраўды была у іх з-пад дзіцячага шампанскага, але пахне... пахне... дакладней сказаць, смуродзіць незразумелым, але моцным напоем... з рыльца... калі панюхаць... Можна згубіць прытомнасць, калі доўга тую бутэльку будзеш трымаць паблізу ад носа.

Карэткін. Сынок! Як я рады нашай сустрэчы!

Арцём. І я, татуля!.. *(Зноў абдымаюцца.)*

Князева. Ай-яй-яй!.. Няма каму вас біць!.. І бацьку, і сына!.. Куды, цікава, маці глядзіць?

Захар. Мы пілі, яшчэ раз заяўляю, дзіцячае шампанскае.

Карэткін. Пацвярджаю: яны пілі шампанскае...

Арцём. Без градусаў якое. А чаму сюды трапілі, дык гэта таму, што вы нас забралі, каб выканаць план, няйначай. У газеце так чытаў... «Джымінь Джыбаў». Прылегчы можна?

Карэткін. Во! Я ж і кажу: ён у мяне выдатнік. Толькі па спевах нізкая адзнака. Не любіць спяваць... Бо — не да песень нам... Ага.

Князева. Распранайцеся ўсе. І — спаць!..

Арцём і Захар распранаюцца. Доўга і марудна. Сын з бацькам яшчэ раз абдымаюцца перад сном...

*Зацямненне.*

Раніца наступнага дня. Спярша прачнуўся Арцём, за ім — Захар.

Арцём. Замуравалі!

Захар. Дзе мы?

Арцём. Зараз даведаемся. *(Выходзіць.)*

Захар *(яму захацелася ў прыбіральню, скача то на адной назе, то на другой).* Ёлкі-палкі!.. Дзе тут што?!.. Ані, бэні, тры Аўдзея, мы ў лесе злавілі ліхадзея... Вой-й-й!.. *(Выбягае.)*

Карэткін *(асцярожна выцягвае галаву з-пад коўдры).* Божа! Дзе гэта я? Дома? *(Аглядаецца вакол, узнімаецца.)* Не, аднак!.. Але дзякаваць богу, што жывы!.. А то прыснілася ж!.. Быццам там... На тым свеце... І чарга-а-а!.. Па знаёмстве некаторыя і там ў пекла лезуць. Пруцца, як мухі на мёд... «Я ад Івана Іванавіча! Я ад Сцяпана Сцяпанавіча!» Грошы таму, што на дзвярах стаіць, сунуць, куды толькі можна... Нават у рот напіхалі... болей ужо і няма куды... А ён, нягоднік, бярэ, бярэ, топча!.. Дзякуй, прачнуўся... Нацярпеўся страху, аднак... Фу-у! Дык гэта я што, учора напіўся? Людзі, шаноўныя мае, хто мяне ўчора і дзе бачыў у такім стане, што я ажно ў пекла лез, а мяне нават і туды не пусцілі? Ідзі, кажуць, праспіся, спадар, такіх не бяром, у нас па такіх, як ты, на гэты час план выкананы... І быццам нагой пад зад мяне... Выспяткам... Я і выпырхнуў, бы з катапульты, з таго свету... Хто пацвердзіць, ага, таму нічога не будзе. Няма, няма такіх... Папытаю яшчэ ў бабак, што на лаве перад пад'ездам сядзяць... Тыя ўсё ведаюць... усё бачаць... Тады, можа, ёсць сярод вас тыя, з кім піў? Падыміце, падыміце рукі, не саромейцеся... справа жыццёвая... І такіх няма... Няма... Адзін жа я не п'ю быццам... па суботах... Трэба ў кожнай чарачнай, куды нас, мужчын, нячыстая іншы раз заносіць, наліваць у такі посуд, каб толькі глянуў хоць адным вокам нат, а на дне.... на самым дне — партрэт тваёй жонкі... ці нават цешчы, калі ў каго жонкі няма... з качалкай ці з ручніком.... грымаса вядомая... І ты адразу — прэч з той забягалаўкі, толькі пяткі твае і бачаць... Людзі!.. Дзе вы?.. А-у!.. Яны, людзі, недзе за гэтымі сценамі, далёка, тады навошта я да іх звяртаюся? Хіба ж пачуюць? Ой! Галава баліць. Калі, бывае, п'ю — баліць толькі яна... галава. А не п'ю — усё. І ногі, і рогі, і тут, і там... Апахмяліцца б? Аднак у гэтай установе не дадуць... Ды куды ж піць? Заўтра на працу трэба... Нельга, аднак!.. На тое, кажуць, і мужык— каб перахварэць...

Голас Арцёма. Я хачу да-до-му!..

Голас Захара. І я туды ж-ж-ж!..

Карэткін *(пачуўшы голас сына, ажно прысеў).* Сын?! Арцём?! А ён што тут робіць?! Дзівосы-непаразуменні, аднак!.. Сорам які!.. Сорам!.. *(Схаваўся пад коўдрай.)*

Заходзяць Арцём і Захар.

Захар. Усё, цяпер пачнецца... І школа, і бацькі... Дадуць адлуп. Дадуць.

Арцём. Ды мы ж нічога не рабілі!..

Захар. Толькі выпілі...

Арцём. А хто цяпер не п'е?

Захар. Правільна. Але стружку здымаюць заўсёды з тых, хто трапляе ў выцвярэзнік. Неабавязкова і сюды — з тых здымаюць стружку, хто пападае пад гарачую руку. Кых-бых! Бах-трах!.. На, атрымлівай!.. *(Прадэманстраваў.)*

Арцём. Дарослым. Хто трапляе пад гарачую руку дарослым.

Захар. Так. Ім.

Арцём. Дарослым — добра. Хутчэй бы вырасці. Вунь, глянь, мужык пад коўдрай клапа душыць. Што з яго возьмеш?

Захар. Сам сабе начальнік. А тут зараз пачнецца!..

Карэткін крэкнуў.

Арцём. Спіць. У яго, відаць, таксама дзеці ёсць, жонка...

Захар. А помніш, мы з табой неяк красворд разгадвалі...

Арцём. Разгадвалі. Часта. Чаму ты раптам пра красворд успомніў?

Захар. Там трэба было адгадаць слова з пяці літар, якое павінен ведаць кожны, хто выпівае. Помніш?

Арцём. Тое слова назваў ты: норма.

Захар. І як мы пра тое слова забыліся?

Арцём. Я першы раз у жыцці напіўся.

Захар. А я другі, ці што? Можна падумаць!..

Арцём. Паслухай, а дзе Ленка?

Захар. Не помню... Яна з намі была да канца?

Арцём. Ну ты гнеш!.. Яна ж твая!.. А я павінен помніць...

Энергічна заходзіць Баброва.

Баброва. Пусціце мяне! Дзе яны тут, неслухі? *(Стала перад Захарам, прыняла ваяўнічы выгляд.)* Ну?!

Захар. Ну.

Баброва. Я ў цябе пытаю...

Захар. Пытай...

Баброва. Добра пачынаеш жыць!.. Яшчэ вусы пад носам не выраслі, а ты ўжо трапляеш туды, дзе твой бацька, дарэчы, ніводнага разу не быў.

Арцём. І мой, здаецца… Не чуў...

Захар. Ну выпілі...

Баброва. Выпілі! Як жа так можна?! Яны выпілі! Героі! Вы бачылі іх! Збірайся дамоў!

Захар. Адзін не пайду...

Баброва. Аднаго цябе і не адпусцяць. А я на рабоце павінна хлусіць, што мне трэба ў паліклініку! Ты так разумееш мае жыццёвыя прынцыпы. А калі мне сапраўды трэба будзе ў тую паліклініку, гары яна гарам? Што тады? Ну чаму стаіш, шалапут?

Захар. Я ж сказаў, здаецца! Адзін я не пайду...

Баброва. Пойдзеш са мной. Пад канвоем. Дажыўся!..

Захар. Арцёма што, аднаго пакіну? Так?

Баброва. У Арцёма ёсць свае бацькі, яны і разбяруцца. Ты за сябе адказвай.

Захар. Мы прыходзілі сюды разам, разам і пойдзем.

Арцём. Прыехалі. Мы прыехалі, здаецца...

Баброва. Добра, пачакаем. Заадно і з яго бацькамі пазнаёмлюся. Калі не могуць выхоўваць сына, няхай здадуць яго ў інтэрнат. Іншага выбару не існуе.

Захар *(абурана)*. Мама! Ты што гаворыш?

Баброва. А тое, што ўсе шкодныя звычкі ты пераймаеш менавіта ў Арцёма. Раней жа ты такім не быў.

Захар. Арцём, ты не слухай... я прашу цябе... І я не буду!..

Арцём і Захар затуляюць вушы рукамі. Баброва ў руху. Эмацыйна вядзе выхаваўчую размову, аднак тыя яе не чуюць.

Захар. Усё ў цябе?

Баброва. А-а, табе гавары не гавары!.. Дарэмны занятак!.. Ну дзе яго бацькі? Дзе яны? Што, у каналізацыю праваліліся?

Захар. Арцёма?

Баброва. А то каго ж?!..

З'яўляецца Сцізорык.

Сцізорык *(Арцёму)*. Не адказвае ў вас дома тэлефон. Усю ноч званілі. І раніцай. Можа, выпадкова, мабільніка ў бацькі няма? *(Пацiснуў плячыма.)* Зразумела. Тады сядзі тут. *(Бабровай.)* А вы чаму дадому не ідзяце? Грошы заплацілі ж, здаецца? За камфорт.

Баброва. Квітанцыю я здала. Так, так: заплаціла. Але ж вось гэтыя не адпускаюць...

Сцізорык. Хто?

Баброва. Ну хто? Яны ж адзін без аднаго не могуць і кроку зрабіць. Спеліся!..

Арцём. Мама на дачы. Там няма тэлефона. А дзе бацька, я адкуль ведаю. Ён мне не дакладвае. Звaніце на хатні тэлефон... Раптам з'явіцца. Ці апусціце, я знайду яго.

Сцізорык. А разумнейшага ты не мог прыдумаць? Што ж, у такім выпадку я вымушаны патурбаваць школу.

Арцём. Толькі не школу! Прашу вас! Не трэба школу турбаваць! Навошта ўвесь гэты шум?

Сцізорык. А хто ж тады вінаваты ў тым, што вы тут аказаліся?

Баброва. Школа, толькі яна, школа! Мы ж, бацькі, нічога не шкадуем для сваіх дзетак! Усё найсмачнейшае, ўсё лепшае — ім!..

Захар. Мама!

Баброва. Ды замаўчы ты! Дай выказацца! І дома рот затыкаюць, і тут!..

Захар. Пры чым тут школа? Калі мы самі вінаватыя. Школа мне шампанскае ў рот не ліла.

Арцём. І мне... не ліла таксама.

Баброва. Ну ні я ж!..

Захар. То бацькі Арцёма вінаватыя, то школа...

Баброва. А хто ж тады?

Арцём. Шукайце вінаватых... Вы — дарослыя, вы гэта ўмееце... Таварыш міліцыянер, выйсці можна?

Сцізорык. Прыбіральня — побач... калі ласка.

Арцём. А курыць там можна?

Баброва. Ну я што гаварыла? Арцём — курыць! Куды, куды толькі бацькі глядзяць? Ай-яй-яй!..

Захар. І мне выйсці трэба...

Баброва. А табе — навошта? Чаму маўчыш? Што за нагода такая?

Захар. Перакурыць...

Баброва. Божа!.. Што гэта робіцца? Дык ты што, і курыш у дадатак да ўсяго, што нарабіў?

Захар. Хіба ты не ведала?

Баброва. Не, шчыра прызнаюся! Усім, хто мяне чуе!.. Не ведала і ведаць не жадаю!.. Забараняю курыць табе, забараняю!..

Захар. Я ж з Ленкай сябрую. А яна — курыць. Ты ж бачыла.

Баброва. Бачыла. Ды што з таго? Курыць Ленка і няхай курыць!.. Бяды тае!.. А ты пачытай, пачытай, што на пачку напісана: курэнне небяспечна для здароўя.

Арцём. Удакладненне. Перад тымі словамі, якія назвалі вы, напісана: «Мінздраў папярэджвае...»

Баброва. Гляньце вы! Вучыць! Гэта ўсё, відаць, што ты і прачытаў за ўвесь вучэбны год... Мінздраў папярэджвае і гэтак далей... Увесь, так сказаць, рэпертуар!.. Ай-яй-яй!..

Захар. Няўжо ты думаеш, што калі твой сын сустракаецца з дзяўчынкай, якая курыць, то сын — не?

Баброва. Так і думала. Так і думала. І не інакш!..

Арцём. Дык дзе, таварыш начальнік, можна ў вас перакурыць?

Сцізорык. Пайшлі за мной.

Захар. Вось гэта сервіз!

Сцізорык, Арцём і Захар выходзяць.

Баброва *(услед)*. Пачакайце! Я ж ніколі яшчэ не бачыла, як мой сын курыць! *(Выбягае.)*

Паўза.

Карэтнік *(выцягвае галаву з-пад коўдры, спаўзае на падлогу)*. Божа! Вось гэта трапіў дык трапіў у пастку! І што ж цяпер рабіць? Прызнацца, што я той, каго шукаюць? Што я — бацька Арцёма? Дык ці не позна? І чаму я адразу гэтага не зрабіў? Дурань, ну дурань я!.. Ды і мне ж перакурыць трэба!.. Каб жа толькі перакурыць!.. Ага! Ручнік! *(Хапае ручнік, абвязвае ім галаву, выходзіць.)*

З'яўляецца Баброва.

Баброва. Курыць! На самай справе курыць! Не хлусіў, блазнюк! Хоць нешта ў яго станоўчае, чалавечае засталося — праўду гаворыць. І як гэта мы з мужам упусцілі сына? Ды і хіба ж толькі мы? А вуліца? А школа? А такія, як гэты Арцём, у якога, калі трэба, ні маці, ні бацькі!.. Ён што, з неба ўпаў?..

Заходзяць Арцём і Захар.

Захар. Прысядзь, ты прысядзь, мама, на мой ложак.

Баброва. Твой ложак дома!..

Захар. Мая справа прапанаваць.

Баброва. Рана ты пачаў спаць не на сваіх ложках... на чужых.

Арцём. А навошта ім мой бацька? Усё роўна не знойдуць. Забярыце мяне, Аляксандра Макараўна! Забярыце! Не пакідайце мяне тут!..

Баброва. Ці мне пачулася? Паўтары, што сказаў.

Арцём. Забярыце мяне адсюль, Аляксандра Макараўна. Разам з Захарам.

Захар. Праўда, мама. Забяры нас.

Баброва. Якое нахабства! Якое!.. Залпам, з двух ствалоў б'юць па мне, па беднай маці!.. Ту-ту-ту-ту-у!.. Не возьмеце!.. Не дамся!...

Арцём. Цяжка зрабіць вам добрую справу для мяне, так? Раз у жыцці. Я болей ніколі нічога ў вас прасіць не буду. Абяцаю.

Захар. Мама, ну выручы ж ты чалавека.

Баброва. Ні за што! І не ўпрошвайце! Ні за што! Праз яго ж ты тут сядзіш, сынок!.. Як зразумець не можаш?..

Захар. Не пазнаю я цябе. Ты — нібы каменная скульптура... Ты ж не такая, я ж ведаю... Ты ж — добрая... Што з табой стала?

З'яўляецца, трымаючыся ўбаку ад прысутных і хаваючы ад іх твар у ручніку, Карэткін.

Захар. Што гэта ён? Пабілі яго, ці што?

Арцём. Дзядуля! Што з табой? Дзяду-ля!.. *(Карэткін моўчкі схаваўся пад коўдрай.)* Ён глухі ці як зразумець?

Захар. Нямы, відаць. Маўчыць — і няхай маўчыць. Мусіць, хутчэй за ўсё, яшчэ не праспаўся. А мы калі прыйшлі, ён тут быў?

Арцём. Спытай што-небудзь лягчэйшае.

Баброва. Той, пад коўдрай, — гэта вы, маладыя людзі, у старасці. Гэты выцвярэзнік стане, адчуваю, вашым родным домам. Паверце мне. Пачатак пакладзены. Старт узялі добры.

Захар. Думай, што гаворыш, мама.

Баброва *(строга)*. Пайшлі, кажу, дамоў! Мне на працу трэба! Я ўсяго на дзве гадзіны адпрасілася! У паліклініку!.. Ты будзеш слухацца мяне ці не? *(Цягне Захара, той упарціцца.)*

Захар. Сказаў жа, не пайду без Арцёма!..

Баброва. Тады сядзі тут і чакай, пакуль знойдуцца яго бацькі! Сядзі, сядзі, сынок! А я пайшла! Няма мне калі з табой тут бавіцца!.. *(Выходзіць.)*

З'яўляецца Князева.

Князева. Выспаліся, юннаты? *(Ёй не адказваюць. Штурхае Карэткіна.)* А ты колькі спаць будзеш? Шукай жонку ці каго, хай паклапоцяцца, каб ты мог пайсці дадому. Гэй, дзед! Чуеш? Каб праз пяць хвілін быў гатовы!.. Падымайся, падымайся! А вы, супчыкі? Што з вас возьмеш? *(Махнула рукой, выходзіць.)*

Арцём. А што такое юннаты, Захар?

Захар. Хто такія цімураўцы — ведаю, а юннаты — першы раз пачуў ад той цёткі ў белым халаце. Давай спаць?

Арцём. Ты спі, а я не магу. Ды і хіба тут дадуць паспаць?! *(Грукнуў кулаком па сцяне.)*

З'яўляецца Сцізорык.

Сцізорык. Бачу, няма чаго рабіць?

Захар. Падручнікі дома.

Арцём. Сшыткі — таксама.

Захар. Ручкі, алоўкі...

Арцём. Усё дома. Можа, адпусціце, таварыш начальнік? Урокі ж не зробім.

Захар. Хто за гэта адкажа?

Арцём. Няўжо вам ахвота браць на сябе... можна сказаць, камень з пятлёй на шыі?..

Сцізорык. Гаваркія, бачу. Таму я рашыў: пакуль урокі, пакуль тое ды сёе, павучыцеся ў маёй акадэміі. За мной!

Захар. Пачакайце, я спытаць у вас хачу... Можна?

Сцізорык. Слухаю.

Захар. А Ленкі з намі не было... ўчора? Рыжанькая такая... з мабілай.

Сцізорык. Не, вас прывезлі толькі двух.

Арцём. Успомніў! Ага! Яна ж заснула, а мы на вуліцу сунуліся... Во, успомніў!..

Сцізорык. Ну вось... Калі трэба, і самі ўспомніце... Мазгі для чаго?.. За мной, гвардзейцы!

Сцізорык, Арцём і Захар выходзяць. Карэткін зноў вылазіць з-пад коўдры, апранаецца.

Карэткін. А галава-а!.. (*Пахіснуўся, патрымаўся за лоб.)* Так, дзейнічаем хутка, энергічна!.. На флоце апранаўся за сорак пяць секунд... а тут хоць бы за столькі мінут апрануцца... *(У яго мала што атрымліваецца, ён нервуе, кідае адзенне на падлогу, падымае, зноў апранае...)* Скажы каму — не паверыць: спаў, як і дома, з сынам у адным пакоі... нават у выцвярэзніку. Сіла прыцягнення. Сямейная. А што будзе, калі ўсё высветліцца? А высветліцца абавязкова. Сорам!.. Расолу б!.. А ў горле-е!.. Сліна засыхае ў роце, як цэмент

на цагліне... Усё, больш не п'ю!.. Выйду адсюль, куфель піва — і завязваю... Бр-р! *(Галасы. Крокі.)* Ды каб ім!.. *(Зноў хаваецца пад коўдру і працягвае пад ёй апранацца, таму калі з'яўляецца Баброва, то яна доўга не можа зразумець, што ён там робіць).*

Баброва *(крэкнула)*. Э-э!

Карэткін *(не паказваючыся)*. Э-ге, э-ге.

Баброва. Дзе школьнікі?

Карэткін. Э-ге, э-ге.

Баброва. Так напіцца! Дровы!.. Сырыя дровы!.. *(Выходзіць.)*

*Зацямненне.*

Дзесьці паблізу шумная гарадская вуліца. Крыху ўбаку ад яе Арцём і Захар падмятаюць тратуар.

Арцём. Нас зневажаюць, а мы за сябе і пастаяць не можам. Крыўдна.

Захар. Чаму? Я, напрыклад магу. *(Гучна.)* Таварышы прахожыя! Звярніце ўвагу! Нас зневажаюць! Нас, хлапцоў, якім трэба не мётлы ў рукі даць, а камп'ютары! Мы можам узарваць любы банк у любой Амерыцы! Толькі там! Там грошай — ажно вывальваюцца з сейфаў! Па іх нагамі ходзяць!.. Топчуць!.. А мы п'ём дзіцячае шампанскае!.. І тое па святах!..

Арцём. Захар, ты што... таго? Здурнеў? Ці як зразумець? А раптам хто з нашых знаёмых будзе побач праходзіць?

Захар. Няхай і знаёмыя чуюць.

Арцём. Перастань. Спыніся.

Захар. А можа, я для знаёмых і падаю свой голас. Давай на пару, а? Калі яшчэ будзе такая магчымасць?

Арцём. Ды пайшоў ты, вар'ят!

Захар. Рукі прэч ад лепшых вучняў нашай школы! Рукі прэч ад спартсменаў-разраднікаў! Прэч! Прэч! Прэч!..

Працягваюць месці.

*Зацямненне.*

У выцвярэзніку. Карэткін усё яшчэ апранаецца.

Карэткін. Яны шукаюць маю жонку, каб тая разлічылася, вядома ж, за ноч, праведзеную у выцвярэзніку. Дурні! Дзе вы яе знойдзеце, калі я і сам яе не магу знайсці. Праўда, не шукаў... Скажу шчыра... Але ўсім адказваю: на дачы. На ўсялякі выпадак. Каб не ліплі з допытамі... На дачы — і ўсё... А там разумей як хочаш... Дача можа быць, дзе вырошчваюць агурочкі, а можа быць, і дача паказанняў у пракурора. Х-хе!..

Голас Арцёма. Куды мётлы?

Голас Захара. Заданне выканана, таварышы! Дзякуй за давер!

Голас Арцёма. Падмялі чыста!..

Карэткін. Я, відаць, адсюль не выберуся ніколі. Век свабоды не відаць!.. *(Хаваецца пад коўдрай.)*

Заходзяць Арцём і Захар. Стомлена плюхаюцца на ложкі.

Захар. Паміраю!

Арцём. У роце перасохла. Як кажа мой бацька ў такіх выпадках, сліна засыхае ў роце, як цэмент на цагліне...

З'яўляецца Баброва.

Баброва. Дзе гэта вы былі?

Арцём. На працоўным фронце. З мётламі.

Захар. Ай, не кажы, мама. Працавалі.

Арцём. Вуліцу падмяталі...

Баброва. Што?!

Захар. Так, так. А знаёмыя спыняюцца каля нас, спачуваюць...

Арцём. Калі не забераце нас адсюль, Аляксандра Макараўна, то, сказалі, будзем падмятаць перад школай... у мэтах выхавання... каб усе бачылі... А побач будзе стаяць міліцыянер з аўчаркай і сачыць, каб не далі драла...

Захар. Каб не ўцяклі на ўрокі...

Баброва. Хаця... хаця чым я магу вам дапамагчы? А нічым! Збегала на працу, адпрасілася зноў у паліклініку... А заадно табе падсілкавацца прынесла, сыночак. Татка прывітанне перадае.

Захар. Узаемна.

Арцём. А мой, відаць, і не ведае, што я тут...

Баброва. Як гэта так? Як гэта так? Сын трапіў у такую крытычную сітуацыю, а родныя нават не ведаюць. Іх проста не могуць адшукаць! Іголку ў стозе сена лягчэй знайсці, чым тваіх... язык не паварочваецца сказаць: бацькоў... Чаму гэта нас знайшлі адразу? Чаму?

Арцём. Гэта — сямейная тайна, Аляксандра Макараўна. А вы, відаць, бліжэй ляжалі і не так замаскіраваліся...

Баброва. Хм, тайна! Вось і сядзі тут, калі тайна. Маскіроўшчык!

Арцём. Не хочаце забіраць мяне — і не трэба.

Захар. А, мама? Можа, перадумала?

Баброва. Ні за што!

Захар. Прабач, Арцём.

Арцём. Нічога. Толькі ж атрымліваецца, што разам з намі сядзіць у выцвярэзніку і твая маці. Дабравольна.

Баброва *(зніякавела)*. Пачакайце! Так, так, так! Ага, значыць. Лагічна. Усё правільна. *(Корміць Захара, а Захар перадае так, каб не бачыла маці, частку ежы сябру.)* Дома ўсё добра. Ты еш, еш. Кот Васька ляжыць на падаконніку, грэецца на сонейку. Ён, відаць, і не ведае, што ты тут. Я і не сказала, пэўна, яму. Не помню... А-ёй, а-ёй.

Захар. Ды ем, ем, мама.

Баброва. Малойчык. Забрала прас з рамонту. А, вось!.. Радыё раніцай перастала гаварыць. Не адно, дык другое. Нехта ў пад'ездзе напісаў брудныя словы... Для чаго дамафоны паставілі?

Захар. Бачыш, каб я сюды не трапіў, падумалі б на мяне.

Арцём. Пашанцавала.

Захар. Што не робіцца, усё да лепшага.

Баброва. Так, так. А я ім, калі на цябе скажуць, так і заяўлю: «А ведаеце, дзе мой сын быў у той час, калі з'явілася гэтая непрыстойная пісаніна? Не ведаеце? У выцвярэзніку — не хочаце! У яго алібі».

Захар *(здзіўлена)*. Мама! Ты гэта што, сур'ёзна?

Арцём папярхнуўся, кашляе.

Баброва. І квіток пакажу... куды і колькі грошай заплаціла.

Захар. Ну ты зусім!..

Баброва. Не хвалюйся. Абстаўлю ўсё так, быццам не ты быў у гэтай шэрай установе, а кожны з іх. Нямай, нямай.

Захар. Ды куды нямаць, калі ў рот пасля тваіх прамоў нічога не лезе.

Баброва. Значыць, сыты.

Арцём. І я таксама...

Баброва. Увесь выцвярэзнік карміць я не мела намеру. *(Хавае ежу ў сумку).* Рэстаран зачынены, шаноўныя мае! Ну і што ж далей рабіць будзем? Так і сядзець? Чакаць з мора надвор'я? Я такога не пацярплю. Арцём!

Арцём. Што?

Захар. Збірайся...

Баброва. Не збірайся, а давай нумар тэлефона, пайду тарабаніць тваім... Гэта ж трэба!.. Сын у бядзе, а ратаваць няма каму!.. Дажыліся!.. Давай, давай нумар тэлефона, ды хутчэй, а то я і сапраўды траплю з вамі ў паліклініку...

Арцём. Справа ў тым, Аляксандра Макараўна... Няма ў нас тэлефона...

Баброва. Як гэта — няма?

Захар. Вельмі проста... Няма — значыць, няма.

Баброва *(да Захара).* Дык яны што, у джунглях жывуць?

Захар. Апарат разбіўся. А новы купіць няма за што.

Баброва. У цябе што, ніхто дома не працуе, не зарабляе грошай?

Арцём. Чаму? Працуе...

Баброва. Ну вось!..

Арцём. А нам, можа, няма куды званіць?

Баброва. Дык вам ёсць каму званіць. А там разрываюцца, набіраюць нумар хатняга тэлефона... Схадзі, скажы, няхай людзі дарэмна не стараюцца.

Захар. Ім усё роўна няма чаго рабіць. Салдат спіць — служба ідзе.

Баброва. Гора з вамі, бяда.

Захар. Пра Арцёма, прашу цябе, больш ні слова.

Баброва. Ён што, вялікі начальнік?

Захар. Уяві сабе.

Баброва. Жыццё! Жыццё! На рабоце нікога не пакрытыкуй, бо кантракт не працягнуць... На бацьку не гыркні, бо адразу натапырваецца: пайду да другой... дзе мае рэчы?..

Захар. А што ты ведаеш, мама, пра Арцёма?

Арцём. Захар!

Захар. Што «Захар»?! Што «Захар»?!

Арцём. Не трэба, прашу цябе.

Баброва. Мне цікава. Ну-ну. Працягвай, сынок.

Захар. Арцём не дазваляе, хіба ж не бачыш? А бацька ў яго, між іншым, добры чалавек... Не п'яніца, у рэшце рэшт. Хаця і можа іншы раз дазволіць сабе... Не без таго... І не гырчыць, як наш хвалёны: пайду з дому... з мяне хопіць... адна жыві... надакучыла карміць усіх... без мяне з голаду здохнеце!.. Добры бацька ў Арцёма...

Паўза.

Баброва. Давайце даядзім, што засталося. Не панясу ж я дамоў... *(Выкладвае з сумкі ежу, частуе і Арцёма.)* Я б цябе выкупіла, Арцёмка, але ў мяне няма грошай. Бегала, думала, перахаплю ў каго са знаёмых... Аднак у тых знаёмых так у кашальку, як і ў мяне... Аднолькава... Вецер гуляе...

За перакусам іх заспявае Маставая.

Маставая. Смачна есці!

Убачыўшы класную, Арцём папярхнуўся, узняўся з ложка. За ім устаў і Захар.

Арцём. Добры дзень, Наталля Уладзіміраўна!

Захар. Вы праходзьце...

Маставая. Дзякуй. Знаёмы пакой...

Захар. І нам, Наталля Уладзіміраўна. Мы ж на экскурсію сюды прыходзілі.

Арцём. Разам з вамі. Помніце?

Маставая. І вам, як высветлілася, тут спадабалася.

Арцём. Не, зусім не... Што тут можа спадабацца?

Маставая. А чаму ж тады тут аказаліся?

Захар. Мы выпілі... Сюды цвярозых не прывозяць. Толькі калі на экскурсію...

Арцём. Але пілі дзіцячае шампанскае.

З'яўляецца Сцізорык. Прыносіць пляшку з-пад дзіцячага шампанскага.

Сцізорык. Не заўсёды напісанаму верыць трэба.
Захар. А мы паверылі.
Сцізорык. Яшчэ і сёння так патыхае з бутэлькі, што ачмурэць можна, калі панюхаеш... Гэта вам як класнаму кіраўніку на памяць. *(Выходзіць.)*

Маставая ўзяла бутэльку, не ведае, што з ёй рабіць, а потым усё ж засунула ў сумачку...

Захар. У Арцёма ўчора дзень нараджэння быў...
Маставая. Віншую, хоць і са спазненнем... Хто быў на вечарыне?
Арцём. Ды мы не вечарам... Удзень...
Захар. У нас, атрымліваецца, былі днявіны.
Арцём. А хто быў? Мы з Захарам. Ну і бацька...
Маставая. Зразумела. І бацька, значыць, вас напаіў?
Арцём. Ён купіў нам дзіцячае шампанскае. Ён мне заўсёды яго купляе... калі Новы год ці што... Прыкрае, але піў... больш не было чаго... таму і піў...
Маставая. Ну-ну, далей.
Баброва. Божа ж!..
Захар. А што далей? Бацька павіншаваў Арцёма і пайшоў некуды... А мы слухалі музыку і пілі шампанскае...
Маставая. Шампанскае? Дзіцячае?
Баброва. І я ўжо перастаю таксама верыць ім!..
Захар. Мама! Гэта пазакласны ўрок. Не замінай.

Раптам з-пад коўдры вылузваецца Карэткін. Ён цалкам апрануты, і выгляд у яго даволі прыстойны.

Карэткін. Я, гэта ўсё я!..
Арцём. Тата!
Карэткін. Як бачыш, сынок... я. Гэта я. Прабач.
Арцём. Ды я... я нічога... Што я?..
Захар. Ну блін!
Маставая. Сямейны падрад.

Баброва. Не хапае толькі мамы. Калі яшчэ мама такая!..

Маставая. А я, дарэчы, вашай мамы ніколі не бачыла... Сяргей Васільевіч, як жа так?

Карэткін. Вось так... Такі я дурань... Забіце мяне... Расстраляйце, калі ёсць з чаго... А як атрымалася, так атрымалася...

Маставая. Я ж лічыла вас прыстойным бацькам, у прыклад іншым ставіла...

Арцём. А ён такі і ёсць. Вы не памыляліся, Наталля Уладзіміраўна. Не трэба дакараць майго бацьку... Прашу вас.

Карэткін *(Маставой)*. Пазычце нам грошай. Каб выбрацца адсюль. З гэтага пекла... Я вярну. Хутка. У мяне аванс праз тры дні... Усяго тры дні пачакаеце?

Маставая. А колькі тых грошай патрэбна?

Карэткін . Там скажуць...

Баброва. Могуць сказаць і тут... *(Дастала квіток.)* Шэсцьдзясят тысяч... памножыць на два... Патрэбна, такім чынам, сто дваццаць...

Маставая. Такіх грошай у мяне, на жаль, няма.

Карэткін. Што ж, тады давядзецца нам з Арцёмам тут жыць яшчэ тры дні. Тады ў мяне авансу не хопіць... каб заплаціць за начлег... Тупік тады...

Баброва. Што з вамі зробіш? Так і быць, пазычу... Калі побач сведкі ёсць, то не рызыкую... Наталля Уладзіміраўна, пры вас пазычаю... Бачыце?

Маставая. Я бачу.

Баброва аддала грошы Карэткіну.

Карэткін. Пайду выпісвацца. А што да дзіцячага шампанскага, то мая тут віна... поўнасцю... Я пераблытаў пляшкі... дзве стаялі побач... адна з сапраўдным шампанскім, адна... з разведзеным спіртам... Не тую ўзяў... Трэба ўжо акуляры выпісаць, а я ўсё неяк не выберуся да доктара, каб узяць той рэцэпт.. Ага...

Захар. А мы пакаштавалі — добра пайшло... дзіцячае шампанскае.. Давай яшчэ? Давай. А там і дно паказалася. І на тым дне, як у Горкага, мы і апынуліся...

Карэткін. Усё, больш ніякага шампанскага. А то заўтра прыдумаюць гандляры нашы дзіцячае піва, дзіцячую гарэлку,

дзіцячыя цыгарэты... А мы без задняй думкі... Ат!.. Ды што там!.. Ага!.. Скажыце, скажыце на сходзе, Наталля Уладзіміраўна, усім бацькам скажыце, каб не куплялі ніколі сваім дзецям дзіцячае шампанскае... *(Раптам ён згубіў прытомнасць, пахіснуўся і асунуўся на падлогу.)*

Арцём *(кінуўся да яго)*. Тата-а!

Маставая. «Хуткую»! Выклікайце «хуткую»!

Баброва. Захар, чаму стаіш?

Захар. Ага! *(Выбягае.)*

Баброва. А я за вадой! Вады-ы! Чалавек памірае!.. *(Выбягае.)*

Прыносяць ваду. Тут і Сцізорык, і Князева. Ратуюць Карэткіна. Сірэна «хуткай дапамогі».

Арцём. Я люблю цябе, тата... Не памірай... Як жа я адзін без цябе?!. *(Выносіць Карэткіна з палаты.)*

Сірэна «хуткай дапамогі». У палату вяртаюцца Захар, Баброва і Маставая.

Баброва. А... а грошы? Што, з сабой ён грошы так і павёз?

Захар. Я аддаў.

Баброва. Ёй ці яму?

Захар. Адстань, мама!..

Баброва хмыкнула.

Маставая. Захар, а маці ў Арцёма ёсць?

Захар. Ён забараніў мне пра гэта гаварыць. Усім. Нават вам, Наталля Уладзіміраўна.

Паўза.

Маставая. Значыць, няма... А да мяне толькі цяпер дайшло... бо я ніводнага разу не бачыла маці на сходах... Заўсёды бацька ды бацька прыходзіць... Чысты, паголены... Твар не пакамечаны... Не такі, як сёння, твар... Не сказала б, што бачыла хоць раз яго ў нецвярозым стане...

Захар. Ён не п’е. А што трапіў сюды, у выцвярэзнік, гэта выпадковасць... Сапраўдныя выпівохі сюды рэдка трапляюць... Хто за іх плаціць будзе? Прэзідэнт? Я цяпер толькі гэта зразумеў...

Баброва. Расцеш, сынок, сталееш!..

Захар. А, раскажу! Больш за тое, і бацька ў яго не родны.... Сяргей Васільевіч браў маці з Арцёмам... А яна згулялася... Спярша на месяц знікала... пазней на год... А цяпер, калі Арцём вырас, ён яе больш дадому не пускае... І на парог нават. Праз суд выпісалі. Бадзяецца недзе, а за яе плаціць, так? Дзе жыве і як — ні Арцём, ні Сяргей Васільевіч не ведаюць... Можа, гэта жорстка? Не магу сказаць... але мне тую жанчыну не шкада... Хоць і шкада бывае... што яна стала такой...

Барова. Чаму ж ты маўчаў, нягоднік? Калі я піражкі прынесла?

Захар. Не дазваляў Арцём! Я ж сказаў! І цяпер прыкра, што не стрымаў слова... Але адно мяне суцяшае: я, здаецца, шкоды яму гэтым не зрабіў?

Барова. Во як яно, а! Хто б падумаў! Сцерва, а не матка! Цьфу!

Маставаяя. Цішэй, цішэй. Мы ж тут у гасцях.

Заглянула Князева.

Князева. Патрабуюцца месцы. Тут будзе цяпер жаночая палата. Так што, прабачце!.. Адну ўжо прывялі...

Чуваць, як у калідоры ўзняла гвалт п’яная жанчына... а потым заспявала... Усе выходзяць.

*Заслона.*

## Дзея другая

Школьны клас. За сталом сядзіць Маставаяя. За партай — Арцём і Захар. Заходзіць Барова.

Барова. Не спазнілася? Добры дзень!

Маставаяя. Добры... Пакуль няма галоўнага чалавека. Прадстаўніка завода па вырабе безалкагольных напіткаў... Прозвішча яго? Зараз скажу... *(Зазірнула ў сшытак.)* Калі каго цікавіць... Так, значыць яго прозвішча — Калюжны. Мне яно не аб чым не гаворыць. Не ведаю, як вам.

Арцём. Хакеіст такі ёсць...

Стук у дзверы.

Маставаяя. Заходзьце!..

Уваходзіць Калюжны.

Калюжны. Добры дзень усім!

Амаль усе ў адзін голас. Добры!..

Калюжны. Расціслаў Іванавіч.

Маставая. Чакаем, чакаем, Расціслаў Іванавіч.

Калюжны. Ды быццам мае дзеці ў вашай школе не вучацца. І ўнукі таксама. Чым магу служыць?

Маставая. Ну што, адразу пераходзім да размовы. Спадзяюся, гутарка атрымаецца ў нас сур'ёзная. *(Паставіла на стол бутэльку з-пад шампанскага.)* Ваша тварэнне?

Калюжны. Наша. Пазнаю. Трэці год вырабляем.

Заходзіць Ленка.

Ленка. А яны вось дзе! Ну блін! А што... а што ў вас тут? Зноў шампанскае п'ём, так? Не, мяне больш не прымусіце!.. Хлопцы, а вы куды падзеліся? Трое сутак не бачыліся, здаецца? Сёння што ў нас? Серада?

Маставая. Лена, сядзь і не тарахці.

Захар. Можаш і каля мяне.

Ленка. Ды я яшчэ п'яная... У роце перасыхае, вады вып'ю — галава кругам ідзе... Плюх у ложак — і сплю! Як? І хоць бы хто патэлефанаваў, дзе я, што са мной!.. Сябры называецца!.. Памрэш — і ведаць не будуць!.. Наталля Уладзіміраўна, закурыць тут можна?

Маставая. Ты што, дзяўчынка, такое гамоніш, а!.. Ідзі дадому, я табе сказала, іначай!.. Ступай!..

Захар. Яна больш не будзе.

Ленка. Дык гэта ж наша бутэлька! На стале! Вы што, яе, бутэльку, судзіць сабраліся? І правільна! Так ёй і трэба! *(Тройчы паторкала ў бутэльку.)* На! На! На! Падла!.. Ці яшчэ дабавіць? І хто такую гадасць робіць? Пакажыце мне таго д'ябла!.. Я яму вушы натру, што звінець будуць, як пасля марозу!..

Калюжны. Посуд тут ні пры чым. У дадзеным выпадку — пляшка. У бутэльку можна і кіслаты наліць. Вы ж яе не станеце піць?

Захар. Я неяк газіраванага напітку чырвонага выпіў шклянку, у мяне язык пунсовы быў яшчэ больш дзён, чым Ленка п'яная. Добра, што хоць не нос. А то б за Дзеда Мароза прынялі.

Ленка. Але я п'ю звычайную ваду, шчыра кажу. І чай. *(Заўважыла Баброву.)* А-а, свякрушачка мая родненькая!.. Другая мамулечка!.. *(Абдымае Баброву.)*

Баброва. Дык і ты, значыць, з імі была?

Ленка. Яны ж без мяне прападуць!

Баброва. А гаварылі: мы і бацька. Утрох.

Ленка. Хлусы! І не сорамна вам маю свякруху абводзіць вакол пальца? Ну я пайду. Унізе толькі што вады выпіла і адчуваю: зноў плыву...

Баброва. Плыві, плыві дамоў, дарагуша.

Захар. Можна, Наталля Уладзіміраўна, я давяду Ленку дадому. Усялякае можа здарыцца на вуліцы. А?

Маставая. Канешне, канешне.

Ленка. Арцём, а ты што? Я прывыкла хадзіць паміж, пасярэдзіне. Давай, пайшлі!

Маставая. Я ніколі такой Ленку не бачыла.

Ленка. Бо Ленка ніколі, можа, і не піла шампанскага. Пайшлі, Захар!

Баброва. Не затрымлівайся ж, сын! Глядзі там!..

Ленка павярнулася, паказала Бабровай язык і знікла.

Баброва. Не трэба, не трэба, не трэба мне такая нявестка!..

Маставая. Прабачце. Я і не ведала, што ў маім класе такія вучні... І ўсе трое — выдатнікі... самае галоўнае. На іх арыентую іншых... каб прыклад бралі... Арцём на рэспубліканскай алімпіядзе на матэматыцы нядаўна перамог, Захар з Ленкай ездзілі ў сталіцу на алімпіяду па гісторыі і лінгвістыцы... Узнагароды таксама прывезлі... Ні дыплом універсітэта, ні дзесяцігадовы педагагічны стаж не ідуць ні ў якое параўнанне, аказваецца, з чаркай гарэлкі... Расціслаў Іванавіч, мы разумеем, што тут не гарвыканкам, не райсавет... не пракуратура і не міліцыя... Тут — школа... І мы, магчыма, не мелі такога права выклікаць вас як прадстаўніка завода безалкагольных напояў на дыван і рабіць допыт, кідаць папрокі, а такое, безумоўна, будзе... Прадбачу ўсё гэта, таму мушу папрасіць прабачэння... Загадзя, так сказаць.

Калюжны. Ну што вы! Я здагадваюся, пра што размова будзе. Калі б наш завод выrабляў аўтамашыны, а нехта разбіўся, бо парушыў правілы дарожнага руху, то мяне як прадстаўніка завода выклікалі б таксама на дыван?

Мастaвая. Мы зусім пра іншае...

Калюжны. Тады пра што ж?

Мастaвая. Сваім вырабам вы набліжаеце дзяцей да алкагалізму.

Калюжны. Ну-ну, цікава.

Мастaвая. Тут цікавага мала, на жаль. Уявіце сабе: сядзіць за святочным сталом немаўля, пад мяккае месца падклалі яму падушачку, каб хоць вочы бачылі, што робіцца на стале, а ў руцэ — бакал... З шампанскім. Дзіця гордае: таксама п'ю! Паглядзіце на мяне. Звярніце ўвагу. Хоць там — бурда, тое, што ў бутэльцы, зусім піць, на мой погляд, нельга. Жах, што там!.. Я ўчора і сама купіла бутэльку дзіцячага шампанскага. Верыце, паўкеліха выпіла, астатняе выліла... Гэта, відаць, зроблена наўмысна для таго, каб дзіцёнак таксама моршчыўся, як дарослыя, калі п'юць гарэлку, каньяк...

Калюжны. Шаноўная Наталля Уладзіміраўна, мы ж, як кажуць, не шарашкіна кантора. На выраб шампанскага адпаведны сертыфікат. Прадукт прайшоў ого колькі інстанцый, перш чым трапіць на стол... Ну! А як вы думалі! Мы ж сур'ёзная арганізацыя...

Мастaвая. Гэта тым больш трывожна, што ёсць на выраб шампанскага дазвол нейкіх там дзяржаўных структур. Калі б якая падпольная фірма займалася разбэшчваннем моладзі, тады іншая справа. Тады зусім іншая справа! Разумееце? А калі выраб шампанскага падахвочвае дзяржава — гэта, даруйце, нікуды не варта. Нонсэнс!

Калюжны. Цяпер жа не той час. Не той. Кожнае прадпрыемства вырабляе тое, што яму прыносіць прыбытак, што яму выгадна. Рынак. Ёсць попыт. Нічога не паробіш. Людзі ж купляюць!..

Мастaвая. Пакуль разбяруцца, што да чаго, вы шмат шкоды наробіце. Цікава, а як прозвішча таго чалавека, які прыдумаў гэты брэнд?

Калюжны. Не ведаю.

Маставая. Яно што, засакрэчана?

Арцём. Як Каралёў Сяргей Паўлавіч!

Маставая. А, можа, Расціслаў Іванавіч, гэта вы і ёсць той самы вынаходнік дзіцячага шампанскага?

Калюжны. Думаю, гэтая вынаходка прыйшла да нас...

Маставая. Ну правільна... Адтуль... З Захаду... На табе, божа, што нам не гожа... Яшчэ, чаго не ўбачыш, прыдумаеце такое, што будуць смактаць нашы дзеткі праз соску... каб лепш спалі... А навошта нам здаровая нацыя! Нам — прыбытак любой цаной, грошы!.. Ведаеце, у нашай вёсцы такая трагедыя была... Маці, каб дачушка спала, не замінала ёй лён у полі збіраць, карміла яе макам... чорным макам... І Волечка, яе так звалі, стала дурнічкай... Гусак пасвіла... І нядоўга пражыла... Гэта якраз той выпадак, калі яе смерць не засмуціла землякоў... Бывае і такое... Толькі казалі адно аднаму землякі Волечкі: «Адмучылася, адгаравала...» Хто і што тады ведаў пра той чорны мак!..

Калюжны. Дарэчы, наша дзіцячае шампанскае прывезла з Ялты залаты медаль.

Маставая. А мой сусед мае сабаку, у якога гэтых медалёў!..

Арцём. Як у Брэжнева Леаніда Ільіча.

Маставая. Арцём, не перабівай, калі старэйшыя размаўляюць.

Баброва. Старэйшая тут я. Але я маўчу.

Маставая. Дык вось, у сабакі майго суседа... тэр'ер гімалайскі, здаецца... медалёў вельмі многа... вашаму заводу да яго далёка... ён нават іх насіць не можа сам... гаспадар носіць... А яна ўкусіла хлопчыка!.. І якраз у тым месцы цапнула, дзе артэрыя... Ледзь выратавалі. Так што не чакаць варта, пакуль нехта ўкусіць, а трэба не даводзіць да гэтага, Расціслаў Іванавіч, не ствараць нам усім такую сітуацыю. Спыніце выраб дзіцячага шампанскага, спыніце!..

Калюжны. Ад мяне мала што залежыць. Ды і, калі шчыра, ад дзіцячага шампанскага яшчэ ніхто не трапляў ніводнага разу ў выцвярэзнік.

Маставая. Згодна. Я згодна з вамі. Але яно набліжае сустрэчу многіх сённяшніх маладых людзей з ім, з выцвярэзнікам. На-бліжае!.. Вось што небяспечна!..

Арцём. Мы не збіраліся піць на маім дні нараджэння нічога моцнага. І гэтая вось недарэчная сітуацыя... звычайная бацькава памылка... зрок у яго слабы... зваршчыкам на будоўлі ўсё жыццё працуе... справакавала нас... ці як тут сказаць... І мы не ўстаялі! Хаця, разумею, маглі б. Не атрымалася... Маладым, канечне, іншы раз хочацца пакаштаваць таго, чаго ніколі раней не каштаваў. Я прашу прабачэння ў Наталлі Уладзіміраўны, у мамы Захара...

Баброва. А мой не папросіць!.. Увесь бацька!..

З'яўляецца дырэктар школы Хурсанава. Яна нечым усхвалявана.

Хурсанава. Што гэта ў вас тут за зборышча? Наталля Уладзіміраўна, я ў вас пытаю!..

Маставая. А што здарылася, Святлана Мікалаеўна?

Хурсанава. Спярша адкажыце вы на маё пытанне.

Маставая. Мы вырашаем, як не даць... як не дазволіць, каб і надалей трапляла да школьнікаў дзіцячае шампанскае...

Хурсанава. І што ж, знайшлі выйсце?

Маставая. Пакуль — не... на ўзроўні размовы... Ніякіх пагадненняў не падпісвалі...

Хурсанава. Тады павучыцеся ў сваіх вучняў. Так, так, не здзіўляйцеся. У Захара і Ленкі. Толькі што мне дырэктар завода безалкагольных напіткаў патэлефанаваў... голас дрыжыць у чалавека, быццам ён у аварыю трапіў і цудам жыць застаўся... з-пад абломкаў вылез... Гэта ж трэба дадумацца! На прахадной завода ляглі і не даюць машынам ні выехаць, ні заехаць.

Баброва. Яму ж нельга ляжаць на зямлі!.. У яго запаленне лёгкіх нядаўна было!..

Калюжны. У нас там асфальт.

Хурсанава. Расціслаў Іванавіч, прабачце, я так расхвалявалася, што вас і не заўважыла.

Калюжны. А паколькі і я атрымаў тут да вашага прыходу на сухары, то таксама дрэнна бачу і вас, Святлана Мікалаеўна. Адзін — адзін.

Хурсанава. Вось і добра.

Арцём. А я чаму тут? *(Падбег да дзвярэй.)*

Хурсанава. Спыніся, Карэткін! (*Арцём знерухомеў.)* Сядзь. Ужо позна. Спектакль закончыўся. *(Арцём сеў.)* Ну Захара і Ленку, канешне ж, адцягнулі, выпусцілі некалькі аўтамашын з гатовай прадукцыяй... Дык яны ўвесь клас сабралі... І ляглі!.. Усім класам!.. І ляжаць сабе!.. Як на пляжы!.. І што цікава, каб час не губляць, урокі вучаць... Транспарант намалявалі: «Далоў дзіцячае шампанскае!» Тэлебачанне запрасілі.

Баброва. Святлана Мікалаеўна, гэта не мой... мой такое не мог арганізаваць...

Хурсанава. А шкада! Значыць, кіраваць у вашым доме, калі ўсё складзецца, будзе Ленка Піскарова.

Баброва. Ды што вы такое кажаце, Святлана Мікалаеўна! Ну вас!.. Не губіце!..

Хурсанава. Наталля Уладзіміраўна!

Маставая. Слухаю, Святлана Мікалаеўна!

Хурсанава. Пасля ўсяго гэтага... не ведаю, як назваць... адным словам, як вызваліцеся, загляніце да мяне. *(Выходзіць.)*

У клас заглядвае Дзяжурная.

Дзяжурная. Карэткін Арцём тут?

Маставая. Арцём, цябе.

Дзяжурная. Да тэлефона!..

Арцём накіроўваецца на выхад. У дзвярах сутыкаецца — твар у твар — з Ленкай, якая спачатку піхнула перад сабой папяровую скрыню, а потым паказалася і сама.

Ленка *(Арцёму)*. Туды ці сюды!..

Арцём. Туды! *(Пераступіў цераз скрыню, знік за дзвярыма.)*

Ленка *(з крэктам дасунула скрыню да стала)*. Ніколі не здагадаецеся, што я вам прынесла. Ну хто самы смелы!

Баброва. Тое, што ты прынесла, мяне, прынцэса, менш за ўсё хвалюе. *(Строга.)* Дзе Захар?

Ленка. Пачакай, мамуля! Затрымліваецца наш Захар. Што, няма смелых? Наталля Уладзіміраўна, з вас, ці як, пачнём?

Маставая. Зноў... шампанскае, можа?

Ленка. Не-а. Слова з чатырох літар.

Баброва *(ажно цягне руку)*. Вада. Вада, вада!..

Ленка *(Бабровай)*. Адстаём! І прыкметна!.. Падцягнуцца трэба!.. Ну хто наступны?

Баброва. А ты назаві першую літару.

Ленка. «П». На «П».

Баброва *(здзіўлена)*. І чатыры літары?

Ленка. І чатыры! На «А » заканчваецца. *(Калюжнаму.)* А вы, малады чалавек, што скажаце? Даю падказку: прадукцыя вашага завода. Паступіла толькі што ў наш школьны буфет. На дыскатэку.

Калюжны *(устаў, паглядзеў на дзверы)*. Мне працаваць трэба. Даруйце. *(Выходзіць.)*

Ленка *(смяецца ўслед Калюжнаму)*. А-а, спалохаўся!.. Не думай, шаноўны, што на тым і скончылася!.. Да сустрэчы!.. У нас у школе толькі дзясятых класаў пяць!.. Сустрэнемся на барыкадах!.. *(Торкае кожнаму ў рукі па бутэльцы піва)*. Калі ласка! Калі ласка! Калі ласка!... *(З'яўляецца Захар. Ён нясе на падносе горку піражкоў.)* А цяпер разам прачыталі. Услых. Па маёй камандзе: раз-два-тры!

Усе разам. «Пі-ва дзі-ця-ча-е».

Баброва. Не можа быць!

Маставая. Гэта што, розыгрыш, Ленка?

Ленка. Не-а. Гэта — праўда. Гэта праўда нашага жыцця.

Захар. Частуйцеся. Бярыце. Свежыя. Толькі што з пліты... А то носімся цэлы дзень галодныя!.. Ну смялей жа, смялей!..

Усе ўзялі па піражку. Бутэлькі ж з півам паставілі назад у скрыню. Уваходзіць, шчаслівa ўсміхаючыся, Арцём.

Арцём. Мне толькі што... мне толькі што бацька... Сяргей Васільевіч... пазваніў... З аўтамата... У іх там, у калідоры, у кардыялогіі, аўтамат ёсць... Перадае ўсім вялікае прывітанне... Прывітанне вам усім ад майго самага добрага і блізкага чалавека!..

*Заслона.*

## ЗМЕСТ

Літаратурна-мастацкае выданне

**ТКАЧОЎ** Васіль Юр'евіч

# МІШЭНЬ

*Аповесці, апавяданні, п'еса*

Рэдактар *Н. Г. Шчарбакова*
Мастакі *А. В. Жыткевіч, В. П. Калінін*
Мастацкі рэдактар *В. П. Калінін*
Камп'ютарная вёрстка *Д. С. Камейша*
Стыльрэдактар *Н. Г. Шчарбакова*

Падпісана да друку 25.02.2020. Фармат 70×90 $^1/_{16}$.
Папера афсетная. Друк афсетны.
Ум. друк. арк. 21,06. Ул.-выд. арк. 14,99.
Тыраж 1800 экз. Заказ

16+

Рэдакцыйна-выдавецкая ўстанова
«Выдавецкі дом «Звязда».
Пасведчанне аб дзяржаўнай рэгістрацыі
выдаўца, вытворцы, распаўсюджвальніка друкаваных
выданняў № 1/8 ад 02.08.2013.
Вул. Б. Хмяльніцкага, 10а, 220013, г. Мінск,
Рэспубліка Беларусь.

Рэспубліканскае ўнітарнае прадпрыемства
«Выдавецтва «Беларускі Дом друку».
Пасведчанне аб дзяржаўнай рэгістрацыі выдаўца,
вытворцы, распаўсюджвальніка друкаваных выданняў
№ 2/102 ад 01.04.2014 г.
Пр. Незалежнасці, 79, 220013, г. Мінск,
Рэспубліка Беларусь.